30 красавіка
аўторак, №№ 109-110
(22912 — 22913)



# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

# УГОДКІ ЧАРНОБЫЛЯ ЯК ПАДСТАВА ДЛЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КАНСАЛІДАЦЫІ?

КРАСАВІК у Беларусі выдаўся на дзіва напружаным, эмацыянальным, супярэчлівым месяцам. У палітычным жыцці краіны адбылося шмат падзей, якія падзялілі грамадства на дзве часткі: прайшлі мітынгі пад чырвонымі і бела-чырвона-белымі сцягамі, была падпісана дамова з Расіяй, якую адны палічылі святам справядлівасці, а другія — падзеяй нацыянальнай ганьбы... Ці то эміграцыя, ці то еўрапейскае турнэ Зянона Пазняка вылілася ў вострыя негатыўныя водгукі адносна Беларусі за межамі нашай краіны і ў прапагандысцкую кампанію супраць самога Пазняка і БНФ — унутры Беларусі.

За правакацыйны верш быў арыштаваны і змешчаны ў следчы ізалятар КДБ скандальна-вядомы паэт і лідэр «Правага рэванша» Славамір Адамовіч, а ў «Нашай ніве», дзе ён быў пазаштатным супрацоўнікам, правялі вобыск... У людской свядомасці быў абуджаны цень СССР, які адна частка грамадства (пераважна старэйшая) горача вітала, а другая, маладзейшая, з абурэннем адкідвала прэч...

За некалькі дзён да з'яўлення ў Вярхоўным Савеце дагавора ад 2 красавіка для ратыфікацыі ў парламенцкім фае былі вывешаны лісты грамадзян Беларусі, адны з якіх горача віталі сам дагавор, а другія ганьбілі і патрабавалі «не прадаваць Беларусь». Прычым у дэпутатаў рэакцыя на гэтыя лісты таксама была розная: адны іх уважліва і ўдумліва чыталі, а другія, кінуўшы позірк, адварочваліся і называлі іх лухтой... Не было бачна жадання прадстаўнікоў абедзвюх грамадскіх плыняў прыслухацца адна да адной і пачуць...

Над усёй гэтай складанай і супярэчлівай атмасферай стаяла ў красавіку адна падзея, якая павінна была часова прымірыць два лагеры і паслужыць падставай для нацыянальнай кансалідацыі. Гэтая падзея — дзесятыя ўгодкі трагічнай для ўсіх нас аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Нездарма ж у афіцыйных заявах, пастановах гучалі прапановы адкласці 26 красавіка ўсе палітычныя спекуляцыі вакол Чарнобыля, ад якіх бы партый і рухаў яны не зыходзілі б. Прапаноўвалася нават аб'яднаць у афіцыйным жалобным мітынгу калоны з чырвонымі і бела-чырвона-белымі сцягамі. Апошняе падтрымкі не знайшло, каб не сутыкаць прыхільнікаў розных ідэй лоб у лоб. Нягледзячы на тое, што не абышлося без палітычных заяў вакол тэмы Чарнобыля, што адны ўспаміналі аб тым, што ліквідацыі наступстваў аварыі перашкодзіў распад СССР, а другія — аб тым, што менавіта камуністычная ўлада замоўчвала інфармацыю аб маштабах трагедыі, — усведамленне таго, што ўсе мы знаходзімся ў адной лодцы, што ўсе мы ў той ці іншай ступені пацярпелі ад Чарнобыля, — было вынесена нашым грамадствам з гэтага сумнага юбілею.

Пачалося новае дзесяцігоддзе з чарнобыльскай бядой. Ці не стане яно пачаткам забыцця гэтага ліха, ці не захавае яно раскол у нашым грамадстве — прычым не толькі па праблемах, звязаных з Чарнобылем? Цяжка на гэта адказаць сёння. Але заглядаючы ў блізкую перспектыву, у май і чэрвень гэтага года, можна прадбачыць, што і гэтыя месяцы будуць у палітычным жыцці Беларусі не бязвоблачнымі. Гэта, дарэчы, не так страшна пры адной умове: захавання канстытуцыйнасці і законнасці.

На жаль, падзеі 26 красавіка ў Мінску засведчылі, што нацыянальнай кансалідацыі вакол чарнобыльскай бяды не адбылося. Рэпартажы аб мітынгах і шэсці «Чарнобыльскі шлях» чытайце на 4-й старонцы.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

***Чарнобыльскія камяні... Колькі іх на магілах тых, чыё жыццё абарвалася ад жудаснай катастрофы. Чорным смуткам ляжаць гэтыя камяні на нашых сэрцах.***

***Чарнобыльскі камень — так яшчэ празвалі людзі тое месца, дзе ў Мінску ў невялічкім парку стаіць абеліск — сімвал нашай агульнай бяды.***

***Каля гэтага каменя праваслаўная царква сёння будуе часоўню. Па ініцыятыве двух буйных царкоўных канфесій, чарнобыльскіх грамадскіх арганізацый, ліквідатараў і перасяленцаў у дзень смутнай гадавіны аварыі на ЧАЭС тут адбыўся крэсны ход і жалобны мітынг.***

***Тысячы мінчан сышліся сюды, каб нізка пакланіцца тым, хто выратаваў нас ад чарнобыльскага полымя. На жалобны мітынг з удзелам кіраўніцтва краіны, Прэзідэнта прыехалі таксама прадстаўнікі Расіі, Украіны, былі тут і шматлікія госці з далёкага замежжа.***

***Колькі трагедый перажыў беларускі народ за сваю гісторыю... Колькі жалобных камянёў засталося на гэтым пакутным шляху... Чарнобыльскі камень — самы цяжкі, але якім бы вялікім ён ні быў, на ім не ўмесціцца імёны ўсіх ахвяр, што пайшлі і яшчэ пойдуць з жыцця, усе лічбы нашых страт, назвы атручаных, закапаных у зямлю вёсак...***

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**
**Фота аўтара.**

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**




## Будаўніцтва жылля: за першы квартал — усяго 7 працэнтаў

**Жыллёвая праблема ў нашай краіне ў апошні час набывае асаблівую актуальнасць. Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Міністэрстве статыстыкі і аналізу Беларусі, у студзені—сакавіку гэтага года вытворчымі структурамі было асвоена 3407 мільярдаў рублёў капітальных укладанняў і выканана будаўніча-мантажных работ на 1938 млрд. рублёў. Аб'ём капітала-ўкладанняў у супастаўных цэнах у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года скараціўся на 28 працэнтаў, будаўніча-мантажных работ — на 31 працэнт.**

Будаўнічыя фірмы ўсіх формаў уласнасці ў першым квартале здалі ў эксплуатацыю жылыя дамы агульнай плошчай 202 тысячы квадратных метраў, што складае 7 працэнтаў ад прагназіруемага ўводу ў дзеянне жылля ў 1996 годзе. Трэба таксама адзначыць, што запазычанасць заказчыкаў за выкананыя будаўніча-рамонтныя работы ў першым квартале склала 1308 млрд. рублёў, ці 47 працэнтаў ад агульнага аб'ёму выкананых работ. У тым ліку па аб'ектах, якія будуюцца за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту, — 266 млрд. руб., мясцовых бюджэтаў — 284 млрд. рублёў.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## МІНУЛА ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ГАДОЎ.

**ПАЛЕССЕ І ЯГО ЛЮДЗІ Ў ЧЫМСЬЦІ ЗМЯНІЛІСЯ, А Ў ЧЫМСЬЦІ ЗАСТАЛІСЯ РАНЕЙШЫМІ**

*Гл. 8-9 стар.*



● *Хлеб на покуці. Альманы.*



● *Кабета з Альман.*

ГЭТА МЫ, ГОСПАДЗІ...

# ДРАБНЕЕМ, СПАДАРЫ, ДРАБНЕЕМ...

**Агульнавядома, у якіх каласальных маштабах цяпер крадуць. На гэты раз я не кажу пра буйныя аферы вакол многіх мільёнаў ці нават мільярдаў рублёў. Давайце прыгледзімся да так званых «дробязей». Апошнім часам з'явілася шмат таго, што яшчэ пару гадоў назад прынялі б за жарт ці анекдот. Скажам, і раней кралі жывёлу з калгасных фермаў. Але каб у сістэму ўвайшлі «рэйды» па прыватных хлявах... Яшчэ адна «навінка» — у чалавека «накрыўся» штакетнік, якім ён абгарадзіў свае соткі. Крадуць відэльцы са сталовых, газеты з паштовых скрынак і нават фіранкі з бальніцы. Аднак нават на гэтым фоне здаецца неверагодным тое, што...**

## МАШЫНІСТ СПЫНІЎ ЦЯГНІК, КАБ... УКРАСЦІ МЯШОК З СОКАМ

Цяжка паверыць, але гэта зусім не анекдот, а нашы новыя рэаліі. Яны мелі месца 21 красавіка непадалёк ад чыгуначнага прыпынку «Бірулічы» ў Гродзенскім раёне. Але пра ўсё па парадку.

Гаспадар аднаго хутара вырашыў сабраць троху соку ў пасадцы, што непадалёк ад хаты і зусім побач з чыгункай. Чалавек паставіў пад бярозамі пару поліэтыленавых саракалітровых мяшкоў і стаў чакаць, пакуль нацячэ. Дачакаўся гасцей. Спачатку заявіліся двое мужчын, відаць, рабочых з чыгункі. Убачыўшы, што каля бяроз нехта корпаецца, чалавек падышоў туды. Аказалася, што гасцям захацелася соку. Але не гэта абурыла пенсіянера. Яму было зусім не шкада гэтай «вады», папрасілі б — даў бы людзям і дзесяць, і дваццаць літраў. Аднак не прасілі. Больш таго, чэрпалі з мяшка невядома ў што запэцканай пасудзінай. Карацей, поўная антысанітарыя.

— Забірайце, што засталося, — гаворыць вясковец.

— Нам больш не трэба.

— А мне што, трэба пасля вашага бруду?

На вачах у гасцей тое, што нацякло за суткі, у лічаныя секунды апынулася на зямлі. Але гэта былі яшчэ, як кажуць, кветачкі. Назаўтра, гадзін у 10 з «хвосцікам», якраз насупраць адсочаных бяроз спыніўся цеплавоз. З чаго б гэта?

Можа, нейкая паломка? Хутка прычына высветлілася: аднаго мяшка з сокам пасля наведвання як не бывала.

У той жа дзень, прыкладна ў 17.10, прычым у тым жа самым месцы, здарылася яшчэ адна «аварыя». З той толькі розніцай, што спыніўся не асобны цеплавоз, а... прыгарадны пасажырскі цягнік, які рухаўся з абласнога цэнтра. У той момант уладальнік мяшкоў корпаўся па гаспадарцы і аб тым, што гэта было за «ЧП», яму расказала жанчына з суседняга хутара. Яна была вельмі здзіўлена спыненнем цягніка, падумала, што нехта пад яго трапіў. Але, дзякуй Богу, абышлося толькі яшчэ адным украдзеным мяшком з бярозавікам. На вачах у дзесяткаў пасажыраў, якія праз вокны вагонаў назіралі за гэтай «аварыяй». Смешна было?

Дарэчы, кажуць, што кожнае незапланаванае спыненне цягніка аўтаматычна фіксуецца і машыністу трэба гэта абавязкова растлумачыць. У такім выпадку чыгуначнае начальства можа пацікавіцца, якая ж неспадзяванка напаткала іх падначаленых непадалёк ад прыпынку «Бірулічы»...

Зрэшты, сёння можна лёгка абдурыць не толькі вясковага пенсіянера, але і дзяржаву. Прычым таксама даволі нечаканым спосабам. Асобныя «спецыялісты» дадумаліся да таго...

## ЯК УКРАСЦІ Ў ДЗЯРЖАВЫ КВАТЭРНУЮ СУБСІДЫЮ

Многія нашы землякі цяпер месяцамі не плацяць за сваё жыллё. Па розных прычынах. Але большасць не таму, што адсутнічае сумленне, а таму, што няма работы, матэрыяльнае становішча гаротнае. У выніку толькі ў ЖРЭУ Ленінскага раёна г. Гродна на сённяшні дзень маюць каля 450 мільёнаў рублёў запазычанасці ад жыльцоў дзяржфонду. Да злосных неплацельшчыкаў прымаюць меры, у прыватнасці, ставяць пломбу на газавую пліту, па месцы іх працы накіроўваюцца завераныя натарыусам дакументы, каб даўгі па кватэрнай плаце ўтрымлівалі з заробку. Праз паўгода можа нават дайсці да суда з вопісам маёмасці. Тым жа людзям, якія зусім не «топяць» апошнія грошы ў гарэлцы, а сапраўды іх не маюць, належыць дзяржаўная субсідыя. Тут існуе пэўны парадак. Неабходна прадставіць у выканком даведку аб супольным даходзе сям'і і, калі плата за жыллё складае больш за пятнаццаць працэнтаў ад гэтага даходу, можна разлічваць на матэрыяльную падтрымку.

Дарэчы, са жніўня мінулага па 1 красавіка сёлетняга года ў Гродне налічана 2 мільярды 416 мільёнаў рублёў жыллёвых субсідый, іх атрымалі каля 15 тысяч сем'яў, прычым некаторыя — двойчы. Аднак у гарадской службе субсідзіравання ў сувязі з павышэннем тарыфаў на камунальныя паслугі чакалі горшага. На сёлетні год у бюджэце закладзена на субсідыі 10,8 мільярда рублёў, але звяртаюцца па іх пакуль не 40 працэнтаў жыльцоў, як меркавалася ў некаторых прагнозах, а прыкладна 6-7 працэнтаў. Некаторыя людзі, можа, і не ведаюць толкам пра гэта субсідзіраванне. Іншыя, магчыма, так выхаваны, што будуць перабівацца з малака на хлеб, але не пойдуць у выканком па грошы.

А вось спадар Р. пайшоў. Прынёс даведку, з якой вынікала, што ён жабрак, бо не атрымлівае ніякай зарплаты ў сваім МП. На гэтай падставе дзяржава за тры месяцы выдала яму 845 тысяч рублёў. Але затым служба субсідзіравання разам з падатковай інспекцыяй пацікавілася, ці сапраўды гэты чалавек такі няшчасны. Праверылі — ёсць у яго даход, ды толькі схаваны. Такім жа чынам быў «злоўлены» Ф., дырэктар таварыства з абмежаванай адказнасцю. Ён таксама толькі на паперы не меў зарплаты і ўжо паспеў зарабіць на субсідыях паўмільёна. Не хапала яшчэ, каб па матэрыяльную дапамогу прыязджалі на «Мерседэсе»...

Ну што тут скажаш? Драбнеем, спадары, драбнеем. А потым яшчэ здзіўляемся, у каго ж гэта навучыліся красці нашы дзеткі...

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

СІТУАЦЫЯ

# ЗЯМЛІ БОЛЬШ, А РАДАСЦІ МЕНШ

**Неяк у размовах пра калгасы ды фермераў мы зусім забыліся пра прыватныя падсобныя гаспадаркі. У свой час, калі пра іх і гаварылі, то як правіла ў негатыўным плане. Нават са сваімі 15—30 соткамі калгаснік лічыўся тормазам у будаўніцтве новага грамадства. Калгас падаваўся амаль што як вышэйшая форма эканамічных адносінаў на вёсцы.**

Цяпер ужо гаворыцца адкрыта, што роля прысядзібных участкаў рэзка ўзрасла. На рынак павялічылася паступленне прадуктаў. А гэта напрамую звязана з тым, што зямельныя надзелы калгаснікаў павялічыліся больш чым у два разы.

За апошнія пяць гадоў па Брэсцкай вобласці яны выраслі з 25 да 60 сотак на калгасны двор, што дало магчымасць людзям больш вырошчваць агародніны і гадаваць жывёлы.

На 240 тысяч прыватных гаспадарак вобласці прыпадае 140 тыс. кароў і 286 тыс. свіней. Хаця гэта ў параўнанні з колькасцю двароў не вельмі шмат, але ўсё ж калі ў 1990 годзе 51 працэнт гаспадарак не мелі ніякай жывёлы, то летась іх засталося 22 працэнты. У гэтую лічбу галоўным чынам трапілі старыя людзі, якія фізічна ўжо не могуць трымаць хоць нейкую жывёлу.

Рост гэтых працэнтаў у многім прадыктаваны эканамічнай сітуацыяй у краіне. Свая сельскагаспадарчая прадукцыя значна змяншае эканамічны прэс. Частка прадуктаў застаецца сабе, а другая паступае на рынак. Кінуліся і гараджане ў вёску, на дачы, таксама ж не ад добрага жыцця.

Ад усёй сельскагаспадарчай прадукцыі, вырашчанай на Брэстчыне ў 1995 годзе, значная частка належыць прыватным гаспадаркам. Бульбы — 90 працэнтаў, агародніны — 66, малака — 42 працэнты.

Гэтыя выкладкі не з'яўляюцца канчатковымі. Напэўна, рэальны ўклад калгасных двароў значна большы. І тут яшчэ ёсць пэўная супярэчнасць. Прадукцыі сяляне вырабляюць больш, а закупкі яе скарачаюцца. Значна ўпала закупка садавіны і агародніны, а закупкі малака скараціліся на 84 працэнты з 1990 года. У вобласці толькі Ганцавіцкі і Баранавіцкі раёны не дапусцілі змяншэння закупак, а ў астатніх закупка малака ў параўнанні з мінулым годам скарацілася на 40—60 працэнтаў.

І справа тут не толькі ў нежаданні мясцовых уладаў займацца гэтай праблемай. Які сэнс калгасніку здаваць малако па паўтары тысячы за літр, калі на рынку плацяць тры? І гараджаніну больш выгадна купіць малако на рынку па той жа цане, што і ў магазіне, бо якасць прадукту лепшая. А закупляць малако па рыначных цэнах таксама не выходзіць — няма выгады.

І тут аглядамі-конкурсамі справе не дапаможаш, хаця і ёсць спробы арганізаваць мерапрыемствы такога плана.

Але вернемся да прысядзібных участкаў калгаснікаў. З павелічэннем іх памераў значна ўзрасла і праблема іх апрацоўкі. Чым пасадзіць, забаранаваць, абагнаць... тую ж бульбу? У калгасах адчуваецца недахват коней, хамутоў, вазоў, плугоў... Неяк неўпрыкмет калгасны інвентар разваліўся ці «асеў» па дварах калгаснікаў. У многіх калгасах, каб атрымаць каня, трэба запісацца ў чаргу і чакаць, ды і з брыгадзірам пажадана быць у добрых адносінах. Таму прыход вясны — гэта галаўны боль для селяніна.

На прыкладзе прысядзібных участкаў відаць, што раздача зямлі ў прыватныя рукі не вырашыць праблемы, а перавядзе яе ў іншую плоскасць. Паўстане пытанне апрацоўкі гэтай зямлі, збыту прадукцыі і г. д. Неабходны комплексны падыход у рэарганізацыі сельскай гаспадаркі. Бо калгаснік за плугам — гэта ўсё ж учарашні дзень, ды і колькі яшчэ калгасны конік будзе цягнуць гэты плуг?

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

З НАГОДЫ

# АДЗІН З ПАЎМІЛЬЁНА ХВОРЫХ

**Магілёўская абласная бальніца адзначыла днямі сваё 25-годдзе. На ўрачыстасці я не быў, мёд-піва не піў, але некалькі слоў з нагоды юбілею сказаць мушу, бо Усявышні на мяне за нешта пакрыўдзіўся і я стаў адным з паўмільёна пацыентаў, якіх прыняла бальніца за чвэрць стагоддзя. Уласна, калі можна так сказаць, спрычыніўся да падзеі.**

Гадоў трыццаць не хварэў я зусім, не ведаў нават, як выглядае лісток непрацаздольнасці, але ж не ўсё кату масленіца. Спачатку нешта забулькатала за вухам, потым пачало «разносіць» твар, узнялася тэмпература. У самай прэстыжнай паліклініцы горада, куды звярнуўся, рэгістратарка напісала «нумарок» да зубнога. Прымаў ён так. Да абеда збіраў чаргу хворых, а затым пачынаўся канвеер. Чалавек атрымліваў абязбольвальны ўкол, хуценька пакідаў кабінет з запэўніваннем, што яго паклічуць, і так з кожным. Калі ўсіх прапускалі праз анестэзію, пачыналася выдаленне. Ніхто нікога не выклікаў, тут ужо самі хворыя ўстанаўлівалі свае правілы. Здаецца, чалавек пяць мне давялося прапусціць наперад, бо гэта былі жанчыны, але справа не ў гэтым.

Справа ў тым, што лепш мне не стала. Стала горш. Пачала ўздымацца — прабачце за падрабязнасці — скура на чэрапе. Пратрываўшы ноч, я раніцай зноў быў у гэтага доктара. Ён калупаўся ў наручным гадзінніку і на мяне нават не глянуў. Спытаў: што? Я сказаў, што прыйшоў па картку, бо сабраўся ў іншае месца. І тады гэты эскулап усё ж падняў на мяне свае цнатлівыя вочы.

— У якое іншае? Цяпер толькі ў бальніцу.

І напісаў накіраванне.

Так я апынуўся ў галоўнай абласной лякарні. У аддзяленні сківічна-тваравай хірургіі.

Што гэта такое, я скажу. У звычайнай хірургіі могуць ампутаваць руку або нагу, або ўсё гэта разам — і чалавек будзе жыць. Але галаву ампутаваць нельга — гэта толькі ў пісьменніка быў такі коннік, без галавы. Таму тваравая хірургія — нештачкі. Каб яе зразумець, праз яе трэба прайсці.

Рэзаў мяне Анатоль Іванавіч, загадчык аддзялення (ведалі мы ўрачоў па імені і імені па бацьку, а сясцёр і санітарак па імені) гадзіны праз тры, як агледзеў. Я нават не паспеў спужацца.

Потым я даведаўся, што на аналізы і ўсё такое ўжо не было часу. Сама болей заставалася мне пажыць шэсць гадзін.

Анатоль Іванавіч, каб не псаваць маю фізіяномію, пачаў аперыраваць праз рот. Забягаючы наперад, хачу сказаць, што гэта не дапамагло, але пытанне ў іншым. Пад так званым мясцовым абязбольваннем свядомасць не адключаецца. Якія ж усё-такі мастакі гэтыя хірургі па частцы псіхалогіі. Яны развальваюць мой чэрап і разважаюць — я ж гэта цудоўна чую — пра розную драбязу: пра надвор'е, пра дзень нараджэння супрацоўніцы, пра талоны на праезд у гарадскім транспарце. Калі зашывалі (а рэзаць праз колькі часу прыйшлося ўсё ж звонку), з мяне, прывязанага да стала, кроў цякла, як з кабанчыка, а ўрачы ў аперацыйнай — пра паездку на адпачынак. Прытуманенай свядомасцю ўлоўліваў: «Не нужен мне берег турецкий...» Гэта напяваў нехта з хірургаў. І мне было спакойна.

Аднак навошта такія хітрыкі? Ці не лепш пацыента наогул «вырубіць»?

Дык жа не хапае нават навакаіну. Чуў, што ў клініках Масквы даюць гарэлку. Шклянкі дзве-тры — і пад скальпель. Такой беднай зрабілася медыцына. На Магілёўшчыне яна не шыкуе таксама. Таблетку анальгіну можна ў дзяжурнай медсястры выпрасіць па блату. Пра пластыр не заікайся. Выкарыстаныя бінты было ўсім нам рэкамендавана не выкідваць, а здаваць у працэдурную. Мазь Вішнеўскага — незаменную ў хірургіі рэч — хворым трэба было здабываць самім.

Хадзілі чуткі, што пацыентаў вось-вось перавядуць на самазабеспячэнне — уласнае харчаванне і свае пасцельныя прыналежнасці. Нічога такога не здарылася. Не паверыце, але за ўвесь месяц у нас ні разу не паўтарылася меню. Кожны дзень кухня падкідвала нешта новенькае. Хаця кубак і лыжку трэба было браць з дому.

Каларыйнае харчаванне ў бальніцы і зараз, хаця гархарчгандаль выдзяляе прадукты ў доўг.

Персанал, што называецца, круціцца, робячы больш таго, што яму фармальна належыць.

Медсястра Ларыса захварэла сама, але датэрмінова выйшла на работу. Было гэта ў нядзелю, калі мы маглі адпачыць хоць бы ад перавязак. Ларыса, аднак, мяне паклікала і павяла ў працэдурную.

— Я памыю цябе, — сказала. — І балюча не будзе. Зусім-зусім.

У яе абавязкі гэта не ўваходзіла, і падарункаў я не даваў. Яна проста заўважыла мімаходзь мой «душманскі» твар. Налажыла павязку — хоць на вяселле.

Медсястра ў абласной — гэта што ўрач у раённай. У апошняй так: як толькі што сур'ёзнае з хворым — у абласную. Там не даюць памерці.

Нягледзячы на цяжкасці, бальніца яшчэ будуецца. Узведзены корпус для рэабілітацыі хворых. Меркавалася ўвесці яго да юбілею, але, як заўсёды, падвялі будаўнікі. Аднак да майскіх святаў наваселле павінна адбыцца.

Магілёўскі гарвыканком прыняў рашэнне аб узнагароджанні Ганаровай граматай і грашовымі прэміямі медработнікаў аблбальніцы, сярод якіх Канстанцін Іванавіч Бахановіч — галоўны ўрач, прычым з першага дня заснавання гэтай аўтарытэтнай установы.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

# ВЕЦЕР НАД ПРЫПЯЦЦЮ ПАХНЕ ПАЛЫНАМ...

## 2. АБ ЧЫМ КЛЯКОЧУЦЬ БУСЛЫ

Тульгавічы... Над адселенай некалі вёскай — буслы. Цэлых пяць гнёздаў! Пад белымі крыламі птушак — зямля, накрытая чорным ценем. Над царквой (першай, якую сустракаем у «зоне») птушкі кружацца, падобна да анёлаў...

Тульгавічы зусім не падобныя на тыя бачаныя намі ў 30-кіламетровай зоне вёскі, што сваім выглядам нагадваюць дэкарацыі для фільма пра вайну. Не кідаюцца ў вочы нейкія вялікія разбурэнні, а на дарозе, стаяць і гамоняць некалькі чалавек. Жанчына гоніць карову...

Вёска вялікая, двароў каля ста. Яна была выселена ў 86-м. Сёння амаль трэць жыхароў жыве тут, нібыта ніколі і не з'язджала.

Але не тым знакамітыя Тульгавічы.

Калі ўзгадаць пра вёску дзесьці ў наваколлі, цябе перапытаюць: «Гэта дзе бацюшка жыве, айцец Іван?» Ну як жа было не пазнаёміцца з айцом Іванам!

Івану Сцяпанавічу Бурлею 90 гадоў. Сур'ёзны, крыху нават суровы чалавек чакае нас на лавачцы. Яго 82-гадовая матушка Ефрасіння Іванаўна запрашае сесці, паказаўшы на ўслончык. Я не адразу зразумела, што матушка Ефрасіння сляпая. «Так, не бачу я цябе, зусім не бачу! Не бачу больш белага свету». — «Але ж вы яго помніце, праўда? Вы яго ўяўляйце, а мне раскажыце, што помніце». Старая жанчына крыху весялее.

Матушка Ефрасіння і айцец Іван успамінаюць... Але адны войны прыходзяць на памяць ды голад!

У чарнобыльскую ноч, 10 гадоў таму, успаміны былі іншыя. Прачнуўшыся, пачулі незразумелы шум, галасы людзей на вуліцы.

— Я думала: ну, усё, яшчэ адна вайна пачалася. Можа, якую бомбу скінулі? Можа, сам Рэйган ужо тут? Ажно не — абышлося.

Хутка Бурлеям далі кватэру ў Светлагорскім раёне. Недабудаваную («Не сабе ж будавалі!» — усклікае тут падышоўшая суседка). Без ацяплення. Ефрасіння Іванаўна захварэла, злягла ды трапіла ў бальніцу. («Вось і зараз нядаўна з бальніцы яна, вочы асляплі...»).

Старыя вярнуліся ў Тульгавічы.

— Радыяцыі баяцца? Дык я хутка памру. Можа, не дажыву і да той Радаўніцы!

Ну вось... Дараспытвалася! Але размова тут жа прымае іншы абарот. Чарнобыль, аказваецца, здарыўся акурат на Вялікдзень — на другі дзень. «Хрыстос уваскрос!» — «Сапраўды ўваскрос!» — а недзе побач адчыніліся вароты пекла, і, «затрубіў» той самы «трэці анёл», што ў Іаана Багаслова...

Бурлеі самі родам з Кіеўскай вобласці. Іван Сцяпанавіч пасля заканчэння духоўнай семінарыі ў Кіеве спачатку трапіў на Брэстчыну. У 56-м яны з жонкай прыехалі сюды. Спадабалася ў Тульгавічах. Засталіся.

І царква тут была — кажуць, спакон веку стаяла...

60—70-я гады для веруючых увогуле і святароў — у прыватнасці былі гадамі працістаяння — унутранага, маральнага. З «опіумам для народа» тады змагаліся. Памятаеце, як аб «цару прыроды — чалавеку» з гонарам гаварылі? Пра тое, што «прырода — не храм, а майстэрня» спрачаліся?

Для ідэйлагаў майстэрнямі былі і чалавечыя душы. Ды і станцыі атамныя будавалі, навукоўцаў не слухаючы: майстэрня ёсць майстэрня...

Айцец Іван нават «на дыване» ў ідэалагічнага начальства быў. Упарта стаяў на сваім: жыць трэба па запаведзях Хрыстовых. Дастаўся: у 76-м царкву ў вёсцы зачынілі. За 10 гадоў да Чарнобыля.

— Усе навалы сёння ад таго, што некалі Бога забылі, са старых смяяліся, не помнілі пра старое! — упэўнены айцец Іван. Але два гады таму, ізноў якраз на Вялікдзень, адкрылі царкву новую. З выгляду — нібы проста цагляны дом з крыжам. Але хіба так вельмі істотна? Разам з маладымі папамі стары бацюшка ходзіць служыць у царкву. І на Радуніцу вось збіраецца.

Звініць цішыня. Клякочуць буслы. Мы разам з Бурлеямі і іх суседзямі-самасёламі ідзём на магілкі памянуць тых, хто жыў тут раней. Большасць тульгаўчан доўга жыла, гадоў 80, а то і 90 з лішкам. А зараз, з'ехаўшыя адсюль, людзі просяць: «Калі памру, пахавайце там, дома».

І вяртаюцца дадому вось так — у апошні прыстанак...

Тульгавіцкія самасёлы з'язджаць не збіраюцца. Вясковы стараста Іван Шамянок — вясёлы іх натхніцель:

— Мы ўсе людзі не вельмі маладыя, праўда? Моладзь улетку, увесну да нас едзе. Можа тут жыць! У раёне начальства неяк сказала: «Каб гэтага дзеда выжыць, то і ўсе б за ім...» Але я не збіраюся нікуды!

Прынамсі, па словах Івана Восіпавіча, начальства, напэўна, жартавала: ніхто нікога адсюль не выганяе. Ды і няма куды.

Цяпер тульгаўчане задаволены: ім далі работу ў Палескім запаведніку, у вёску раз на тыдзень прыязджае аўталаўка. Што прывозяць на продаж? «А што заказам, тое і прывозяць! Малако і агарод — свае...» На адно толькі крыўдуюць: «Мы тут, у зоне — не ліквідатары. А студэнты, што пабылі які тыдзень, даведкі пабралі, пасведчанні атрымалі!..» (Не сумуйце, людзі, забылася вам сказаць: пасля аварыі і мы былі такімі студэнтамі. Праўда, без даведак.)

На Радаўніцу ў паўразбураныя, пустыя вёскі прыязджае мноства людзей. Іх прапускаюць на ўсіх КПП. Кожны ідзе ў сваю хату. Кожны ўспамінае... Толькі праз гадзіну-дзве былыя вяскоўцы сходзяцца на могілках. У многіх — заплаканыя твары. У некаторых ад былога жытла застаюцца руіны ды пажарышчы.

... — Напішыце мне запіску, — раптам прапанаваў айцец Іван, калі размова зноў зайшла пра Радаўніцу. (Толькі што я сказала, што трапіць на магілы продкаў не змагу.) — Напішыце імёны, каго памяць. Нікога не забуду.

Павагаўшыся, я вырвала ліст з блакнота... Хрусталыным звонам нездабівалася цішыня. Стары святар узяў лісток і паклаў у кішэню, нібыта шкляны прадмет, які можа вось-вось разбіцца. Тульгавіцкія буслы клекаталі аб родных мясцінах.



Фота Віктара ДРАЧОВА

*Мінск — Хойніцкі раён — Мінск*

**Тацяна СНІТКО,**
**спецыяльны карэспандэнт «Звязды».**

# ЧОРНАЯ КАЗКА

Не так даўно сяброўка, таксама журналістка, вярнулася з камандзіроўкі па Брэсцкай вобласці. Яна з калегамі ездзіла па раёнах, забруджаных радыяцыяй. З усіх уражанняў, прывезеных з Палесся, адно — самае моцнае: тамтэйшыя дзеці. З самага нараджэння жывучы ў радыяцыйнай зоне, яны не ведаюць, што такое «радыяцыя». Самае распаўсюджанае сярод шасці-, сямікласнікаў меркаванне наконт гэтага: радыяцыя — гэта такая хвароба.

Я ў іх узросце таксама не ведала, што азначае гэта слова. Як і мае равеснікі. І ніхто з нас не пытаўся пра гэта ў бацькоў ці настаўнікаў, хаця ў 12-13 гадоў хочаш ведаць усё пра ўсё. Проста мала хто з нас чуў такое слова. Яго проста не было... Калі ж яно раптам з'явілася, даўшы назву нябачнай чорнай навале, мы, падлеткі, уяўлялі радыяцыю як пачвару, што лётае перад тварам — амаль бясшкодная, але вельмі надакучлівая, і, увесь час нагадваючы аб сабе, парушае спакой у душы...

Нядаўна сярод непатрэбных, даўно запханых у шуфляды старога пісьмовага стала папер я знайшла свой дзённік, які вяла акурат дзесяць гадоў таму. Няцвёрды яшчэ почырк, некаторыя літары нязграбна высоўваюцца з радкоў у розныя бакі... Мне было ў красавіку 86-га дванаццаць гадоў. Чалавек у такім узросце імкнецца дайсці да ўсяго сам, адной нагой усё яшчэ застаючыся ў летуценным свеце маленства. Цікава было гартаць яшчэ зусім не пажоўклыя старонкі шэрага паўагульнага сшытка. А калі пайшлі аркушы, датаваныя вясной і летам 1986 года, прачытала іх уважліва і задумалася. Гэта ж гісторыя краіны праз прызму суб'ектыўнага. Праз успрыманне не дарослага з яго цвярозымі і правільнымі пачуццямі. Гэта хутчэй будзе гучаць так: «Чарнобыльская трагедыя вачамі беларускага падлетка. Год 1986-ы».

Папрасіўшы прабачэння ў самой сябе, той дванаццацігадовай дзяўчынкі, пішу ўрыўкі з дзённіка. Успамінаць, усё асэнсаваўшы па-даросламу, — гэта не тое. А вось так, адразу, па першых уражаннях, якія, як сцвярджаюць, самыя правільныя і шчырыя, — гэта ўжо амаль летапіс...

«... Мне страшна. Я не хачу нікуды ехаць. І не паеду. Усё нармальна. У паветры нічым не пахне, хіба што чаромхай. І сонца зайшло як заўсёды. І камары мак таўкуць. І радыё ў хаце нічога не гаворыць. Сёння Інка на ўроку працы на вуліцы адвяла мяне ўбок і шэптам сказала, што нешта недалёка ад нас узарвалася і што тут хутка ўсё загіне, і людзі таксама, калі не выедуць. Сказала, што яе бацька пачуў гэта ноччу па радыё. «Голас Амерыкі» называецца. Але гэтыя капіталісты ўсё лгуць, каб нас напалохаць. Я Інцы так і сказала. Калі б штонебудзь узарвалася, быў бы агонь і дым, і выбух. А мы нічога не бачылі і не чулі...»

«...Сёння сказалі па тэлебачанні, што адбылася аварыя на Чарнобыльскай атамнай станцыі. Гэта далёка, недзе на Украіне. Гавораць, нічога страшнага. Цікава, што такое атамная электрастанцыя?»...

«...Мама прынесла з аптэкі ёд. І прымусіла мяне выпіць цэлую лыжку. Гавораць, у нас радыяцыя. Ад гэтага можна нават памерці. Ёд ад яе дапамагае. Але ж ён такі агідны. У мяне ж нічога не баліць. А бабуля такая смешная: гаворыць не «радыяцыя», а «рацыя». Вучыла яе сёння вучыла, дванаццаць разоў паўтарыла — без толку...»

«...Мама сказала, што можа і нас перасяляць. Я не хачу нікуды ехаць. Добра, як вывезуць разам і вёску, і клас, і школу... А як не? Што я буду рабіць адна? А як жа наша хата? А карова, а сабака? Па тэлебачанні казалі, што высяляюць людзей, якія блізка ад той станцыі. А мы ж далёка. Мама кажа, і ўсё нас радыяцыя. І што гэта тое самае, як калі скінуць ядзерную бомбу...»



*Уяўленні падлеткаў аб аварыі на ЧАЭС за дзесяць гадоў фактычна не змяніліся*

# З ПРЫГОЖЫМІ СЛОВАМІ

«...Я толькі што адышлася ад люстэрка. Доўга разглядала твар. Я чытала кніжку «Хірасіма абвінавачвае». Там напісана, што калі скінулі ядзерную бомбу, у многіх людзей з'явіліся на твары такія язвы — калоіды, здаецца. Яны на ўсё жыццё. У мяне нічога няма. У дзяўчат таксама. Значыць, ядзерная бомба нашмат страшнейшая...»

«...Сёння ішлі са школы, бачылі новую цётку. Яна пасялілася з мужам у Александровічавай хаце. Кажуць, яна прыехала з-пад самага Чарнобыля. Цётка як цётка — вясёлая, гаваркая. І зусім не хворая. Я чула, як яна гаворыць. Па-ўкраінску і хутка-хутка. Цікава. Толькі не ведаю, як яе імя. Усе завуць па прозвішчу — Чорная. Ці проста — хахлуха»...

«...Гэта радыяцыя сапсавала ўвесь настрой. Палолі сёння буракі, такая спякота была, а мама не дазволіла зняць нават кофту — радыяцыя, кажа. А Танька вунь загарала ў купальніку — і нічога. А пасля прыйшла галодная, а мама наліла загатаванага малака. Я яго цярпець не магу, люблю сырое, а мама кажа — радыяцыя. Каб яшчэ пагладзець, што гэта за звер такі...»

«...Ларыса прыехала, сказала, што калі прыкласці пяць капеек да грудзей, і пятак будзе трymацца, значыць радыяцыі ты ўжо нахапаўся будзь-будзь. Усе прыкладалі і ва ўсіх трымаўся. Цікава, праз што тая радыяцыя заходзіць у чалавека? Праўда, мама нарабіла крыку, сказала, што мы дурні, што ад гарачыні ў нас скура вільготная, таму манета і трымаецца. А ўсё-ткі страшна. А раптам ўжо ўжо поўна радыяцыі?»

«...Ездзілі з Вовам у Іванец, а там каля рэчкі — «парасонікі» (трава такая. — А. Л.). Не парасонікі, а цэлыя парасоны ростам з Вову. Ніколі такіх не бачыла. Хацела сарваць, дзеўкам паказаць — Вова не дазволіў. Радыяцыя, гаворыць. Толькі адно гэта і чуеш. А ад яе ж нікто не памёр... Чаго яе баяцца?..»

Вось так, амаль па-дзіцячаму, наіўна і проста. Як хочацца зараз, з вышыні сваіх дзесяці гадоў і ведаў, растлумачыць, перасцерагчы. Хаця б тых, каму сёння па дванаццаць. Але не лічылі бяду простай хваробай...

Іванец на ўсіх картах — у цэнтры радыяцыйнай плямы.

Дзяўчынка Таня, што палола тады буракі ў купальніку, была на год старэйшая. Цяпер ёй заўсёды шаснаццаць. Ныркі не вытрымалі дозы апраменьвання.

Перажыўшы на паўгода свайго гаспадара, пайшла ў небыццё цётка Чорная. А я так і не даведалася яе імя.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

## СА СВЯТАМ ВЯСНЫ І ПРАЦЫ!

Паважаныя суайчыннікі!

Дзяржаўнае свята працы — 1 мая — адно з нямногіх, якое, прайшоўшы выпрабаванне часам, засталося найбольш любімым у краіне. Для працаўнікоў горада і вёскі Першамай па-ранейшаму свята міру, надзеі, вясны. Разам з тым наш імклівы час напаўняе гэтае свята новым глыбокім зместам. Сёння салідарнасць стваральнікаў-працаўнікоў — гэта жыццёвая неабходнасць і галоўная ўмова руху наперад грамадства, Рэспублікі Беларусь па шляху пераўтварэнняў.

Супрацоўніцтва нам неабходна ва ўсім і ўсюды. Партнёрства ўладных структур — дзеля стабілізацыі палітычнага жыцця краіны. Узаемаразуменне пакаленняў — у імя дасягнення грамадскай згоды. Салідарнасць усіх слаёў грамадства — дзеля найхутчэйшага пераадолення эканамічнага крызісу.

Упэўнены, вырашэнне гэтых задач пад сілу нашаму народу-працаўніку, нашай суверэннай дзяржаве.

Са святам вясны і працы! З Першамаем вас, дарагія суайчыннікі!

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**




*ЧАРНОБЫЛЬ: 10 ГАДОЎ ТРАГЕДЫІ*

# БЯСПАМЯЦТВУ Ў НАШЫМ ЖЫЦЦІ МЕСЦА НЯМА...

### Праравць яго заслону ў нечым дапамог і «Мітынг жалобы — памяць Чарнобыля», які прайшоў у Мінску 26 красавіка

**Шмат супярэчлівых думак і пачуццяў ускалыхнула ўбачанае і пачутае на шматтысячным мерапрыемстве, якое праходзіла ў парку Дружбы народаў, непадалёк ад скрыжавання вуліц Арлоўскай і Карастаянавай. Успомніліся, напрыклад, гісторыя жыцця пілота верталёта Вячаслава Малышава.**

Да палётаў у небе Чарнобыля ён быў абсалютна здаровым чалавекам. Затое пасля — хвароба і інваліднасць. Ён згарэў за лічаныя дні: праз два месяцы пасля выхаду на пенсію Малышава не стала, ён не пражыў і пяцідзесяці гадоў.

Сам В. Малышаў, як вельмі сціплы чалавек, з просьбамі аб паляпшэнні жыллёвых умоў ні да каго не звяртаўся, хоць на плошчы 34,5 кв. м у яго кватэры пражывалі дзве самастойныя сям'і (5 чалавек). Гэтай справай пасля смерці пілота заняліся чарнобыльцы-актывісты, якія пасля доўгай перапіскі і цяганіны атрымалі ад былога кіраўніцтва Мінгарвыканкома такі адказ: «Сям'я Малышава В. У. забяспечана жыллём па норме прадастаўлення і да ліку маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў не адносіцца. Пры гэтых абставінах выканком гарсавета не мае прававых падстаў для выдзялення яго жонцы асобнай жылплошчы. Гэта пытанне яна павінна вырашаць самастойна ў агульным парадку (шляхам пакупкі кватэры, уступлення ў ЖБК з аплатай поўнага кошту кватэры). Іншай магчымасці не маецца».

Узнікае пытанне: як у гэтай сітуацыі ў некаторых з нас з памяццю? Ці не занадта яна кароткая ў дзяржавы, калі апошняя не жадае і ведаць пра сваіх найдастойнейшых сыноў?

Вось якія думкі роіліся ў свядомасці, калі па прапанове Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ўсе прысутныя ўшанавалі памяць герояў Чарнобыля хвілінай маўчання і над велізарным людскім натоўпам пачуўся жорсткі і суровы адлік метранома.

Думалася, вядома, і пра тое, што капліца-помнік, якая ўзводзіцца тут на народныя грошы, стане месцам сапраўднага пакланення памяці ахвяр Чарнобыля, а таксама і напамінкам пра турботы і нягоды тых, хто пераносіць сёння цяжкасці чарнобыльскіх наступстваў у забруджанай зоне. У аснову збудавання была закладзена металічная капсула з памятным пасланнем, падпісаным Прэзідэнтам А. Лукашэнкам і мітрапалітам Мінскім і Слуцкім Філарэтам, Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі.

Дарэчы, аб тым, што чарнобыльцы і ахвяры Чарнобыля не павінны быць забытымі, Прэзідэнтам было сказана нямала: «У час апошняй маёй паездкі ў забруджаныя радыяцыяй раёны мяне да глыбіні душы абразілі раўнадушша і безадказнасць некаторых мясцовых начальнікаў, з якімі тыя ставіліся да надзённых праблем чарнобыльцаў. Многіх у выніку прыйшлося прама на месцы пазбавіць іх пасад».

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі выказаўся так:

— Мы ўспамінаем імёны тых, хто дзесяць гадоў таму назад засланіў ад бяды ўсіх нас, і ў глыбокай жалобе нізка схіляем галовы перад іх светлай памяццю. Няхай храм і капліца, узводзімыя ў памяць аб ахвярах Чарнобыля, стануць тым святым месцам, куды будуць прыходзіць жывучыя на гэтай зямлі людзі, ставіць свечкі і маліць Бога аб ўратаванні ад новай бяды нашага шматпакутнага беларускага народа.

Гэтая тэма так ці інакш прагучала ў выступленнях кожнага прамоўцы — мітрапаліта Філарэта, прадстаўніка ААН у Рэспубліцы Беларусь Павела Крала, міністра па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС Івана Кеніка, прэзідэнта рэспубліканскай асацыяцыі «Шчыт Чарнобылю» генерал-лейтэнанта міліцыі Уладзіміра Савічава і іншых.

... У канцы мітынгу аўтар гэтага рэпартажа падышоў да дзвюх дзяўчат у белым адзенні, шаснаццацігадовых навучэнак Мінскага медвучылішча Таццяны Пержаніцы і Марыны Васількевіч:

— Мы — сёстры міласэрнасці пры Храме ўшанавання іконы Божай Маці «Усіх тужлівых Радасце» памяці ахвяр Чарнобыля, — прадставіліся дзяўчыны. — Будуемая тут капліца належыць нашаму прыходу, і мы збіраем на гэта добраахвотныя ахвяраванні. Біблія ж гаворыць, што вера без спраў мёртвая. Калі верыш у Бога, то неабходна рабіць нешта добрае і для душы.

Меркаванні радавых удзельнікаў мітынгу былі, зразумела, неаднолькавымі. Вось што сказаў, напрыклад, намеснік дырэктара Мінскага гандлёвага тэхнікума Леанід Глушчыцкі:

— Такія масавыя мітынгі неабходны, бо яны аб'ядноўваюць людзей у нашым агульным чарнобыльскім горы. Шкада толькі, што, як гэта было калісьці, нас збіралі сюды па разнарадцы аднекуль «зверху». Няўжо людзі сюды не прыйшлі б самі? Як бачым, і тут маецца свая доля фармалізму.

— Я сам — ліквідатар 1986 года, — расказаў пра сябе падпалкоўнік міліцыі Мікалай Бусло. — Добра памятаю, як тады было цяжка і нам, і мясцовым жыхарам, якія адсяляліся з 30-кіламетровай зоны. Не разумею, чаму камусьці цяпер хочацца «падзяліць» нашу агульную чарнобыльскую памяць на розныя «часткі» — маю на ўвазе правядзенне «паралельнага» мітынгу і шэсця.

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

**Жалобная мелодыя лілася над пачынаючым зелянець скверам. Жалобныя чорныя стужкі на дзяржаўных сцягах калыхаліся пад цёплым ветрыкам. Горкая доля выпала жыхарам накрытых радыяцыяй беларускіх, украінскіх, рускіх гарадоў і вёсак. Але Чарнобыль не дзеліцца па нацыянальнасцях — ён на ўсіх адзін.**

**Расколы чацвёртага энергаблока атамнай электрастанцыі сёння бачны на лёсе ўсяго чалавецтва. Відаць таму на жалобным мітынгу ў Мінску было шмат прадстаўнікоў замежных сродкаў інфармацыі. Няхай у іх тэлекамерах будуць выразна бачны напоўненыя смуткам вочы інвалідаў, жалобныя чорныя стужкі, новы храм, які ўвасобіць усю нашу боль і надзею, і гэты вялікі транспарант над галовамі людзей: «Супраць чарнобыльскай бяды — усім светам».**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**
**Фота аўтара.**




# 10-ГОДДЗЕ ЧАРНОБЫЛЯ БЫЛО АЗМРОЧАНА СУТЫКНЕННЯМІ ДЭМАНСТРАНТАЎ З МІЛІЦЫЯЙ

26 красавіка беларусы, на жаль, у Мінску так і не змаглі зрабіць днём нацыянальнай кансалідацыі. Апрача жалобных мерапрыемстваў у гэты дзень адбыліся сутычкі дэманстрантаў з міліцыяй, пралілася кроў, былі перакулены міліцэйскія машыны... Такім чынам, адносіны ўлады і апазіцыйных сіл працягваюць радыкалізавацца, пераходзяць ад дэмакратычных метадаў да сілавых...

Працяглыя папярэднія ўзгадненні арганізатараў акцыі «Чарнобыльскі шлях» з мінскімі ўладамі і міліцыяй, на жаль, плёну не далі. Дазвол на шэсце не быў атрыманы, Мінгарвыканком дазволіў толькі мітынг ля Палаца спорту. Аднак арганізатары «Чарнобыльскага шляху» вырашылі правесці яго явачным парадкам. У 17 гадзін 26 красавіка ля Акадэміі навук, на раней запланаваным месцы збору, сабраліся тысячы людзей, якія не змаглі змясціцца на тратуарах і выйшлі на праезную частку праспекта Скарыны, пераадолеўшы нязначнае супраціўленне міліцыі... Відавочна было, што шэсце носіць не толькі памінальны, але і палітычны характар, аб чым сведчыла атрыбутыка над калонай, лозунгі, якія скандзіравалі маніфестанты... Для мінскіх сіл правапарадку, відаць, было прынцыпова важна не дапусціць шэсця па праспекце, і таму на плошчы Якуба Коласа быў пастаўлены кардон, які паспрабаваў павярнуць дэманстрантаў на вуліцу Чырвоную. Такога жадання апошнія не выявілі, ды і не было зразумела ў сярэдзіне калоны, аб чым спрачаюцца ў яе галаве з прадстаўнікамі спецназа. Праз некалькі хвілін процістаяння дэманстранты вырашылі прарваць кардон, выкарыстоўваючы крыж і ікону Маткі Боскай ахвяр Чарнобыля. Аднак і гэта не дапамагло, з боку спецназа ў ход былі пушчаны дубінкі, дэманстранты таксама пусцілі ў ход тое, што маглі — хто бутэльку, хто кулак. Былі перакулены тры міліцэйскія машыны, сярод маніфестантаў з'явіліся першыя акрываўленыя твары, заплакалі дзеці, што былі ў калонах, жанчыны пачалі разбягацца. Дасталося дубінкамі і дэпутатам П. Знаўцу, А. Дабравольскаму, а таксама журналістам.

У нейкі момант авангард калоны аказаўся адсечаным ад астатніх дэманстрантаў... Эмоцыі напаляліся, і ў рэшце рэшт дэманстранты адолелі кардоны спецназа. Перад плошчай Перамогі стаяў яшчэ адзін кардон з вайсковых машын, але часці спецназа, відаць, атрымалі загад прапусціць дэманстрантаў, з тым, каб іх затрымаў ужо іншы, яшчэ больш моцны кардон за цыркам. Там стаялі тысячы экіпіраваных шчытамі, каскамі і дубінкамі ахоўнікаў парадку, і яны здолелі павярнуць калону дэманстрантаў у бок вуліцы Багдановіча.

Яшчэ адна сутычка, якая патэнцыяльна магла б перарасці ў бойку, мела месца ля моста на Нямізе, дзе дэманстранты павінны былі павярнуць у бок Палаца спорту. Тут авангард калоны бягом рушыў у абход кардонаў спецназа, але быў адбіты іншымі сіламі. На абвастрэнне ішла пераважна моладзь, у бок сіл аховы парадку паляцелі выкрыкі і каменне. Толькі дзякуючы вытрымцы спецслужбаў і настойлівай агітацыі арганізатараў шэсця, якія ад імя БНФ прасілі ўхіляцца ад бойкі і пайсці да Палаца спорту, у гэтым месцы не адбылося чагосьці сур'ёзнага...

Вялікую актыўнасць у час усіх сутычак праявілі члены радыкальнай украінскай арганізацыі УНА-УНСО (Украінская нацыянальная асамблея — украінская народная самаабарона), якія прыбылі ў гэты дзень у Мінск. Іх было каля дзесятка-двух, адзін з іх нават выступіў на мітынгу.

На мітынгу ўшанавалі памяць ахвяр Чарнобыля, выступілі Г. Карпенка, В. Быкаў, С. Багданкевіч, П. Знавец... Нечаканасцю было з'яўленне З. Пазняка, пра якога казалі, што ён быццам бы эміграваў. З. Пазняк абвергнуў гэта, зазначыўшы, што ён выконвае місію па інфармаванню еўрапейскіх палітыкаў і праваабарончых арганізацый аб сітуацыі ў Беларусі. З. Пазняк прапанаваў хвілінай маўчання ўшанаваць памяць загінуўшага прэзідэнта Чачні Д. Дудаева...

А вечарам 26 красавіка пасля заканчэння мітынгу яго арганізатараў і ўдзельнікаў міліцыя і спецслужбы пачалі затрымліваць і адвозіць у райаддзелы ўнутраных спраў. Як паведаміў затрыманы каля ГУМа выкладчык БПА Мікола Анцыповіч, пры затрыманні яго збілі і атруцілі газам, у выніку ў Цэнтральны РАУС ён прыбыў непрытомны і адтуль яго павезла «хуткая дапамога». Па розных ацэнках у гэты вечар было затрымана ад 70 да 200 чалавек. 12 чалавек было затрымана ў штаб-кватэры БНФ і вывезена службоўцамі са зброяй і без апазнавальных знакаў. Сярод іх быў і дэпутат ВС Павел Знавец. Раніцай 27 красавіка ні ў КДБ, ні ў МУС аб ім нічога не маглі паведаміць, выпусцілі яго толькі ў абед. Арганізатараў і актыўных удзельнікаў «Чарнобыльскага шляху» чакае, відавочна, адміністрацыйная ці нават крымінальная адказнасць за правакацыю масавых беспарадкаў... Сярод іншых былі затрыманы і каля дзесятка баевікоў УНСО...

Упраўленне ўнутраных спраў Мінгарвыканкома расцаніла гэтыя падзеі як арганізаваныя беспарадкі, што пацягнулі за сабой спыненне руху транспарту ў горадзе, парушэнне грамадскага парадку, дробнае хуліганства, разбурэнне дзяржаўнай маёмасці і невыкананне рашэння гарвыканкома, які не дазволіў гэтае шэсце. Па гэтым фактам былі ўзбуджаны крымінальныя і адміністратыўныя справы. Затрымана, паводле звестак прэс-службы УУС Мінгарвыканкома, звыш 180 чалавек.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**



**Тое, што людзі маглі сабрацца на свой мітынг, не выклікала сумненняў. Але ж трэба паважаць Яго Вялікасць Закон. Паспрабуйце ў Лондане ці ў Вашынгтоне без дазволу ўладаў паралізаваць транспарт на галоўнай артэрыі горада. Без пакарання гэта не пройдзе. І самае непрыемнае, на мой погляд, град камянёў і бутэлек у маладых салдат, нашых сыноў і братоў.**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

## *Уладзімір ПЛАТОНАЎ:*

# «Я не збіраюся ні перад кім апраўдвацца,

***Імя сусветна прызнанага матэматыка, былога прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі Уладзіміра Пятровіча Платонава і сёння вядома, і сёння на слыху нават у абываценя, якому, у прынцыпе, «усё да лямпачкі». Занадта ўжо рашучы крок у свой час зрабіў акадэмік Платонаў. Паехаў з Айчыны на месяц-другі. Пасля — яшчэ на тры. Перад гэтым і заяву напісаў: маўляў, хачу займацца выключна матэматыкай. Вось — цытата з заявы У. П. Платонава ў Прэзідыум Акадэміі навук ад 7 студзеня 1992 г.: «Ужо даволі даўно перада мною паўстала складаная праблема выбару: навука ці арганізацыйная праца ў якасці прэзідэнта. Несумяшчальнасць гэтых відаў дзейнасці не выклікае сумненняў. У канцы снежня мінулага года я зрабіў выбар — навука...» І далей: «Свой выбар я недвухсэнсоўна аб'явіў на пасяджэнні Прэзідыума АНБ 4 студзеня г.г.» (маецца на ўвазе 1992 г.). Як яно было на самай справе? Пра гэта і не толькі пра гэта — з вуснаў самога Уладзіміра Пятровіча Платонава, які днямі прыехаў на Беларусь. І першае інтэрв'ю на радзіме вялікі матэматык сучаснасці, вучоны, прызнаны ва ўсім свеце, дае газеце «Звязда».***



# але катэгарычна сцвярджаю адно — і матэматыку патрэбна Радзіма...»

**— Уладзімір Пятровіч, прабачце за журналісцкую прамалінейнасць, але ўсё ж першае пытанне — пра вашы «ўцёкі» з Беларусі. Як гэта здарылася?**

— А ўцёкаў ніякіх і не было. Гэта толькі нечая нездаровая фантазія можа намаляваць карціну наступным чынам: акадэмік Платонаў з-за доўгага рубля застаўся на Захадзе.

Давайце лепей аб усім па парадку. І пры тым пачну я зусім з асаблівых рэчаў. Вось вы папярэдне, адпраўляючы мне электроннай поштай пытанні, задаліся высвятленнем таго, што значыць матэматыка для мяне. Дык нясціпла нагадваю, што ў дваццаць шэсць гадоў абараніў доктарскую дысертацыю, у дваццаць дзевяць быў абраны членам-карэспандэнтам, у трыццаць два гады я стаў акадэмікам. Можна толькі ўявіць, якая напружаная праца гэтаму папярэднічала. Словам, матэматыка — вось маё жыццё. Апраўдацца, калі можна так сказаць, хачу я ў іншым. Некаторыя акадэмікі вядомы ў навуковым свеце сотнямі работ, артыкулаў, напісаных у сааўтарстве. Вы разумееце, што азначае гэтак званае сааўтарства, а на справе — супрацоўніцтва. Я ж увесь час ішоў іншым шляхам. Працаваў самастойна. Доўгі час не меў нават вучняў.

**— І хіба гэта добра?**

— Мяркуйце самі. Але ж заўважце, што адкрыцці ў тэарэтычных навуках — гэта не калгасных рук справа... І вось са мною здарылася наступнае. Займаючыся навукай самастойна, я ішоў і ішоў да вяршынь. Да ўласных вяршынь.

**— Навошта ж тады, дзесяцігоддзі ўжо назад, вам патрэбны былі адміністрацыйныя пасады?**

— А іх, пасад, проста нельга было пазбегнуць. Так прыйшлі да мяне інстытут і лабараторыя. З часам жаданне зрабіць нешта акрэсленае, некаму дапамагчы прывяло і да выключна адміністратарска-палітычнай пасады прэзідэнта Акадэміі навук.

**— І вось вы, першы прэзідэнт Акадэміі навук у гісторыі краін былога СССР, ад'язджаеце ў чужы свет... З пункту гледжання патрыятызму гэта не зусім і зразумела. Да ўсяго ж астатняга, я перакананы ў гэтым, грашовае пытанне тут наўрад ці трэба ўздымаць...**

— Ведаеце што, у прынцыпе, у сённяшняй размове і ўвогуле надалей я не збіраюся ні перад кім апраўдвацца. Мною і чатыры гады назад, і зараз кіруе выключна жаданне заставацца найперш матэматыкам. У пэўны час я заўважыў, што адміністратар душыць ува мне навукоўца. Што, безумоўна, з гадамі знікае жаданне рабіць некалькі спраў. Хаця, будучы нават прэзідэнтам, дома, вечарамі, па начах, я займаўся, наколькі гэта было магчыма, матэматыкай. Прысутнасць у душы маёй навукі не давала мне спакою, прымушала шчыраваць над формуламі. І рана ці позна, але ж разрыў павінен быў адбыцца. Словам, і я, як чалавек грэшны, спрабаваў ў нейкай ступені сябе падманваць, што можна адначасова быць і матэматыкам, і прэзідэнтам. Не, нельга!

**— Дык вы, забыўшыся на пачуццё ўсебеларускай годнасці і высокага патрыятызму, вырашылі...**

— Не іранізуйце. Я, паўтаруся, не збіраюся ні перад кім апраўдвацца, але катэгарычна сцвярджаю адно — і матэматыку патрэбна Радзіма. Едучы ў вялікі свет, выпрабоўваючы свае матэматычныя пастулаты ў супер-крытычным грамадстве, судакранаючыся з матэматыкай больш шырокіх маштабаў, і сябе я ж таксама, пагадзіцеся, падвяргаў выпрабаванню.

**— І ці вытрымалі?**

— Мяркуйце самі. У 1993 годзе немцы прысудзілі мне першаму з вучоных Беларусі прэмію Гумбальта.

**— Прызнацца, упершыню чую пра гэта, хаця, мяркую, што згаданая нямецкая прэмія — гэта сапраўды прызнанне заслуг на сусветным узроўні.**

— Вы як быццам падштурхоўваеце мяне пахваліцца сваімі ж заслугамі. Пра прэмію ўзгадваю ў іншым кантэксце. Літаральна ў тым жа месяцы таго ж 1993 года зачынілі маю лабараторыю ў Інстытуце матэматыкі. А перад гэтым ніякім чынам дома ў нас, на Беларусі, і словам не ўпамянулі аб тым, што ў Амерыцы была праведзена канферэнцыя «Разнастайнасць уяўленняў і гіпотэза Платонава».

**— Хаця на гэтым факце можна было б пабудаваць пэўны імідж беларускай навукі ў свеце, ды і Беларусі ўвогуле. Уладзімір Пятровіч, ужо рыхтуючыся да размовы з вамі, даведаўся пра многія факты вашага навуковага плёну за апошнія гады. Гэта і публікацыі ў самых прэстыжных навуковых выданнях Еўропы, Амерыкі, выступленні з дакладамі на цэлым шэрагу канферэнцый і сімпозіумаў.**

— Якраз у апошнія два гады я найболей інтэнсіўна займаўся матэматыкай. І да гэтага мяне падштурхоўвала патрэба сцвярджаць сябе ў новых умовах.

**— І якія ж вынікі?**

— За мінулыя гады мне пашчасціла атрымаць шэраг новых рэзультатаў, якія мелі міжнародны рэзананс. Напрыклад, толькі за апошнія два гады надрукаваў у вядучых замежных часопісах шэсць работ. А ў 1995 годзе выступаў з дакладамі на сямі міжнародных канферэнцыях у самых розных краінах свету. А нядаўна ў знак прызнання гэтых рэзультатаў мяне запрасілі зрабіць адзін з асноўных дакладаў на Еўрапейскім матэматычным кангрэсе, які адбудзецца ў сёлетнім ліпені ў Будапешце.

**— Дык што, Уладзімір Пятровіч, пакінуўшы прэзідэнцкае крэсла, вы сцвердзілі сябе яшчэ ў большай ступені як матэматык?**

— Мяркуйце самі.

**— Беларускаму матэматычнаму асяродку, беларускім матэматыкам, здавалася б, толькі радавацца такім дасягненням. Усё ж вы наш суайчыннік, усё ж родам з Беларусі і па сённяшні дзень грамадзянін Беларусі.**

— Грамадзянінам Беларусі, беларусам я застануся і заўтра, і назаўсёды. Гавару гэта без лішняй патэтыкі, але ж з перакананнем, што іншага нам не дадзена. Чужаземцам лёгка стаць на хвіліну, але душа і сэрца Беларусь, беларускасць не адрынуць ніколі.

**— Дык у чым жа тады справа? Чаму, як атрымліваецца, што Платонаў існуе ў вялікім матэматычным свеце сам па сабе, беларуская навука (найчасцей — не спрабуючы выйсці за межы Беларусі) — сама па сабе?**

— Давайце дамовімся, што мы гаворым не пра ўсю навуку. Яна, беларуская навука, вядомая ў свеце. Многія імёны на слыху.

Я хацеў бы гаварыць пра матэматыку. Вы пытаецеся, чаму так здарылася... Успамінаю той прэзідыум, на якім я шчыра сказаў, што хацеў бы пайсці ў адстаўку. Рашуча падхапіўся той-сёй. Маўляў, што вы, Уладзімір Пятровіч, без вас жа акадэмія разваліцца. І хаця 4 студзеня мяне пераканалі, што лепей паехаць на тры месяцы, ужо 7 студзеня (праўда, у Маскве) я напісаў заяву аб адстаўцы. І што цікава, першыя ўдары па мне пачалі наносіць бліжэйшыя мае паплечнікі. Людзі, якім шчыра верыў, якім дапамагаў.

Прабачце, але ўва мне, як ва ўсялякім чалавеку, жыве крыўда. Хаця б і на сённяшняга дырэктара Інстытута матэматыкі. А ён, Гайшун Іван — фактычна чалавек, які (маю, на жаль, такі грэх), атрымаў ад мяне больш, чым нехта іншы. І вось ён, радавы, пасрэдны матэматык, зусім невядомы за межамі Беларусі, пачаў разбураць існуючую матэматычную школу, вядомую раней ва ўсім свеце. Навошта? Ды толькі з-за таго, што пасрэднасць заўсёды баіцца прысутнасці паблізу талентаў, сапраўдных вучоных.

І сёння мне асабіста нічога не застаецца, як прасіць беларускіх матэматыкаў прабачыць мне за тое, што ў свой час менавіта я навязаў ім такога кіраўніка, як Гайшун.

**— Дарэчы, даючы некаму адзнаку пасрэднасці, ці не баіцеся вы, што і самі становіцеся ў ролю суддзі?**

— Справа не ў Гайшуну. Але і ў ім таксама. Тое, што матэматыка на Беларусі гіне, задыхаецца — факт. Не бярыцеся яго аспрэчваць. Марная справа. У нас ёсць таленавітыя людзі. Але з дня ў дзень іх меншае. Ад'язджаюць, бясследна знікаюць для беларускай навукі. Калі, напрыклад, з дзесяці—пятнаццаці таленавітых інстытуцкіх матэматыкаў раптам за тры-чатыры гады Беларусь пакідае шэсць-сем, то хіба ж гэта не трагедыя? Уявіце сабе, што за той жа кароткі адрэзак часу Беларусь страціла трэцюю частку пэўных сваіх рэсурсаў...

**— Прабачце, але на вучоных, на інтэлігентаў грамадства заўжды пазірала як на дзівакоў, фанатаў. Дык няўжо сёння толькі адсутнасць вялікіх грошай, нармальных матэрыяльных умоў гоніць таленты далей ад маці-Айчыны? Я зусім не гуляю ў высокія словы, але хацеў бы, каб мы ўсё ж — і ў размове, і дзеях — не абміналі патрыятычных меркаванняў. Гавару і за сябе асабіста. Мне, простым людзям няма куды ехаць, вельмі шмат давядзецца пакідаць — родных, магілы, душу беларускую давядзецца тут пакінуць...**

— Канешне ж, далёка не ў адных грашах справа. Ад'язджаюць, кідаюць і па маральнай прычыне. Зачастую характар зносін паміж навуковым чыноўніцтвам і самімі талентамі, самімі навукоўцамі нагадвае атмасферу ўдушэння, цемрашальства.

**— Прызнацца, адчуваю, што вашы адназначныя меркаванні выклічуць пэўныя хвалі, мо нават буру. У некаторай ступені — нават пабойваюся гэтага.**

— А я асабіста зусім не пабойваюся. Бо жыццё мяне ўжо пераканала, што ісціна альбо ёсць, альбо яе няма. У мяне за плячыма — матэматыка. Яна, навука, — тое выратавальнае кола, што трымае на вадзе, на плаву. І шкада, што паратунак таксама ў ёй, матэматыцы, не шукаюць іншыя. А выкарыстоўваюць навуку як антураж, як нейкі фігавы лісточак. І дарэмна. Свет сёння відушчы як ніколі.

**— Уладзімір Пятровіч, ваша рашучасць запэўнівае, што з гэтай жа бескампраміснасцю вы дадзіце ацэнку і ўвогуле таму, што робіцца сёння на Беларусі.**

— Вы дарэмна штурхаеце мяне да палітыкі...

— Але ж і ваша вяртанне мне ў некаторым плане падаецца актам палітычным.

— Значыць, я пакуль не асэнсаваў, што і адстаўному прэзідэнту Акадэміі навук давядзецца быць у чыіхсьці руках палітычнай манетай. Тлумачу для ўсіх: я прыехаў на Беларусь. І толькі. Я адчуваю ўласную віну за тое, што ў апошнія гады ў нашай краіне развальваецца матэматычная школа. Хацеў бы, каб матэматыка як вялікая навука ажыла.

**— Можна пагадзіцца, што сёння, як толькі яшчэ вы прыехалі на Беларусь, у вашай асобе яшчэ не бачаць прыхільніка таго альбо іншага палітычнага руху, тае альбо іншае палітычнае тэндэнцыі. Але ж з часам, ужо заўтра-паслязаўтра вас пацягнуць туды альбо сюды. Бальшавізм нашага жыцця не праміне скарыстаць такую асобу, як акадэмік Платонаў, у канкрэтных мэтах, у канкрэтных палітычных захадах. Тым болей, што ў вашай біяграфіі ёсць і выразна акрэсленае палітычнае мінулае. Вы — той кіраўнік, у чыёй установе выспяваў бэнээфаўскі рух. І, мусіць, вы даволі лаяльна ставіліся да гэтага. Да таго ж вы, відавочна, былі прадстаўніком дэмакратычнага крыла ў парламенце яшчэ СССР...**

— Відавочна, што вы чакаеце ад мяне ізноў жа адзнак, ацэнак канкрэтных. Што ж, я пастараюся дакладна, трапна выказаць свой суб'ектыўны пункт гледжання. Хаця не спадзявайцеся ў дадзеным выпадку на катэгарычнасць і безапеляцыйнасць. Па-першае, я не ведаю многіх калізій сучаснага палітычнага жыцця Беларусі. Мне цяжка даваць адзнаку пэўным палітычным сілам. Хіба што я перакананы ў адным: і правым, і левым патрэбна адно — пошукі стваральных шляхоў. І наўрад ці галоўная тут форма працы — мітынг, забастоўка. Быў час абвастрэння пытанняў, час, калі трэба было «вопиющим гласом» абуджаць народ. Але, здаецца, гэта ўжо ўсё мінулася ці амаль што мінаецца. Крытыка, адна толькі крытыка, на мой погляд, не ўспрымаецца сёння сапраўды шырокімі масамі.

**— Трэба заўважыць, што вы не дужа рашучыя ў ацэнках, што звязаны з палітыкай...**

— Але ж я вас папярэдзіў, што і мне на асэнсаванне падзей дома, на Беларусі, патрэбен час. Прасцей простага — быць староннім суддзёю.

**— Дарэчы, ходзяць чуткі, што вы ў свой папярэдні прыезд — у снежні леташняга года — сустракаліся з Прэзідэнтам краіны...**

— Так, Аляксандр Рыгоравіч, нягледзячы на страшэнную занятасць, прыняў мяне. І я вельмі ўдзячны за гэта. Размова атрымалася даволі працяглая і шчырая. Мне здаецца, што Прэзідэнт зразумеў мае перажыванні, маю трывогу за стан навукі, адукацыі тут, дома на Беларусі.

І я буду вельмі рады, калі да маіх думак у нашай дзяржаве прыслухаюцца.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**
(Заканчэнне будзе).

ЗАВОД КРЫОН

Мікалай СІКАЛЮК, дырэктар мінскага завода «Крыон»:

# «У ЛЮБОЙ СПРАВЕ СПАДЗЯВАЙСЯ ПЕРШ ЗА ЎСЁ НА СВАЕ СІЛЫ. У ГЭТЫМ — ТВОЙ ПОСПЕХ»

***Мінскі завод «Крыон» яшчэ некалькі гадоў таму нельга было знайсці ні ў адным даведніку, хоць у гэтым годзе, зусім хутка, ён будзе адзначаць свой 40-гадовы юбілей. І справа тут не ў тым, што «Крыон» забылі ўнесці ў каталог прадпрыемстваў Беларусі, ці, дакладней, Савецкага Саюза. Не. Завод спраўна ўсе гэтыя гады працаваў, выдаваў прадукцыю. Проста называўся ён тады паштовай скрынкай. І толькі па той прычыне, што з'яўляўся і з'яўляецца зараз спецыялізаваным прадпрыемствам па выпуску прадуктаў раздзялення паветра: кіслароду, азоту, аргону як у вадкім, так і ў газападобным стане. Заслона сакрэтнасці з вядомага ў «ВПК», і не толькі, завода была знята ў разгар перабудовы, падчас развалу СССР.***

***Калектыў «Крыона» пасля шматгадовай рытмічнай работы на многія галіны народнай гаспадаркі Саюза, як і іншыя прадпрыемствы рэспублікі, пасля набыцця ёю самастойнасці быў кінуты на самавыжыванне.***

***Трэба аддаць належнае і кіраўніцтву прадпрыемства, і ўсім яго работнікам за тое, што ніякія эканамічныя катаклізмы і «сюрпрызы» рынку не змаглі парушыць рытм работы завадчан. Хоць чаго граху таіць, складанасцей хапае: трэба пільна сачыць і за тым, каб абсталяванне адпавядала часу, і знаходзіць усё новыя рынкі збыту.***

***Аб тым, як «Крыону» ўдаецца заставацца жыццяздольным арганізмам, у чым заключаўся феномен якасці сакрэтнай прадукцыі завода, — наша размова з яго дырэктарам Мікалаем СІКАЛЮКОМ.***



**— Мікалай Раманавіч, дазвольце паіранізаваць. Сакрэт стабільнасці вашага прадпрыемства, выпадкова, крыецца не ў тым, што вы робіце грошы з паветра?**

— Так, і вы пра тое ж, як і многія мае калегі. Як ні прыедзеш на якую-небудзь салідную нараду, дык мой прыход адразу суправаджаецца каментарыем большасці кіраўнікоў іншых прадпрыемстваў рэспублікі: вось, маўляў, прыехаў дырэктар, які грошы робіць з паветра...

**— А ў кожным жа жарце ёсць доля праўды...**

— Сапраўды, за паветра мы не плацім — яго пакуль хапае. Але ж для яго патрэбна добрае абсталяванне, тэхналогія і самае галоўнае — электраэнергія, якая ў сабекошце складае 75 працэнтаў.

Да таго ж, для работы нам патрэбна і масла, і каустычная сода. І гэта ўсё трэба везці з Украіны, Расіі. А там ведаеце якія цэны? На Захадзе, мабыць, і танней можна купіць.

Аднак трэба арганізаваць работу так, каб баланс расходаў і прыбытку быў дадатным. Мы пакуль з гэтай задачай спраўляемся. Выплату зарплаты не затрымліваем. За цяпло і электраэнергію разлічваемся своечасова. У бюджэт таксама плацім спраўна.

**— Значыць, вам ні па чым ніякія павевы часу?**

— Я так не сказаў бы, паколькі ў сённяшняй сітуацыі можна чакаць усяго. Аднак зараз у кіраўнікоў вялікае поле дзейнасці, свабода. Толькі граматна пабудуй сваю работу. Вядома, для гэтага часам трэба дзень і ноч быць на рабоце, ламаць галаву над нейкай праблемай па некалькі дзён.

І ведаеце, многія кіраўнікі айчынных фабрык і заводаў аказаліся проста не падрыхтаванымі да рэалій сённяшняга дня. Вынік, думаю, вы ведаеце. Вытворчасць спынена ці працуе па скарочанаму графіку, нявыплата зарплаты, адсутнасць абаротных сродкаў...

Што датычыцца нашага завода... Не ведаю, магчыма, мне пашанцавала з калектывам. Я ўжо шэсць гадоў на пасадзе дырэктара. Усяго хапала, і мне прыемна, што людзі не кінуліся ў паніку, не разгубіліся перад цяжкасцямі. Ведаю, што гавару банальнымі і збітымі фразамі. Але ж гэта так.

Мы добра ведаем, што сёння эканамічныя цяжкасці напаткалі ўсіх вытворцаў. Аднак іх трэба вырашаць самому калектыву. У такім выпадку кажуць, што спадзявайся толькі на сябе, на свой калектыў. Дзяржава табе не дапаможа, паколькі ў яе і без таго шмат праблем.

**— Мікалай Раманавіч, мяне прыемна здзіўляе, што вас не змагла зрабіць інертным старая размеркавальная сістэма. Складваецца такое ўражанне, што вы ўвесь час працавалі ў такім напружаным рэжыме, як сёння.**

— Дарэмна думаеце, што раней кіраўнікі прадпрыемстваў былі толькі інертнымі, ні на што не здольнымі людзьмі. Сярод іх было шмат граматных і дзелавых людзей, якія з поспехам працуюць і зараз. Сябе хваліць не збіраюся. Але ў мяне ў жыцці ёсць прынцып: ніколі не жыць у крэдыт, разумна расходаваць заробленае. Відаць, ён таксама адбіўся на рабоце. Таму я, калі наступілі, мякка кажучы, пасляперабудовачныя часы, імкнуўся наладзіць вытворчасць так, каб не трапіць на картатэку ці ў фінансавую залежнасць ад каго-небудзь. Мяркую, што гэта і сыграла галоўную ролю ў нашай стабільнасці.

Я наогул не ўяўляю сабе, як можна сваім людзям сказаць, што ў завода вялікі доўг і няма чым выплачваць зарплату. Яны мяне проста не зразумеюць.

**— Тым не менш, зараз у прамысловасці толькі і размоў, што аб даўжніках. У вас яны ёсць?**

— Ну вядома, хоць мы стараемся авансам сваю прадукцыю нікому не даваць. Але калі дазваляе сітуацыя — дзелімся. Трэба ж улічваць чыста па-чалавечы, што і ў суседа-кіраўніка калектыў, яму таксама трэба працаваць, людзям трэба атрымліваць зарплату, карміць сем'і. Калісьці і нам было цяжка — і нас падтрымалі.

Праўда, неплацельшчыкаў у нас нямнога, таму што мы не можам сабе дазволіць працаваць на неплацежаздольнага партнёра, інакш самі апынёмся ў незайздроснай сітуацыі. Нам жа прыходзіцца па перадаплаце разлічвацца за электраэнергію. Для гэтага трэба мець свабодныя грошы. А дзе іх узяць? З эканоміі...

**— Вы не забылі гэтае слова, якое некалі нагнала аскому?**

— Сёння, наадварот, яно на першым плане, паколькі разбазарванне і матэрыяльных рэсурсаў, і энерганосьбітаў недапушчальнае.

Перад калектывам «Крыона» цяпер штодзённа стаіць задача эканоміі электраэнергіі і цяпла. У сабекошце прадукцыі , як я ўжо сказаў, яны складаюць 75 працэнтаў. Вось, як кажуць, дзе нашы грошы.

Сёлета зіма выдалася вельмі халодная і суровая. І праверыла на трываласць усіх гаспадарнікаў і прамыслоўцаў. З-за своеасаблівай тэхналогіі вытворчасці прадукцыі нам прыйшлося адмовіцца ад цэнтралізаванага цяпла. І завод усю зіму працаваў на ўласным цяпле, што дазволіла нам штомесяц эканоміць прыкладна 500 мільёнаў рублёў.

**—?!**

— Паўтаруся, што сістэма эканоміі арыгінальная. Мы першыя яе прымянілі з усіх саюзных прадпрыемстваў падобнага профілю.

Дарэчы, раней над эканоміяй мы не думалі, паколькі ўсяго хапала. Галоўным было як мага больш выпусціць прадукцыі. А пытанні збыту, рэалізацыі нас не цікавілі.

**— Зараз яны паўсталі востра?**

— Вядома. Я ўжо пераканаўся, што сёння прадаць прадукцыю не лягчэй, чым вырабіць яе. Таму стараемся наладзіць вытворчасць пад заказ, паколькі без аплаты даваць яе нам нявыгадна, а захоўваць на складзе — тым больш. Доўгаму захоўванню яна не падлягае, таму што ідзе вялікае выпарэнне газу. А гэта ўжо страты.

**— Мікалай Раманавіч, не буду гаварыць пра настальгію па мінулым. Што было — тое прайшло. І ўсё ж вам не хацелася б вярнуцца крыху назад?**

— На жаль, машыны часу пакуль вучоныя не вынайшлі, ды і ці патрэбна яна? Сапраўды, раней было многа клопатаў з выплатай зарплаты, збытам прадукцыі. Але ж тады нам ой як хацелася самастойнасці. Часы змяніліся, і, калі ласка, на табе яе. Усе карты на руках — гуляй, тасуй, выйгравай. Ведаеце, магчыма, сёння менавіта сістэма і навучыла кіраўнікоў цвяроза думаць. Таму я не шкадую, што ўсё атрымалася так, як ёсць.

Менавіта наш завод рухаецца ў лепшы бок. І па тэхналогіі, і па дысцыпліне.

**— Вы лічыце сябе строгім?**

— Зусім не. Проста маю на ўзбраенні адну простую ісціну: калі ты сёння забяспечваеш людзям работу і зарплату, то ў цябе ёсць маральнае права патрабаваць ад іх якаснай работы і дысцыпліны.

**— Мікалай Раманавіч, калі не супраць, давайце паспрабуем закрануць тэму сакрэтнасці прадукцыі «Крыона». Здаецца, нічога такога незвычайнага тут не выпускаецца: кісларод, азот, аргон. Элементы хімічнай табліцы Мендзялеева...**

— Вы мяне пытаеце, як быццам бы гэта я паставіў грыф «Сакрэтна» на прадукцыю «Крыона». Наша прадукцыя карыстаецца вялікай папулярнасцю ў сельскай гаспадарцы. Калгасы і саўгасы не могуць абысціся без яе ні перад пасяўной, ні ў час уборкі, ні перад ворывам, таму што перад такімі кампаніямі ўсе сельскагаспадарчыя агрэгаты праходзяць праверку, і без зварачных работ тут не абыходзіцца. А для зваркі неабходна прадукцыя «Крыона». Той жа Жлобінскі металургічны завод прымяняе аргон для ліцця металу.

Наогул, у рэспубліцы цяжка знайсці прадпрыемства, якое не выкарыстоўвала б прадукты раздзялення паветра: кісларод, азот, аргон.

Няма патрэбы казаць і пра розныя яркія шыльды, рэкламныя шчыты, якія свецяцца. Тут прымяняецца інертны газ аргон...

**— І ўсё ж, якое дачыненне меў «Крыон» да «абаронкі»?**

— Усе адрасы вам не скажу — у якія ваенныя ведамствы паступала прадукцыя нашага завода — бо не ведаю. Аднак дакладна ведаю, што першы савецкі спадарожнік у 1957 годзе падняўся на касмічную арбіту ў тым ліку і дзякуючы прадукцыі «Крыона». І атрымліваецца, што Беларусь, дзякуючы нашаму заводу, мае прамое дачыненне да гэтай знамянальнай падзеі. Я не здзіўлюся сёння, калі мне скажуць, што першы касманаўт свету Юрый Гагарын узняўся высока над Зямлёй таксама ў нечым дзякуючы «Крыону». Магчыма, не адзін дзесятак спадарожнікаў ці касмічных караблёў стартавалі, выкарыстоўваючы прадукцыю беларускага прадпрыемства. Многія работнікі завода за гэтыя і іншыя дасягненні атрымалі ўрадавыя ўзнагароды.

Працягваючы тэму «абаронкі», скажу, што прадукты раздзялення паветра выкарыстоўваюцца ў атамнай энергетыцы, ракетнай тэхніцы, для ахаладжэння лазераў, пры розных даследаваннях у тэрмастатычных умовах.

**— Іншаземцам, відаць, не прыходзілася разлічваць на супрацоўніцтва з паштовай скрынкай, якая знаходзіцца на вуліцы Сярова, 8 у Мінску?**

— Думаю, што раней у гэтым і патрэбы не было, тым больш, мы непасрэдна рэалізацыяй прадукцыі не займаліся. Сёння ж завод поўнасцю задавальняе патрэбы народнай гаспадаркі Беларусі ў прадуктах раздзялення паветра, а таксама экспартуе іх у розныя раёны блізкага і далёкага замежжа.

**— Мікалай Раманавіч, заходнія партнёры, відаць, могуць стаць і вашымі інвестарамі?**

— Так. Такая патрэба у нас ёсць, таму мы зараз спрабуем працаваць з іншаземцамі па прыцягненню на завод замежных інвестыцый. Пакуль прыглядваемся да патэнцыяльных крэдытораў, разглядаем іх прапановы, раімся з калектывам.

Як ні сумна, але тэхналогію вытворчасці трэба развіваць. А для гэтага неабходны грошы, і немалыя. А іх у такой колькасці пакуль няма ні ў нас, ні ў міністэрства, ні ва ўрада.

Таму трэба думаць, як сумеснымі намаганнямі падтрымаць абсталяванне ў працаздольным стане, асвоіць новыя тэхналогіі, эканамічна выгадныя для завода, а значыць, і для рэспублікі.

**— Што ні кажыце, а работа дырэктара — гэта суцэльная дыпламатыя: трэба знаходзіць агульную мову з пастаўшчыкамі, партнёрамі, інвестарамі. Мяркую, што не менш важна ўмець размаўляць і ў калідорах улады?**

— У нас з дзяржаўнымі органамі кіравання нармальныя адносіны. Грошай мы ні ў кога не просім, штат завода ўкамплектаваны добрымі кадрамі, падаткі, праўда, немалыя, таму хацелася б удасканаліць падатковую сістэму. Падаткаў шмат, і многія з іх уключаюцца ў сабекошт прадукцыі. У выніку растуць цэны, і прадукцыя становіцца неканкурэнтаздольнай. А хацелася б пашырыць рынак збыту.

Адно, што мяне сёння хвалюе, — гэта некаторыя дробныя пытанні. Адно з іх, якое не зусім зразумелае, — гэта пытанне ліцэнзавання. Дапусцім, што датычыцца аўтатранспарту, то на адну машыну завод вымушаны быў узяць адразу тры ліцэнзіі — на перавозкі ўнутры горада, за горадам і за межамі рэспублікі. У чым адрозненне гэтых ліцэнзій? Ліцэнзаванне гэтых відаў дзейнасці робіцца па ўказанню Кабінета Міністраў. Але, на мой погляд, Міністэрства да вырашэння дадзенага пытання падышло не зусім правільна.

Мы ж самі купляем тэхніку, пры неабходнасці яе рамантуем, плацім грошы за тэхагляд, плацім дарожны падатак дзяржаве. Таму я ніяк не ўцямлю, чаму існуе такая несправядлівасць.

У выніку гэтых аплат ліцэнзій наша прадукцыя становіцца значна даражэйшая, паколькі расходы на іх выплату аўтаматычна закладваюцца ў сабекошт прадукцыі.

**— Мікалай Раманавіч, калі апусціць службовыя справы, хто вы па-за вытворчасцю?**

— Як вам сказаць: муж, бацька... Дома займаюся з дзецьмі. Летам, у выхадныя дні, усёй сям'ёй стараемся выехаць за горад, на дачу.

**— Там, відаць, адпачынак чаргуецца з актыўнай работай?**

— А як жа. Я бяру рыдлёўку ў рукі, капаю градкі. Ведаеце, люблю добра папрацаваць, каб аж змарыцца, а потым можна і добра адпачыць.

**— У вас ёсць схільнасці да палявання, рыбнай лоўлі?**

— Не скажу, што я заядлы рыбак, хоць часам магу пасядзець з вудай. А вось паляванне люблю. Мне галоўнае не забіць птушку ці жывёлу, і нават не зняць іх фотаружжом, а проста прагуляцца па свежым паветры.

**— Можна меркаваць, што вы яшчэ і аматар спорту. І нават толькі па тым, што ў вашым кабінеце стаіць двухпудовая гіра.**

— Сапраўды, спорт я люблю. Разам з дзецьмі хаджу ў спортзалу, гуляем у футбол, баскетбол. Некалі ў нас на заводзе была свая лыжная каманда. Ездзілі на розныя спаборніцтвы. Дарэчы, на нядаўнім лыжным прабегу ў Раўбічах, у якім удзельнічаў і Аляксандр Лукашэнка, я прабег на лыжах 20 кіламетраў. Ведаеце, адчуванне потым было непаўторнае.

***(Заканчэнне расказу пра людзей і справы завода «Крыон» чытайце на 11-й стар.)***

# ПАДЗЕННЕ ЛЬВА

**У кожным чалавеку закладзена прыродай добрае і злое. Быццё, грамадства, нейкія жыццёвыя сітуацыі не могуць перарабіць сутнасць чалавека, яны толькі спрыяюць праяўленню тых ці іншых якасцей яго характару. І ўсё ж, пры ўсіх мінусах чалавечай натуры, найбольшае зло для грамадства — чалавек-разбуральнік. За што б ён ні браўся, дзе б ні працаваў, вынік адзін — развал і заняпад.**

Калгас «Кастрычнік» Ляхавіцкага раёна банкруціўся ў 1979 годзе. Гаспадарка адносна невялікая, у наяўнасці мела 700 га зямлі, але даўгоў набрала каля трох мільёнаў. Каб выправіць сітуацыю, раённае начальства вырашыла «Кастрычнік» аб'яднаць з суседнім калгасам «Прагрэс», які быў заможнай гаспадаркай. Утварыўся адзін калгас «Кастрычнік» (бо як было ліквідаваць калгас з такой назвай?), а ўзначаліў яго старшыня былога «Прагрэса» І. Цыкман. Так захацелі на сходзе людзі. Леў Анатольевіч Аліферка, старшыня калгаса «Кастрычнік», нягледзячы на арганізацыю групы падтрымкі, прайграў. Калгаснікі за яго не прагаласавалі, бо што уяўляў сабой старшыня «Кастрычніка», яны добра ведалі. Крытычныя артыкулы ў адрас Льва Аліферкі пісаліся ў тагачаснай саюзнай і рэспубліканскай прэсе, а публіцыст А. Казловіч нават прысвяціў Аліферку ў сваёй кнізе «Дзіця маё залатое» цэлы раздзел. Таму апісваць метады кіравання калгасам я не буду. Але што калгас «Кастрычнік» дзякуючы Льву Аліферку разваліўся, то гэта факт.

У гэтай сітуацыі, калі прытрымлівацца здаровага сэнсу, Аліферка не павінен быў больш займаць пасаду кіраўніка, альбо яго неабходна было панізіць, напрыклад, пакінуць брыгадзірам у тым жа калгасе, няхай бы памагаў выпраўляць становішча.

Але дзе там. Льва Анатольевіча назначаюць дырэктарам эксперыментальнай базы «Вольна-Чэрніхава», адной з вядучых гаспадарак Беларусі. База мела 8731 га зямлі, з якіх 5844 га раллі. Гаспадарка была шматгаліновай і займалася вырошчваннем элітнага насення збожжавых, вытворчасцю мяса-малочнай прадукцыі і г. д.

Дзяржава ўкладвала ў эксперыментальную базу сотні мільёнаў рублёў, і многія паказчыкі ў гаспадарцы былі на дзіва высокія. Так было. Але новы дырэктар развіў такую бурную дзейнасць, што не хапала ніякіх грошай, каб выратаваць гаспадарку ад эканамічнага краху.

На 1 студзеня 1996 года пагалоўе жывёлы зменшылася з 7433 галоў да 3286. Прывагі таксама знізіліся на 40,8 працэнта. Летась прырэзалі 1180 галоў буйной рагатай жывёлы, здохлі 96.

Гэта толькі некалькі штрыхоў да сённяшняга стану гаспадаркі. І вось фінал. За нізкі ўзровень арганізацыі вытворчасці, прыпіскі і г. д. Л. Аліферка вызвалены ад пасады і кантракт з ім скасаваны.

Тут і хачу перайсці да галоўнага і паказаць некаторыя бакі дзейнасці Льва Аліферкі, бо на пасадзе дырэктара ён прабыў больш за пятнаццаць гадоў.

Сімптомы нездаровага клімату на базе адчуваліся даўно, але выручыла падтрымка высокага начальства (пра гэта ніжэй), ды і сродкі масавай інфармацыі змянілі танальнасць, хвалілі Льва Анатольевіча. І толькі ў самы апошні час з'явіўся артыкул, у якім аўтар, апавядаючы пра развал гаспадаркі, між іншым паведамляе, што ў доме Аліферкі захоўваўся ацэтыленавы генератар, свідравальны станок ды зварачны апарат, якія належалі гаспадарцы. Вельмі ўжо сціплым чалавекам падаецца чытачу Леў Анатольевіч. Трэба ж, прыхаваў усяго толькі генератар ды трансфарматар.

Хочацца глянуць на асобу былога дырэктара больш шырока, бо менавіта пры яго патуранні і ўдзеле развальвалася гаспадарка, расцягвалася дзяржаўная маёмасць.

У Аліферкі заўсёды была адна слабасць: ён вельмі любіў застоллі і ўрачыстасці, але, безумоўна, не за свой кошт. У «Кастрычніку» наконт гэтага было прасцей. Там можна было прытрымлівацца крылатай фразы: «Усё наўкол калгаснае, усё наўкол маё». На эксперыментальнай базе стала больш складана, як-ніяк — дзяржаўны сектар. Але і тут выйсце знайшлі. У гаспадарцы пачалі шырока выкарыстоўваць прыпіскі, парушаць фінансавыя інструкцыі і г. д. А каб не было ніякіх пярэчанняў і праблем, дырэктар пачаў акружаць сябе паслухмянымі і давернымі людзьмі. Толькі за 1984 год на базе змянілася 17 матэрыяльна-адказных работнікаў. Чатыры разы вызвалялася і пасада галоўнага бухгалтара.

Рэвізія гаспадарча-фінансавай дзейнасці базы ў маі 1985 года выявіла грубыя парушэнні ў расходаванні грашовых сродкаў. Навагоднія і камсамольскія «агеньчыкі», провады зімы, банкеты і г. д. праводзіліся з размахам. На закуску і выпіўку бралі з дзяржаўнай кішэні, ішлі на розныя хітрыкі, каб атрымаць неабходныя грошы.

З сакавіка 1985 года старшыня прафкома базы Лапатка быццам бы для провадаў зімы закупіла чырвоную і чорную ікру, гарэлку, каньяк, філейку і г. д., а грошы спісалі на харчаванне механізатараў, якія нібыта з'елі 370 порцый баршчу, выпілі 270 порцый кісялю і г. д.

Потым старшыня прафкома тлумачыла, што гэтыя прадукты яна купіла для сябе за свае грошы, а для провадаў зімы было даручана загадчыцы дзіцячага садка Хіневіч згатаваць салодкія напіткі, бульбу ў мундзірах, бліны ды тоўчанае семя.

Прачытаўшы такое і ўявіўшы, як Леў Анатольевіч абірае бульбу, макае ў алей ды запівае кісялём, слёзы замілавання выступаюць на вачах, бо патэнцыяльныя магчымасці па частцы банкетаў у Аліферкі былі заўсёды стабільна высокія.

Рабаванне дзяржавы ішло па наезджанай дарозе. Устаноўлена няхватка бульбы — 276.987 кг, звадкаванага газу — 14.614 кг, а таксама бензіну, дызпаліва і г. д. І ў той жа час ў 1984 годзе здохла 59 кароў і 110 свіней, а за першае паўгоддзе 1985 года — 114 галоў.

У выніку касірка базы «Вольна-Чэрнікава» трапіла ў турму, а дырэктар атрымаў строгую вымову.

Убачыўшы, што ўсё абышлося, Аліферка з яшчэ большай энергіяй працягвае сваю дзейнасць. Тым больш, што падзеі вельмі спрыяюць... Перабудова падыходзіць да свайго эпагея. КПСС губляе кантроль над сітуацыяй у краіне. Райкомы і гаркомы ў разгубленасці. І Аліферка, як і многія іншыя кіраўнікі прадпрыемстваў, хутка зарыентаваўся. Партыйныя босы, перад якімі ў многіх дырэктараў у свой час дрыжэлі калені, ператварыліся ў папяровых тыграў. Настаў перыяд бескантрольнасці і ўсёдазволенасці.

Рэвізія, праведзеная на базе «Вольна-Чэрніхава» ў студзені 1996 года, выявіла мноства розных парушэнняў, пералік якіх заняў 20 старонак машынапіснага тэксту. Прывяду толькі некалькі прыкладаў.

Адразу кідаецца ў вочы, што на базе адсутнічае ўсякі кантроль, гаспадарку літаральна расцягваюць. Кожны імкнецца хоць штосьці ўхапіць. І найперш да гэтага прыкладае руку блізкае акружэнне дырэктара.

На аўтамабіль «ІЖ-2715-011», які лічыўся за намеснікам дырэктара Сталярчуком, спісваліся запчасткі, якія на аўтамабіль не ўстанаўліваліся. Задні мост, шыны, акумулятар і г. д. кудысьці зніклі. Дзяржаве нанесены ўрон у памеры 12.517.083 рублёў. Намеснік дырэктара захварэў, калі ішла праверка, злёг і Аліферка на ўвесь час рэвізіі.

Спісваецца тэхніка па «смешных» цэнах. За адзін толькі 1995 год прыватным асобам прададзена 6 трактароў па цане ад 2 да 3 мільёнаў рублёў. Але гэта так сабе, «дробязь».

Леў Аліферка вырашыў будавацца, але будаўнічыя матэрыялы набывае не ў магазіне, а на роднай базе, за наяўны разлік. Матэрыялы выпісваюцца на дырэктара і яго жонку. Цэменту атрымана 20 тон, паркету — 100 кв. м, цэглы — 45 тыс. штук, фарбы — 125 кг, вапна, фундаментныя блокі і многае іншае таксама пайшло на дырэктарскую будоўлю.

Здавалася б, вялікага граху тут няма, за ўсё заплачана. Калі б не адзін нюанс: Савет працоўнага калектыву базы прымае рашэнне дазволіць «...праводзіць выпіску будаўнічых матэрыялаў дырэктару Аліферку Л. А. па ўліковых цэнах».

Вось у гэтым і ўвесь сакрэт. Бо ўліковыя цэны — гэта не рынperiodic. Калі на базу паступіла цэгла па ўліковай цане, напрыклад, 40 руб. за тысячу, то праз два гады пад уплывам інфляцыі яе рыначная цана стала 300.000 рублёў, і купляць гэтую цэглу трэба было б па рэальнай рыначнай цане, а не па той, ўліковай.

На базе (комплекс «Юбілейны») разбіраецца 5 сянажных вежаў. Актаў разборкі няма. З 18.000 пліт неапрыходаванымі аказаліся 12.330 штук. На чыю будоўлю яны пайшлі? Хто высветліць?




Махінацыі на базе ішлі як па вертыкалі, так і па гарызанталі.

Ідзе будаўніцтва адміністрацыйнага будынка, кошт работ завышаны больш як на 33 млн. руб. На складзе в. Савічы ў кладаўшчыка выяўлена 70.156 кг лішняга збожжа.

Чытаючы акты рэвізій, прыходзіш да высновы: за што б ні ўзяўся Аліферка, то для дзяржавы адны толькі страты. Паехаў ён у камандзіроўку за мяжу, узяў аванс, а вярнуўся дамоў — рэшткі нявыкарыстанай валюты вярнуў у касу толькі праз тры месяцы. У выніку гаспадарка аштрафавана на 68 млн. рублёў. Толькі зноў жа, чаму панесла адказнасць дзяржаўнае прадпрыемства, а не сам вінаваты?

Задумаў Аліферка запусціць на базе біяферментатар, такі як у амерыканцаў. А ў выніку сотні мільёнаў рублёў закапаны ў гной — у прамым і пераносным сэнсе.

Мне здаецца, што цяпер не так і важна, выкруціцца Аліферка на гэты раз ці не. Хаця людзі, з якімі мне прыходзілася гаварыць, упэўнены, што выкруціцца. Справамі на базе «Вольна-Чэрніхава» сёння займаюцца следчыя, таму не будзем абганяць падзеі.

Але давайце на ўсё гэта паглядзім крыху ў іншым ракурсе. Чаму так доўга трымаўся на дырэктарскай пасадзе Аліферка? І толькі калі ў вобласці і раёне змянілася кіраўніцтва і віцэ-прэм'ер У. Гаркун узяў сітуацыю на базе пад свой кантроль, удалося палажыць канец «панаванню» дырэктара.

Ёсць добрая народная прымаўка: «Дружба дружбай, а служба службай», але, на вялікі жаль, яна ў нас не ў пашане. Для нашага чалавека паняцце службы і дружбы ўяўляецца як адно цэлае. Часам начальнік вып'е з падначаленым чарку — і служба ўжо адыходзіць на другі план.

Калі Леў Аліферка ўзначальваў калгас «Кастрычнік», першым сакратаром Ляхавіцкага райкома партыі быў В. Бурскі. Не ведаю, што яго звязвала з Аліферкам, але Віктар Іванавіч Аліферку ў крыўду не даваў.

На 2-й сесіі Баранавіцкага райсавета старшыня Вольнянскага сельскага Савета Г. Бабко выступіла з крытыкай Аліферкі.

Старшыня Брэсцкага аблвыканкома В. Бурскі, не хаваючы сваіх сяброўскіх адносінаў з дырэктарам базы, выступіў ў яго абарону, перавёўшы ўсю крытыку ў плоскасць нейкай звадкі. Маўляў, штосьці там не паладзілі паміж сабой, вось з гэтага і ўся праблема. Толькі давайце паставім пытанне крыху інакш: калі б эксперыментальная база «Вольна-Чэрніхава» належала не дзяржаве, а В. Бурскаму, то ці доўга кіраваў бы ёю Аліферка?

Ясна, што не шаснаццаць гадоў, а да першага «праколу». Ды і ўвогуле ці кіраваў бы? І тут не дапамагла б нават самая гарачая дружба.

Безумоўна, праблема не ў асобе Аліферкі ці Бурскага. Яны не выключэнне. Гэтыя людзі — часцінкі той сістэмы, якая іх парадзіла. Шкада толькі тых, хто арэ ды жне, бо яны не заўсёды могуць усвядоміць усю сутнасць праблемы, якая найбольш закранае існаванне простага чалавека і эксплуатуе яго.

Льва Аліферку знялі з пасады за тры месяцы да пенсіі. Не дачакаўся ён афіцыйных віншаванняў, падарункаў і банкету з удзелам вышэйстаячых... Проста не атрымалася. А былы дырэктар так любіў усё гэта...

**Сымон СВІСТУНОВІЧ,**
г. Баранавічы.

## Гарады Беларусі вачыма наступнага тысячагоддзя

**Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва сумесна з аблвыканкомамі распрацавалі асноўныя палажэнні прагнозаў тэрытарыяльнага развіцця гарадоў Рэспублікі Беларусь з разліковай колькасцю насельніцтва і патрэбнасцю ў тэрыторыях да 2000 года. Урад краіны зацвердзіў і этапы развіцця гарадоў.**

У адпаведнасці з прагнозам, да пачатку новага тысячагоддзя ў рэспубліцы будзе налічвацца пяць гарадоў, колькасць насельніцтва ў якіх будзе перавышаць 300 тыс. чалавек. Гэта Гомель (520 тыс.), Віцебск (400), Магілёў (377), Гродна (327) і Брэст (320 тыс. грамадзян). У 2000 годзе павялічыцца колькасць і гарадоў, якія пераступілі 100 тысячную мяжу. Да вышэйпералічаных трэба дадаць Баранавічы (185 тыс.), Пінск (142), Оршу (145), Наваполацк (200), Ліду (110), Барысаў (160), Маладзечна (107), Салігорск (115) і Бабруйск (237 тыс. чалавек).

Усяго гарады краіны для іх развіцця да 2000 года адчуваюць патрэбнасць у тэрыторыях для комплекснага жылля ў памерах каля 28 тыс. гектараў.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## Чарговае адкрыццё Беларусі. У чужаземных архівах

**У Мінску пачала сваю работу міжнародная навуковая канферэнцыя «Замежная архіўная беларусіка».**

У гэтага прадстаўнічага мерапрыемства шэсць арганізатараў — Камітэт па справаводству Рэспублікі Беларусь, Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы, Беларуская асацыяцыя клубаў ЮНЕСКО, Беларуская асацыяцыя гісторыкаў, гістфак Белдзяржуніверсітэта, часопіс «Беларуская мінуўшчына».

Пасля агульнага пленарнага пасяджэння работа будзе працягвацца па секцыях. Беларускія і замежныя вучоныя раскажуць пра крыніцы па гісторыі Беларусі ў чужаземных архіўных зборах. Беларусіка ў Ватыкане і Польшчы, на Украіне і ў Расіі, у іншых краінах свету — пра гэта можна будзе пачуць у выступленнях, дакладах самых аўтарытэтных вучоных.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## Багіня рамёстваў сярод будучых інжынераў

**У адным з інтэрнатаў Беларускай політэхнічнай акадэміі нядаўна адкрыўся цэнтр этнаграфіі фальклору і рамёстваў. Гэты цэнтр — дзіця плённага супрацоўніцтва кіраўніцтва акадэміі і Саюза майстроў народнай творчасці. Студэнты і выкладчыкі змогуць далучацца да таямніц розных відаў народных рамёстваў у секцыях і гуртках. Плануецца праводзіць заняткі ва ўсіх інтэрнатах акадэміі. Лепшыя работы будуць дэманстравацца ў выставачнай зале, якая ўжо працуе.**

Дарэчы, як сказаў старшыня Саюза майстроў народнай творчасці Яўген Сахута, у іх саюза дагэтуль не было пастаяннай экспазіцыі. Цяпер магчымасць увесь час выстаўляць свае работы ў народных умельцаў з'явілася. У далейшым плануецца праводзіць тэматычныя выстаўкі, індывідуальныя, выстаўкі навучэнцаў студый і гурткоў, а пакуль першая экспазіцыя ў гонар адкрыцця цэнтра — паказальная. На ёй прадстаўлены работы вядомых далёка за межамі нашай краіны майстроў. Ёсць і вырабы маладых майстроў. Выставачная зала будзе адкрыта для ўсіх наведвальнікаў, плануецца правядзенне экскурсій. У залы прыгожая назва — «Берагіня». Так нашы продкі звалі багіню сямейнага ачага, апякунку рамяства і ўмельства.

**Гражына КАВАЛЕЎСКАЯ.**

бачыць»,— пісаў Абрэмбскі ў названай працы. Відавочна, што і сёння для некаторых даследчыкаў пакуль не настаў час даць несумненны і адназначны адказ на пастаўленае аўтарам пытанне. Працэсы змен і пераўтварэнняў працягваюцца, і выклікаюць цікавасць ужо новых пакаленняў этнографаў.

Акрамя таго, у навуковым асяроддзі і сярод проста цікаўных людзей заўсёды існавалі ўяўленні пра старажытнасць і архаічнасць палескіх вёсак і багнаў, авеяныя нейкімі рамантычнымі і экзатычнымі легендамі і паданнямі. Этнографы і раней, і цяпер незвычайна любяць за гэта наша Палессе. У тым ліку польскія этнографы.

ЮЗАФ АБРЭМБСКІ на Палессі пабываў у 1934—1937 гадах, тут ён назіраў і ўпадак традыцыйных народных звычаяў і ўяўленняў, трансфармацыі старажытнай культуры, і навацыі сучаснасці, цягу да адукацыі і цывілізацыі... Аб'ехаў ён некалькі дзесяткаў вёсак тагачасных Палескага і Валынскага ваяводстваў, у многіх з іх затрымліваўся са сваёй групай

# МІНУЛА ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ГАДОЎ. ПАЛЕССЕ І ЯГО ЛЮДЗІ Ў ЧЫМСЬЦІ ЗМЯНІЛІСЯ, А Ў ЧЫМСЬЦ



Крыж з атрыбутамі хрыстовых пакут і ахвярнымі ручнікамі на вясковай вуліцы.

**Паміж змешчанымі тут чорна-белымі і каляровымі здымкамі ляжыць цэлая эпоха — 60 гадоў,— што зусім нямала для нашага бурнага і багатага на падзеі дваццатага стагоддзя. Аб'ядноўвае іх тое, што і тыя і другія здымкі зроблены на Палессі польскімі этнографамі, якія надзвычай рупліва і ўнікліва праводзілі свае навуковыя «баданні» (даследаванні) у нашых глыбінных вёсках. Вока этнографа выхоплівала элементы даўніны,**

**незвычайнасці, эк**

**Гэтага на Палес можна меркаваць І калі мы часцяком гэтага, то варшаўя захапленні.**

**«Які іншы тут св выказвалі студэнты універсітэта свае**

У ВАРШАВЕ, у музеі Незалежнасці, што на алеі Салідарнасці 62, праходзіць выстаўка «Сённяшнія людзі Палесся. Сцяжынай экспедыцыі Юзафа Абрэмбскага». Выстава гэтая прысвечана 60-годдзю этнасацыялагічных даследаванняў выдатнага польскага этнографа Ю. Абрэмбскага(1905—1967) на Палессі. Яго сцежкамі ў 1994—1996 гадах праехалі і прайшлі студэнты этнолагі і сацыёлагі з Варшаўскага універсітэта пад кіраўніцтвам выкладчыцы Ганны Энгелькінг.

З нагоды адкрыцця выставы ў музеі былі ўрачыстыя выступленні, дэманстрацыя польскага фільма 30-х гадоў «Палессе, край сумных песень», навуковая сесія ў Варшаўскім універсітэце, якую, дарэчы, вяла пані прафесар Эльжбета Смулкова, якую ў нас яшчэ добра памятаюць як «пані пасол»...

Сама выстава складаецца з 400 фатаграфій, палова з якіх — чорна-белыя, зробленыя Юзафам Абрэмбскім у 30-я гады гэтага стагоддзя на Палессі, а другая палова — каляровыя, зробленыя ў наш час студэнтамі групы Ганны Энгелькінг і ёй самою. Прадметы побыту, этнаграфічныя рарытэты з Палесся, а таксама песні, запісаныя ад палескіх кабет падчас апошніх экспедыцый, удала дапаўняюць экспазіцыю. У Варшаве яе можна будзе бачыць яшчэ да 15 чэрвеня. Ганна Энгелькінг і яе калегі хацелі б, каб гэтая выстава пабывала і на Беларусі: у Мінску, Брэсце, Пінску. І пэўныя арганізацыйныя крокі для гэтага ўжо робяцца...



Мужчыны з вёскі Свянціцы Лунінецкага павету.

ЮЗАФ АБРЭМБСКІ паводле спецыяльнасці называў сябе этнасацыёлагам, вучыўся ён у найбольш вядомых польскіх этнографаў Машыньскага і Маліноўскага, вывучаў этнасацыялогію вёскі. Палессем ён зацікавіўся, відаць, ад Машыньскага, які рабіў тут свае даследаванні перад першай сусветнай вайной. А па-другое, Абрэмбскі цікавіўся этнічнымі групамі, назіраў народатворчыя працэсы, што, на яго погляд, адбываліся ў той час у палескіх вёсках, да якіх яшчэ не дайшла ніякая нацыянальная ідэалогія. На погляд Абрэмбскага, Палессе, як ніякі іншы край, найлепш падыходзіла для гэтага.

«Дзякуючы сваім асаблівым, часамі нават выключным прыродным, гістарычным і культурным рысам і умовам, Палессе не для адной навукі з'яўляецца тэрыторыяй, вартай даследаванняў, і для не адзінага навукоўца можа стаць прадметам захапляючых інтэлектуальных пошукаў»,— пісаў Ю.Абрэмбскі у сваёй працы «Сённяшнія людзі Палесся»...Іншая з важнейшых апублікаваных навуковых прац Абрэмбскага пра гэты рэгіён, названая «Этнічная праблема Палесся», не страціла сваёй навуковай вартасці і актуальнасці і цяпер. «Людзі Палесся — у сваёй пераважаючай масе — не з'яўляюцца ні украінцамі, ні беларусамі. Перастаюць быць палешукамі... Ці так будзе заўсёды, ці ў працэсе змен і пераўтварэнняў нацыянальная свядомасць гэтага люду выявіцца больш моцна і выразна — цяжка гэта прадпадоўгу, падрабязна апісваў побыт, занатоўваў расказы людзей, замалёўваў карты вёсак і зямельных надзелаў, шмат фатаграфаваў. Да вайны з таго вялікага матэрыялу, сабранага на Палессі, Юзаф Абрэмбскі паспеў апублікаваць чатыры тэарэтычныя і метадалагічныя артыкулы ў часопісах «Пшэглёнд социологічны» і «Справы народовосцёвэ», а ў час акупацыі ён падрыхтаваў да друку дзве кнігі: «Палессе архаічнае» і «Школа на Палессі». У іх Абрэмбскі падае Палессе як край кантрастаў: край такіх багатых паноў, як нідзе ў Польшчы, і такіх бедных, аддзеленых ад высокай культуры сялян...

Але апублікаваць гэтыя кнігі Абрэмбскі не змог, бо сітуацыя пасля вайны змянілася, у Польшчы з'явілася народная ўлада, а Палессе адышло да СССР і да Польшчы як бы ўжо не мела дачынення...

«Не думаў я, што Ленін і Сталін былі таксама этнографамі», — з сумам жартаваў з гэтай нагоды Ю. Абрэмбскі. Далейшы жыццёвы шлях вучонага звязаны са Злучанымі Штатамі Амерыкі. Ён выкладае ў Оксфардзе, робіць этнаграфічныя даследаванні на Ямайцы, працуе экспертам у ААН, выкладае ў каледжах Нью-Йорка.

Вялікі палескі архіў Абрэмбскага (каля 1000 фатаграфій (гэта, відаць, найбольшы фотазбор з перадваеннага Палесся), рукапісы, палявыя нататкі, запісы размоў з людзьмі, карты, схемы і інш.) захоўваецца ў бібліятэцы Масачусетскага універсітэта ў Амхерсце (ЗША).

У цяперашніх умовах ён ужо даступны і для беларускіх даследчыкаў, ніякіх палітычных матываў, якія б перашкаджалі карыстацца гэтымі матэрыяламі і ўводзіць іх у наш навуковы і грамадскі абарот, няма, перашкоды ёсць іншага характару — фінансавыя. Падарожжа ў Амерыку і выраб копій каштуе нямала.



Вёска Мызава. Маладыя з іконамі ў час вясельнай цырымоніі па дарозе дадому.



Вёска Соміна, колішняга Касаўскага павета: бабуля песціць ўнучку, сястра песціць брата.

# ПРАЧЫНАЕЦЦА ДУША

«У Кітаі, як ты, пэўна, ведаеш, і сам імператар кітаец і ўсе наогул кітайцы».

У нядзельную раніцу, як заўсёды, я прыспешвала сына са снеданнем:

— Што, зноў на заняткі?— перасмыкнуўся ён.

— Не, мы пойдзем у лялечны тэатр,— і я зазірнула яму ў твар. Дзякуй Богу, нездаволенасць знікла. Мабыць, для яго гэтае слова нарэшце набыло нейкае значэнне. Не памятаю, калі мы павялі яго ўпершыню ў тэатр. У тры? У два з паловай? Мы выбіралі, здаецца, самую просценькую п'есу. Нам спадабалася, хаця казачныя героі паказваліся з цяжкасцю і сына, бадай, не зацікавілі ўвогуле. Ён глядзеў не столькі на сцэну, колькі па баках, спрабаваў пабегаць і гучна размаўляў. Словам, было рана.

І потым, праз год, ён быццам і глядзеў на сцэну, і смяяўся, але хутка стаміўся і ніколі не ўзгадваў тое, што бачыў. У гэтым сезоне мы з ім таксама хадзілі ў тэатр, але, баюся, што яму усё ж было цікавей з'есці салодкую вату на палачцы ды мяшочак «хлопаючай» кукурузы.

Я не хачу сказаць, што спектаклі былі дрэннымі. Зусім не. Проста не адбывалася супадзення дзіцяці і тэатра, яны заставаліся на розных берагах: дзеянне — дзесьці там, асобна, дзіця, якое нецярпліва круціцца ў крэсле,— асобна.

І зусім не па віне акцёраў (у абсалютнай большасці выпадкаў). Лялечны тэатр — гэта дом, дзе сутыкаюцца і разбіваюцца намаганні. Часцей за ўсё бацькі вядуць упершыню сваё дзіця ў тэатр — зусім забыўшыся, што за словам «лялечны» ідзе яшчэ адно. Яны жадаюць пацешыць дзіця (і ў пэўнай ступені пацешыць сябе), ну, каб даць нейкую чарговасць атракцыёну ў парку, «Дыснэю» «па відзіку», ды мёртвай, напалову лысай «Барбі-Сіндзі» з выцягнутымі, нібы ў сутарзе, нагамі.

Акцёры ў сваю чаргу мужна і стойка спрабуюць данесці гледачам мастацтва. Дзеці ж, з падачы дарослых, глядзяць на сцэну з набітым кукурузай ротам і не разумеюць, чаму ім трэба цярпець саракахвілінную пакуту сядзення на адным месцы. Баюся, што ў нейкай ступені і мы з сынам не былі тут выключэннем. І калі б спектаклі не кранулі мяне самую, мы б ніколі туды больш не пайшлі. Але я ведала, што зрабіць, каб сын навучыўся ўспрымаць тэатр, каб ён убачыў яго. І я проста чакала. Верыла, што сустрэча павінна адбыцца.

Так і здарылася. Здаецца, тэатр увайшоў у ягоную душу. Гэта было на прэм'еры «Прыгод алавяннага салдаціка, пастушкі і камінара». Як гэта адбылося? Я не здолею вам адказаць. Бо гэта таінства. Як увогуле мастацтва. Чаму міма адной карціны мы праходзім абыякава, а перад іншай можам прастойваць гадзінамі? Хто растлумачыць? Можна дапусціць, што акцёры ігралі цудоўна. Так. Але гэтага недастаткова. Наш тэатр лялек адрозніваецца майстэрствам. Але тут не толькі ў майстэрстве справа. Мне здаецца, акцёры ў «Алавянным салдаціку» былі незвычайнымі, яны былі захопленыя, не, агорнутыя, не, — зачараваныя святам Андэрсена. І яшчэ — святам лялек. Такіх лялек, якія ажываюць ноччу. Ды, бадай, і днём, варта толькі на іх паглядзець больш уважліва. Інакш. Што і рабілі акцёры, а за імі і дзеці і іх бацькі.

Упершыню пасля спектакля я ні аб чым не пытала сына. Я ведала адказ. Мы з ім да болю адбілі далоні. І ён крычаў: «Брава!» разам са мной. А калі мы пайшлі з тэатра, ён сказаў: «Мне вельмі спадабаўся гэты, дзядуля, ну як яго?.. Кітайскі імператар».

Гэта было нечаканае свята. Яно пачалося з самых першых імгненняў, калі і ў зале, і на сцэне раптам згасла святло. Поўная зала. Больш чым палова — дзеці. І поўная цемра. Секунды, быццам па чароўнаму ўзмаху, пацягнуліся так, што дарослыя паспявалі падумаць адразу шмат аб чым, а дзеці паспявалі яшчэ і шмат аб чым спытаць. «Глядзі наперад», — падказала я сыну, бо там ужо вымалёўваўся пакой, паступова, спачатку нібы вока звыкаецца з цемрай, але вось запалены камін, вось зялёная лямпа пад столлю, і пакой напоўніўся мяккім святлом (мастак — Валерый Рачкоўскі). А там чалавек. Ганс Хрысціян Андэрсен.

«Мама, ты бы хацела жыць у такім пакоі?» «Так, канешне».

Пачатак спектакля быў настолькі дарослым, што збянтэжанасць на імкненне ахапіла бацькоўскую палову зала. Некаторыя мамы спрабавалі выратаваць учынак: «Глядзі, якое ў цётачкі ўбранне». Але не толькі сукенка, сама Чыені Лінд, спявачка, «асляпляльная Чыені», «шведскі салавей» (Людміла Немагай) была цудоўная. Яна спявала. Сапраўды. І сапраўды іграла на клавесіне. Проста на сцэне. Прабачце, у кватэры нумар 20 па вуліцы Нюхаўн, што ў Капенгагене.

Нібы Аліса ў Краіне цудаў, тады, у зале, я не паспявала здзівіцца таму, што адбывалася, усё здавалася натуральным, як сам цуд. Гэта зараз я не перастаю здзіўляцца, на якой тонкай грані лавіравалі акцёры, рэжысёр і аўтар п'есы (Валерый Жукжда), пачаўшы дзіцячы паказ так па-даросламу, так сур'ёзна і чэсна. Як у жыцці. Казка, яна не прыходзіць раптам, з націсканнем тэлевізійнай кнопкі. Сапраўдная казка. І ў той жа час яна заўсёды побач. Яна толькі чакае нашага дакранання.

Але я памыляюся ў тым, што пачатак быў адрасаваны дарослым. На самай справе, бадай, дзеці па прычыне сваёй чысціні і не змогуць ацаніць усю шматзначную недагаворанасць першых дыялогаў, але ўжо з першых імгненняў ім былі ўмела і з любоўю пададзены тыя каменьчыкі-масточкі, па якіх дзеці набліжаліся да казкі. Або казка — да іх. На стале стары фарфоравы кітаец ківаў галавою, жывы гук клавесіна і велізарная скрынка з алавяннымі салдацікамі...

Ды і людзі на сцэне заварожвалі. Нават немаўляткі адчулі б пяшчоту паміж двума з іх, і холад, які зыходзіць ад трэцяга. Сапраўдны тэатр, гэта, ведаеце, дзіўная рэч, у ім не існуе акцёраў, якія выяўляюць нешта. Акцёры раствараюцца, і на іх месцы перад вашымі вачыма з'яўляюцца Сарказм, Іронія, Зайздрасць, Высакамернасць або Адзінота, Нерашучасць, Геній. Адным словам — вобраз. Вобраз несімпатычнага, сарамлівага казачніка, які толькі ва ўласным творы, сярод ажыўленых ім рэчаў, ператвараецца ў прыгожага чараўніка, бліскуча сыгранага Аляксандрам Казанавым. І побач з ім — вобраз дасканала адшліфаванага, нібы халоднае лязо нажа, свецкага чалавека. Эрстэда, якім Валер Глазкоў прымусіў любавацца і ў той жа час яго адвяргаць, асцерагацца, але не баяцца, бо моц заўсёды на баку творцы. А прыгажосць можа хавацца, нібы жамчужына.

Тым часам неўзабаве пачалася казка. Зусім дзіцячая. Але не менш і дарослая. Увогуле, Андэрсен для дарослых — не казачнік. У дзяцінстве яго чароўныя гісторыі падабаюцца, запамінаюцца, здзіўляюць, бо прымушаюць плакаць, а сэнс іх адкрываем потым усё жыццё. Але ўся бяда ў тым, што казкі Андэрсена могуць і не крануць дзіцячай душы. Калі яны абыякава прачытаны задуранымі бацькамі. Або так і не прачытаны. А калі так, то застанецца пустэча, яма. Андэрсена не заменіш нічым. Але я ўпэўнена, што кожнае дзіця, нават самае маленькае, выходзіла з лялечнага ў дні прэм'еры перапоўненае чароўным, дзіўным адчуваннем. Адчуваннем прыгажосці. Яно было перададзена на дзіва проста. Ігрой святла і цені. Музыкай. Сярэдневяковым паказам у маленькім тэатрыку, шчырасцю няхітрых пачуццяў. І нават сумным фіналам, непадробным смуткам.

«Фарба з яго зусім аблезла, ён увесь паліняў;
хто ведае, чаму — ад шляху або ад гора?»

Па сутнасці, «Прыгоды алавяннага салдаціка, пастушкі і камінара» — гэта складаная пастаноўка, сінтэз некалькіх тэатральных традыцый і школ, арганічнага спалучэння зусім розных тэатраў, але гэта ўжо тэатразнаўчая кухня, у якой не бяруся разбірацца. Адухаўленне звычайных прадметаў, цацак, якія без спектакля так і засталіся б для нашых дзяцей мёртвымі.

У гульні прачынаецца душа дзіцяці. Сучасныя ўмовы жыцця адабралі ў дзяцей магчымасць гульні, мы падмяняем яе гатовым клішэ. А так хацелася б прывіць ім здольнасць чуць свет, бачыць яго і ствараць.

**Вольга МЯДЗВЕДЗЕВА**

## ФОТАСЛОВА

Яўген ПЯСЕЦКІ

### ЧАКАННЕ



*Колькі зім перажыў без цябе,*
*Колькі вёсен сустрэў дарэмна,*
*У чаканні цябе, таемнай,*
*Колькі святаў адбыў у жальбе.*

*Мне варожка дала замову —*
*Дзе знайсці яснай пані ганак,*
*Каб даўжэй стаўся дзень вясновы,*
*І ўначы не спяшаўся ранак.*

*І яшчэ ведзьмакова служка*
*Счаравала душу надзеяй —*
*Што раскажа табе мая птушка,*
*Як спатканнем трызніў праз завею.*

*Колькі зім пратрываў у жыцці,*
*Зноў прылётную вёсну страчаю,*
*Нарачоную птушку чакаю,*
*І шукаю — што ўвек не знайсці.*

# ПЛАДАЖЭРСТВА

...Пекная, даўганогая, з распусным прыжмурам вачэй дзяўчына павольна апускае джынсы, з яшчэ большай распушчанасцю хістае белымі сцёгнамі, ідзе на гледача. Але мы бачым хлопца, які падае... Ці то ад таго, што бачыць голыя белыя сцёгны і млявы позірк прыплюшчаных вачэй, ці то ад падушачак «жевательной резинки «Стиморол!» І ты не ведаеш, ад чаго «неповторимый вкус!»

Гэта — рэклама.

Можна апісаць мноства рэкламных ролікаў, дзе самае бязгрэшнае рэкламуецца сексуальна. А падыдзіце да кіёскаў. Чаго там толькі не ўбачыш! І на касетах, і на пакетах, і на вокладках кніг і часопісаў. А што лепшае можна сказаць пра фільмы? Перад калыханкай рэкламуюць «Тампаксы»... І дзеці пытаюць: «Што такое «тампакс»?»

Колькі ўжо гаворана пра засмечанасць тэлеперадач? Чаму гэта нікога не трывожыць? Ні педагогаў, ні медыкаў, ні кіраўніцтва, ні бацькоў? Нібыта педагогі, медыкі і кіраўніцтва — не бацькі.

Духоўнае разбэшчванне грамадства. Сённяшняга. А што застаецца будучаму грамадству? Вось пра іх, чатырох, пяцігадовых людзей, я і хачу сказаць.

Пачну з таго, што не стану апісваць тэорыю гульні, якую вывучаюць педагогі і псіхолагі. Іх, гульняў, многа ў дзіцячым садку, я спынюся толькі на гульнях творчых і сюжэтна-ролевых, бо ў любых іншых гульнях, у той ці іншай стадыі іх развіцця, патрабуецца ўдзел дарослага, а вось творчыя і сюжэтна-ролевыя — гэта гульні, якія не вытрымліваюць не толькі прысутнасці дарослага, а нават яго позірк разбурае гульню. Чаму? Таму што ў гэтых гульнях дзеці адлюстроўваюць навакольнае жыццё, бачанае імі ў рэальнасці. У дзяцей нагля дна-вобразнае мысленне. Што бачу — у тое і гуляю. Мала таго, дзецям хочацца пагуляць «у дарослых». Тут «правільна» гуляць не навучыш. Колькі б ні намагаўся і ні тлумачыў выхавацель, каб дзеці станавіліся ў чаргу ў гульні «Магазін» ці ветліва звярталіся адзін да аднаго ў гульні «Бальніца», «Сям'я», «Дзіцячы сад», — марная справа. Што яны бачаць і чуюць? А самі мы што чуем і гаворым?

Я не буду заглыбляцца ў педагагічныя тэорыі, бо гэта тэма для спецыялістаў. Я хачу звязаць рэкламу і гульні прыкладам.

Але як пра тое сказаць? Не пасуе як маці, як педагогу, як жанчыне. І менавіта гэта не дазваляе мне маўчаць.

... Чытаю дзецям верш С. Грахоўскага: «Што за дождж! І лье і лье! Выйсці з хаты не дае. Я да шыбы як прыкуты, ледзь не плачу ад пакуты...» і даю эксперыментальнае для сябе, а для дзяцей проста заданне — ляпіць дождж. Дзіва! Лепяць! Лепяць раму, хлопчыка, а паміж сабой гавораць так:

— Ты будзеш ляпіць яму х... (Слова.)

— Буду! І ж... таксама!

На мяне не звяртаюць аніякай увагі, але гавораць ціха. Я разважаю: як рэагаваць? Усе часткі цела маюць назву: нага, рука, галава... Гэта таксама частка цела, але ёй такая назва: (...) А, думаю, прамаўчу.

У той жа дзень у пясочніцы дзеці гуляюць, і такія мацюкі, што хіба каля піўнушкі пачуеш. А тут дзяўчо падбягае, скача на адной ножцы і радасна мне паведамляе (Чытайце таты! Чытайце педагогі! Чытайце міністры! Я ж слухала!):

— Мяне зараз Руслан трахнуў! А цяпер Ірку будзе...

— Што гэта за гульня такая? — пытаю.

— А, зловяць, трахнуць і — усё!

Я пашукала вачыма Ірку. Так і ёсць. Гульня страшная. Адно, што пазбаўляла ад жахлівага здзіўлення, — імітацыя жыццёвай сітуацыі. Гавару з Русланам:

— Што гэта за гульня ў вас такая?

Хлопчык шчыра расхінуў вейкі і глядзіць мне проста ў вочы.

— Андрэй паклікаў мяне дзевак ... (Слова).

Слова ўжо рускае, якое абазначае палавы акт. Халаднее ў грудзях ад уласнай бяззбройнасці: я не ведаю, што рабіць. Набіраюся духу і гавару з Андрэем. Гэты хавае твар у каўнер: сорамна. Значыць, нешта ведае.

— У двары ў нас... Жора... Заўсёды дзевак... (Слова).

— Ён вялікі?

— Ыгы. У школу ходзіць.

Пакутліва дадумваю: можа, сям'я? Адзін пакой? Выпівакі? Не! Хлопец талкова тлумачыць мне, як дарослы — дурному малому.

— А в цілівізаре дзядзькі заўсёды ловяць цётак і... (Слова)!

Я роспачна маўчу. Я не ведаю, што рабіць. У дзяцей наглядна-вобразнае мысленне! Што бачаць — у тое гуляюць. І што мая казка ў параўнанні з бачаным?

Вы скажаце:

— Дзе педагогі?

— Дзе бацькі?

— Дзе школа?

А я вам скажу: кароста і парша заразілі грамадства. І прапагандуюцца ўсімі сродкамі. І мне здаецца, што методыка разбэшчвання грамадства здорава прадумана. Ад усёзабараняльнасьці — да ўсёдазволенасці! Мала таго, нехта добра ведае, што хлопчык у чатыры гады ўспрымае аголенае цела мамы не як маміна, а як жаночае. Вось нехта гэта ведае, і таму спецыяльна публічна рэкламуе секс-эротыку, каб разбурыць уразлівую, неўмацаваную нервовую сістэму дзяцей. Менавіта з чатырохгадовага ўзросту дзеці пачынаюць раздзяляць сябе па палавой прыкмеце, і хлопчыкі першыя пачынаюць цікавіцца сваімі палавымі органамі. Бясконцае датыканне даводзіцца да стану аргазму, пачынаецца ці не пагалоўны ананізм. А гэта вядзе да палавой непаўнацэннасці, развіваюцца сексуальныя маньякі і г. д. У кніжках грамацеі пішуць: нічога страшнага. Для дарослага, можа, і так, а для дзіцяці — трагедыя і калецтва! Гэта падобна на пладажэрства. Не ядуць жа яблыневы цвет, а чакаюць спелых і сакавітых яблыкаў!

А з'ява пладажэрства пашыраецца.

Не падабаецца, ды і няпраўда, калі гавораць: «Ой, калісь такога не было». Было! Чаму ж не. Любілі. І разыходзіліся. І байструкі былі. Але каб гэта ўсе бачылі!!!

І што рабіць?

**Валянціна КУКСА, педагог.**

*г. Брэст.*

# МІНСКІ ЗАВОД «КРЫОН»

## КРЫХУ ГІСТОРЫІ

Мінскі завод «Крыон» уваходзіць у састаў канцэрна «Белхімнафтапром». Будаўніцтва завода пачалося ў 1953 годзе, а яго першая чарга была ўведзена ўжо ў 1956 годзе. З таго часу рэканструкцыя старых і ўвод новых магутнасцей, удасканальванне тэхналагічнага працэсу дазвалялі пастаянна нарошчваць аб'ёмы і пашыраць асартымент выпускаемай прадукцыі.



Работнікі дапаможнага цэха — машыніст кампрэсарнай устаноўкі Зоя РАДКЕВІЧ і слесары па рамонту кампрэсарнага абсталявання — Аляксандр МАЦЕШ (пасярэдзіне) і Міхаіл КУКСІН — абмяркоўваюць надзённыя пытанні.

## ВЫТВОРЧАСЦЬ

Асноўным для завода «Крыон» з'яўляецца раздзяленне паветра на кісларод, азот і аргон. Гэты працэс заснаваны на крыягеннай тэхналогіі і базіруецца на тым, што звадкаванае паветра раздзяляецца на састаўныя кампаненты (кісларод, азот, аргон) у спецыяльных рэктыфікацыйных калонах.

Тэхналагічная схема вытворчасці аб'ядноўвае работу ўсяго ўстаноўленага абсталявання. Крыягенныя прадукты — вадкія кісларод і азот — зліваюцца з блокаў раздзялення па трубаправодах з экранна-вакуумнай ізаляцыяй і акумуліруюцца ў сховішчах ёмістасцю па 400 м³.

Вадкія прадукты адпускаюцца спажыўцам на газаразліўных калонках адначасова з чатырох чыгуначных і чатырох аўтамабільных транспартных сродкаў па кожнаму прадукту.

Газападобны азот павышанай чысціні, які атрымліваюць на ўсіх паветрараздзяляльных устаноўках, паступае ў агульны калектар на сціскане ў кампрэсары.

Безгазгольдэрная схема сціскання азоту забяспечваецца сістэмай рэгулявання і падтрымання ціску.

Патрэбнасць у сціснутым азоце нізкага ціску забяспечваецца кампрэсарамі ЦК-135/8. Азот расходуецца на рэгенерацыю блокаў асушкі і ачысткі паветра і падаецца спажыўцам па трубаправодах. Пасля сціскання кампрэсарам высокага ціску азот накіроўваецца ў цэх напаўнення балонаў.

Газападобны кісларод, які атрымліваецца на блоках раздзялення, паступае на кіслародныя кампрэсары для падачы спажыўцам па трубаправодах і для напаўнення балонаў.

Аргон, які атрымліваецца на блоках раздзялення паветра пасля ачысткі ад азоту і кіслароду, падаецца ў вадкім стане па трубаправодах у сховішчы і ў газападобным стане — для напаўнення балонаў.

Асноўнае тэхналагічнае абсталяванне, якое складаецца з паветрараздзяляльных установак эфектыўнага цыкла высокага ціску з папярэднім хладонавым ахаладжэннем і ўключэннем турбадэтандэраў на розных тэмпературных узроўнях, адпавядае найноўшым дасягненням айчыннай і замежнай навукі і тэхнікі і забяспечвае параўнальныя энергетычныя і вытворчыя затраты для атрымання прадуктаў раздзялення паветра. Яно дазваляе канкурыраваць з іншымі фірмамі пры збыце выпускаемай прадукцыі за межамі Рэспублікі Беларусь.

## ЭКАЛОГІЯ

Асаблівая ўвага за апошнія гады на заводзе ўдзялялася праблеме экалагічнай бяспекі. З гэтай нагоды былі ўведзены ў эксплуатацыю ачышчальныя збудаванні для ачысткі сцёкаў, вопытна-прамысловая ўстаноўка па зніжэнню ўтрымання масленых аэразолей у адыходзячых газах турбадэтандэраў, створана тэхналагічная лінія па перапрацоўцы адходаў кіслароднай вытворчасці, якія ўтрымліваюць шчолачы.

Такім чынам, сённяшняя вытворчасць прадуктаў раздзялення паветра з'яўляецца экалагічна чыстай, не аказвае негатыўнага ўплыву на паветраны басейн, глебу, жывёльны і раслінны свет.

## СПАЖЫЎЦЫ

Прадукцыя мінскага завода «Крыон» спажываецца шматлікімі прадпрыемствамі і ў розных галінах прамысловасці і прымяняецца для павышэння эфектыўнасці і інтэнсіўнасці вытворчасці, бяспекі працы і якасці выпускаемай прадукцыі.

Сёння завод поўнасцю задавальняе патрэбы народнай гаспадаркі РБ у прадуктах раздзялення паветра, а таксама экспартуе іх у розныя рэгіёны СНД, Прыбалтыку, Германію, Швецыю, Польшчу.

Завод выпрабляе і пастаўляе ўсю гаму прадуктаў раздзялення паветра: кісларод вадкі і газападобны — тэхнічны і медыцынскі; азот вадкі і газападобны — тэхнічны, павышанай чысціні; аргон вадкі і газападобны — высокай чысціні. Іх якасць адпавядае ўзроўню сусветных стандартаў і мае наступныя паказчыкі:

**КІСЛАРОД**

утрыманне кіслароду — 99,5—99,7%

утрыманне двухвокісу вугляроду — 2.0—3.0 см³/дм³

**АЗОТ**

утрыманне азоту — 99,99%

утрыманне кіслароду — 0,001—0,4%

**АРГОН**

утрыманне кіслароду — 0,0003—0,0007%;

утрыманне азоту — 0,002—0,005%;

утрыманне вільгаці — 0,0003—0,0009%;

утрыманне вадароду — 0,0002%

утрыманне метану — 0,0001%

утрыманне двухвокісу вугляроду — 0,0002%.

У саставе атмасфернага паветра гэтых прадуктаў утрымліваецца больш як 99,9 працэнта. Яны выкарыстоўваюцца ў атамнай энергетыцы, ракетнай тэхніцы, для ахаладжэння лазераў, пры розных даследаваннях у тэрмастатычных умовах, для аўтагенна-зварачных работ, стварэння ахоўнага інертнага асяроддзя і г. д.

## РАЗМЕРКАВАННЕ (рэалізацыя)

Дастаўка звадкаваных прадуктаў раздзялення паветра спажыўцам ажыццяўляецца ў чыгуначных цыстэрнах, аўтатанках, а газападобных — у стальных балонах ёмістасцю 40 літраў, буйным жа прадпрыемствам, такім, як ВА «Інтэграл», Мінскі аўтамабільны завод, ВА «Мінскі трактарны завод» і інш., — па трубаправодах. Балоны могуць змяшчацца ў металічныя кантэйнеры. Іх пагрузка і разгрузка механізаваны.

Уся сістэма размеркавання выробленай прадукцыі адпавядае ўсім патрабаванням тэхнікі бяспекі і экалагічнай бяспекі.

Удасканаленне тэхналагічнага працэсу дазволіла значна знізіць вытворчасць прадуктаў раздзялення паветра ў балонах і павялічыць аб'ёмы іх перадачы па трубаправодах і дастаўкі ў вадкай фазе з газіфікацыяй на месцы спажывання.

Узровень забеспячэння сродкамі кантролю і аўтаматыкі асноўнага абсталявання дазваляе ажыццяўляць кіраванне тэхналагічным працэсам дыстанцыйна са шчытавых памяшканняў.



Так зверху выглядаюць пад'язныя чыгуначныя пуці завода.

## ВІНШАВАННІ

*Па выніках 1995 года Мінскі завод «Крыон» стаў пераможцам у сваёй групе конкурсу «Лепшы экспарцёр года».*

*Узнагарода — хрустальны кубак і памятнае «Жазло Меркурыя».*

*Віншуем!!!*

За цэнтральным пультам кіравання завода ў час размовы начальнік змены цэха Аляксандр Кукалевіч (справа) і апаратчык блока раздзялення Вячаслаў ГАРАЧКО.

Цэх напаўнення кіслародам. За работай Віктар КУЗЯНКОЎ.



Так выглядае цэх раздзялення паветра.



Матэрыялы рэкламна-інфармацыйнай старонкі падрыхтаваў Уладзімір ЗДАНОВІЧ.

Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

ЗАВОД КРЫОН

220600, г. Мінск, вул. Сярова, 8. Тэл. (8-0172) 77-10-13. Тэлекс (8-0172) 25-24-79.

## 50 вядучых палітыкаў Беларусі, Расіі і Украіны ў сакавіку

# ПРЭЗІДЭНТЫ ЛІДЗІРУЮЦЬ,

### 50 ВЯДУЧЫХ ПАЛІТЫКАЎ БЕЛАРУСІ Ў САКАВІКУ

| №№, прозвішча, імя, імя па бацьку | Сярэдні бал | | Пасада |
|---|---|---|---|
| | сакавік | люты | |
| 1. Лукашэнка Аляксандр Рыгоравіч | 7,77 | 7,71 | Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь |
| 2. Ціхіня Валерый Гур'евіч | 5,40 | 6,98 | Старшыня Канстытуцыйнага суда |
| 3. Шарэцкі Сямён Георгіевіч | 5,22 | 5,73 | Старшыня Вярхоўнага Савета |
| 4. Багданкевіч Станіслаў Антонавіч | 5,08 | 5,98 | Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Лідэр фракцыі «Грамадзянскае дзеянне» ў Вярхоўным Савеце |
| 5. Ціцянкоў Іван Іванавіч | 4,92 | 5,88 | Кіраўнік спраў Прэзідэнта |
| 6. Ганчар Віктар Іосіфавіч | 4,83 | 5,48 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, кіраўнік Эканамічнага суда СНД. |
| 7. Карпенка Генадзь Дзмітрыевіч | 4,73 | 4,66 | Намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета |
| 8. Калякін Сяргей Іванавіч | 4,68 | 4,39 | Член Прэзідыума Вярхоўнага Савета, лідэр фракцыі камуністаў |
| 9. Мясніковіч Міхаіл Уладзіміравіч | 4,58 | 5,39 | Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта |
| 10. Чыгір Міхаіл Мікалаевіч | 4,55 | 4,64 | Прэм'ер-міністр |
| 11-12. Замяталін Уладзімір Пятровіч | 4,32 | 4,55 | Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта |
| 11-12. Шэйман Віктар Уладзіміравіч | 4,32 | 4,38 | Дзяржсакратар Савета бяспекі |
| 13. Віннікава Тамара Дзмітрыеўна | 3,57 | 5,23 | в. а. старшыні Нацыянальнага банка |
| 14. Сянько Уладзімір Лявонавіч | 3,52 | 3,55 | Міністр замежны спраў |
| 15. Каратчэня Іван Міхайлавіч | 3,48 | 2,84 | Выканаўчы сакратар СНД, дэпутат Вярхоўнага Савета |
| 16. Новікаў Васіль Мікалаевіч | 3,38 | 3,93 | Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета |
| 17. Дабравольскі Аляксандр Альгердавіч | 3,35 | 3,59 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі |
| 18-19. Кісель Рыгор Леанідавіч | 3,23 | 3,50 | Старшыня Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі |
| 18-19. Катляроў Ігар Васільевіч | 3,23 | 3,32 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, старшыня Камісіі па правах чалавека, нацыянальных пытаннях і сродках масавай інфармацыі |
| 20. Марыніч Міхаіл Афанасьевіч | 3,17 | 3,66 | Міністр знешніх эканамічных сувязей |
| 21. Ярмошын Уладзімір Васільевіч | 3,13 | 2,98 | Мэр Мінска |
| 22. Бухвостаў Аляксандр Іванавіч | 3,12 | — | Дэпутат Вярхоўнага Савета, старшыня прафсаюза работнікаў аўтамабільнага сельскагаспадарчага машынабудавання |
| 23. Шушкевіч Станіслаў Станіслававіч | 3,03 | 2,93 | Дэпутат Вярхоўнага Савета |
| 24-25. Грыб Мечаслаў Іванавіч | 2,87 | 2,80 | Дэпутат Вярхоўнага Савета |
| 24-25. Малумаў Юрый Георгіевіч | 2,87 | 3,96 | Намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета |
| 26. Ганчарык Уладзімір Іванавіч | 2,80 | 3,66 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, старшыня Федэрацыі прафсаюзаў |
| 27-29. Агалец Валянцін Сцяпанавіч | 2,75 | 2,71 | Міністр унутраных спраў |
| 27-29. Посахаў Сяргей Аляксеевіч | 2,75 | 3,14 | Памочнік Прэзідэнта |
| 27-29. Сініцын Леанід Георгіевіч | 2,75 | 2,27 | Віцэ-прэм'ер |
| 30. Краўчанка Пётр Кузьміч | 2,73 | 4,13 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, старшыня Камісіі па міжнародных справах |
| 31. Абрамовіч Аляксандр Міхайлавіч | 2,72 | 4,23 | Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта |
| 32. Башарымаў Уладзімір Сямёнавіч | 2,68 | 1,96 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, старшыня Камісіі па бюджэту |
| 33. Шлындзікаў Васіль Міхайлавіч | 2,65 | 3,30 | Дэпутат Вярхоўнага Савета, старшыня Камісіі па эканамічнай палітыцы і рэформах |
| 34-35. Саковіч Васіль Андрэевіч | 2,63 | 2,25 | Старшыня Кантрольнай палаты |
| 34-35. Філарэт | 2,63 | 2,88 | Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі |
| 36-37. Капітан Васіль Сцяпанавіч | 2,58 | 2,80 | в. а. Генеральнага пракурора |
| 36-37. Латыпаў Урал Рамдракавіч | 2,58 | 2,38 | Кіраўнік сакратарыята — памочнік Прэзідэнта |
| 38. Пазняк Зянон Станіслававіч | 2,57 | 2,05 | Лідэр Беларускага народнага фронту |
| 39. Нісцюк Уладзімір Пятровіч | 2,50 | — | Дэпутат Вярхоўнага Савета |
| 40. Лябедзька Анатоль Уладзіміравіч | 2,42 | 2,98 | Дэпутат Вярхоўнага Савета |
| 41. Антановіч Іван Іванавіч | 2,35 | 2,80 | Намеснік міністра замежных спраў |
| 42-43. Лінг Сяргей Сцяпанавіч | 2,33 | 2,52 | Віцэ-прэм'ер |
| 42-43. Мальцаў Леанід Сямёнавіч | 2,33 | 2,70 | Міністр абароны |
| 44. Далгалёў Васіль Барысавіч | 2,32 | 1,77 | Віцэ-прэм'ер |
| 45. Цапкала Валерый Вільямавіч | 2,30 | 2,36 | Першы намеснік міністра замежных спраў |
| 46. Гіруць Мечыслаў Іванавіч | 2,27 | 2,46 | Член Прэзідыума Вярхоўнага Савета, лідэр фракцыі аграрыяў |
| 47. Дзік Павел Уладзіміравіч | 2,17 | 2,16 | Міністр фінансаў |
| 48. Русакевіч Уладзімір Васільевіч | 2,15 | 2,27 | Віцэ-прэм'ер |
| 49. Слука Алег Георгіевіч | 2,10 | 2,96 | Памочнік Прэзідэнта |
| 50. Патупа Аляксандр Сяргеевіч | 2,08 | — | Віцэ-прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў |

*«Независимая газета», служба «Vox populi», ТАА «Скарына», 1996 г.*

### 50 ВЯДУЧЫХ ПАЛІТЫКАЎ РАСІІ Ў САКАВІКУ

| №№, прозвішча, імя, імя па бацьку | Сярэдні бал | | Пасада |
|---|---|---|---|
| | сакавік | люты | |
| 1. Ельцын Барыс Мікалаевіч | 8,11 | 8,37 | Прэзідэнт Расіі |
| 2. Зюганаў Генадзь Андрэевіч | 7,37 | 7,56 | Старшыня КПРФ, лідэр фракцыі камуністаў у Дзяржаўнай думе |
| 3. Чарнамырдзін Віктар Сцяпанавіч | 7,00 | 6,96 | Прэм'ер-міністр |
| 4. Лужкоў Юрый Міхайлавіч | 6,81 | 7,06 | Мэр Масквы, член Савета Федэрацыі |
| 5. Дудаеў Джахар Мусаевіч | 6,48 | 6,56 | Прэзідэнт Чачэнскай Рэспублікі |
| 6. Каржакоў Аляксандр Васільевіч | 6,32 | 6,72 | Начальнік Службы бяспекі прэзідэнта |
| 7. Селязнёў Генадзь Мікалаевіч | 5,70 | 5,25 | Старшыня Дзяржаўнай думы |
| 8. Прымакоў Яўген Максімавіч | 5,63 | 5,85 | Міністр замежных спраў |
| 9. Яўлінскі Рыгор Аляксеевіч | 5,61 | 6,19 | Лідэр фракцыі «Яблык» у Дзяржаўнай думе |
| 10. Грачоў Павел Сяргеевіч | 5,56 | 5,46 | Міністр абароны |
| 11. Жырыноўскі Уладзімір Вольфавіч | 5,52 | 5,83 | Старшыня ЛДПР, лідэр фракцыі ЛДПР у Дзяржаўнай думе |
| 12. Ілюшын Віктар Васільевіч | 5,44 | 5,62 | Першы памочнік прэзідэнта |
| 13. Саскавец Алег Мікалаевіч | 5,27 | 5,56 | Першы віцэ-прэм'ер |
| 14. Строеў Ягор Сямёнавіч | 5,09 | 5,25 | Старшыня Савета Федэрацыі, губернатар Арлоўскай вобласці |
| 15. Кулікоў Анатоль Сяргеевіч | 5,04 | 5,38 | Міністр унутраных спраў |
| 16, Ліўшыц Аляксандр Якаўлевіч | 5,02 | 4,83 | Памочнік прэзідэнта |
| 17. Ягораў Мікалай Дзмітрыевіч | 4,89 | 5,67 | Кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта |
| 18. Каданнікаў Уладзімір Васільевіч | 4,87 | 4,81 | Першы віцэ-прэм'ер |
| 19. Барсукоў Міхаіл Іванавіч | 4,78 | 5,94 | Дырэктар Федэральнай службы |
| 20. Дубінін Сяргей Канстанцінавіч | 4,66 | 4,60 | Старшыня Цэнтральнага банка |
| 21. Шаймієў Мінцімер Шарыпавіч | 4,66 | 3,96 | Прэзідэнт Рэспублікі Татарстан, член Савета Федэрацыі |
| 22. Сатараў Георгій Аляксандравіч | 4,63 | 4,21 | Памочнік прэзідэнта |
| 23. Нямцоў Барыс Яфімавіч | 4,46 | 5.26 | Губернатар Ніжагародскай вобласці, член Савета Федэрацыі |
| 24. Скуратаў Юрый Ільыч | 4,45 | 4,56 | Генеральны пракурор |
| 25. Лебедзь Аляксандр Іванавіч | 4,36 | 4,44 | Дэпутат Дзяржаўнай думы |
| 26. Батурын Юрый Міхайлавіч | 4,28 | 4,52 | Памочнік прэзідэнта |
| 27. Панскоў Уладзімір Георгіевіч | 4,17 | 3,77 | Міністр фінансаў |
| 28. Заўгаеў Доку Гапуравіч | 4,11 | 4,02 | Кіраўнік Чачэнскай Рэспублікі, член Савета Федэрацыі |
| 29. Фёдараў Святаслаў Мікалаевіч | 4,11 | 3,54 | Дэпутат Дзяржаўнай думы, лідэр Партыі самакіравання працоўных |
| 30. Алексій II | 4,07 | 4,13 | Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі |
| 31. Нікалаеў Андрэй Іванавіч | 4,06 | 4,30 | Дырэктар Федэральнай пагранічнай службы |
| 32. Бяляеў Сяргей Георгіевіч | 4,00 | 4,02 | Лідэр фракцыі «Наш дом — Расія» ў Дзяржаўнай думе |
| 33. Анпілаў Віктар Іванавіч | 3,94 | 3,87 | Лідэр руху «Працоўная Расія» |
| 34. Ясін Яўген Рыгоравіч | 3,93 | 4,20 | Міністр эканомікі |
| 35. Рабаў Мікалай Цімафеевіч | 3,92 | 4,08 | Старшыня Цэнтрвыбаркома |
| 36. Аушаў Руслан Султанавіч | 3,91 | 3,43 | Прэзідэнт Інгушскай Рэспублікі, член Савета Федэрацыі |
| 37. Лук'янаў Анатоль Іванавіч | 3,91 | 3,65 | Дэпутат Дзяржаўнай думы, старшыня камітэта па заканадаўству |
| 38. Тулееў Амангельды Малдагазыевіч | 3,85 | 4,26 | Старшыня Заканадаўчага сходу Кемераўскай вобласці, член Савета Федэрацыі |
| 39. Бабурын Сяргей Мікалаевіч | 3,83 | 3,51 | Намеснік старшыні Дзяржаўнай думы |
| 40. Россель Эдуард Эдгардавіч | 3,81 | 4,30 | Губернатар Свярдлоўскай вобласці, член Савета Федэрацыі |
| 41. Гайдар Ягор Цімуравіч | 3,72 | 4,41 | Лідэр руху «Выбар Расіі» |
| 42. Шойгу Сяргей Кужугетавіч | 3,68 | 3,40 | Міністр па грамадзянскай абароне і надзвычайных сітуацыях |
| 43. Кісялёў Яўген Аляксеевіч | 3,64 | 3,65 | Вядучы тэлепраграмы «Вынікі» |
| 44. Туманаў Уладзімір Аляксандравіч | 3,62 | 3,61 | Старшыня Канстытуцыйнага суда |
| 45. Сабчак Анатоль Аляксандравіч | 3,61 | 3,33 | Мэр Санкт-Пецярбурга, член Савета Федэрацыі |
| 46. Шохін Аляксандр Мікалаевіч | 3,57 | 3,65 | Першы намеснік Старшыні Дзяржаўнай думы |
| 47. Лукін Уладзімір Пятровіч | 3,54 | 4,15 | Дэпутат Дзяржаўнай думы, старшыня Камітэта па міжнародных справах |
| 48. Ілюхін Віктар Іванавіч | 3,43 | 3,61 | Дэпутат Дзяржаўнай думы, старшыня Камітэта па бяспецы |
| 49. Глазаў Ахсарбек Харджымурзаевіч | 3,42 | 3,27 | Прэзідэнт Паўночнай Асеціі, член Савета Федэрацыі |
| 50. Паін Эміль Абрамавіч | 3,40 | 3,12 | Член прэзідэнцкага савета |

*«Независимая газета», служба «Vox populi», 1996 г.*

***ПОГЛЯД***

# ЦЯЖКІЯ ПОШУКІ ЎЛАСНАГА МЕСЦА Ў СВЕЦЕ

На мінулым тыдні загінуў Джахар Дудаеў — мяцежны прэзідэнт Чачні, які стаў для соцень тысяч чачэнцаў сімвалам незалежнасці сваёй краіны, а для соцень тысяч расійскіх маці — увасабленнем небяспекі, гора і смерці іх сыноў.

Чачэнская вайна асаблівая для Беларусі тым, што яна самая блізкая да нашых рубяжоў. Да таго ж не аддзеленая ад Беларусі дзяржаўнай мяжой.

Яе адметнасць яшчэ і ў тым, што гэта першая за апошнія дзвесце гадоў вайна з удзелам Расіі, у якой не гінуць салдаты-беларусы. Штодня на працягу 1994—1996 гадоў назіраючы на экранах тэлевізараў вынікі расійска-чачэнскай бойні, многія беларусы, відаць, упершыню ўсвядомілі каштоўнасць незалежнасці ўласнай невялікай міралюбівай краіны.

Расійскія палітолагі ў адзін голас сцвярджаюць, што смерць Дудаева зусім не азначае таго, што мір хутчэй прыйдзе на гэту зямлю. Робяцца разнастайныя прагнозы наконт таго, у каго большыя шанцы заняць месца загінуўшага прэзідэнта, на каго павінен рабіць стаўку Крэмль, які разлічвае ўзнавіць перагаворны працэс па мірнаму ўрэгуляванню праблемы.

Аднак ілюзій наконт таго, што ў бліжэйшыя месяцы ў Чачні заціхнуць выбухі і чачэнцы складуць зброю — напэўна, няма ні ў кога. Куды больш верагодна тое, што чачэнская рана будзе крывавіць яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў.

Прынамсі, вопыт многіх народаў, якія змагаюцца за незалежнасць у XX стагоддзі, сведчыць менавіта пра гэта.

Варта згадаць хаця б драматычную сітуацыю з курдамі — народам, які жыве па другі бок Каўказскага хрыбта і які, у выніку гістарычных абставінаў, не займеў нават аўтаноміі, разарваны трыма краінамі — Іракам, Іранам і Турцыяй.

Праблему паўстаўшых курдаў, якія заявілі свае правы на незалежнасць, таксама паспрабавалі вырашыць сілай. У выніку — вайна тлее ўжо некалькі дзесяткаў гадоў. Курды распаўсюдзілі тэрор на ўсю тэрыторыю Турцыі, вынеслі яго ў еўрапейскія краіны.

Мне давялося пабываць у Турцыі восенню мінулага года. Тыповы сюжэт у зводках мясцовых тэленавін: уручэнне ўзнагарод турэцкім салдатам, якія загінулі ў час чарговай акцыі па знішчэнню курдскіх баз, пахаванне загінуўшых, слёзы асірацелых дзяцей... Усё вельмі падобна на сённяшнія кадры Расійскага тэлебачання.

Падобная сітуацыя — з ірландцамі ў Ольстэры, з баскамі ў Іспаніі, не кажучы ўжо аб поўнамаштабнай вайне ў былой Югаславіі.

Мінулы тыдзень быў адзначаны і тым, што не дужа актыўная заходняя палітыка беларускай дзяржавы ўзбагацілася рэзкай заявай Міністэрства замежных спраў з нагоды наведвання лідэрам БНФ Зянонам Пазняком многіх цэнтральна- і ўсходнееўрапейскіх дзяржаў і яго публічных выказванняў там.

У сувязі з гэтым звяртаюць на сябе ўвагу некалькі абставінаў.

Па-першае, сам факт з'яўлення такой заявы хутчэй на карысць, чым на шкоду апазіцыі, паколькі на гэта турнэ звернута ўвага на высокім афіцыйным узроўні і тым самым ускосна прызнана яго значная палітычная вага.

Па-другое, папярэджанні ў адрас «афіцыйных колаў іншых дзяржаў», якія адважваюцца на досыць высокім узроўні прымаць Зянона Пазняка, і тым самым, на думку МЗС, іх дзеянні «могуць нанесці ўрон дружалюбным двухбаковым адносінам і будуць расцэньвацца беларускім бокам як не адпаведныя агульнапрынятым прынцыпам і нормам міжнароднага права, узаемнай павагі і неўмяшання ва ўнутраныя справы адна адной». Гэтыя папярэджанні, сапраўды, здольны не самым лепшым чынам паўплываць на двухбаковыя адносіны Беларусі з гэтымі краінамі. Але хто больш пацерпіць у такім выпадку? Украіна, Чэхія, Венгрыя, Польшча, якія асмеліліся прымаць Пазняка на высокім узроўні? Амаль усе краіны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы выступаюць на міжнароднай арэне з агульных ці блізкіх пазіцый, усе аднолькава імкнуцца інтэгравацца ў еўрапейскія структуры, праводзяць скаардынаваную знешнюю палітыку. Беларусь жа вельмі марудна і пакуль што без прыметных поспехаў намацвае свой шлях у Еўропу, выбраўшы іншы вектар развіцця. У выніку па многіх зразумелых прычынах да яе ставяцца з недаверам. Ці ёсць вялікі сэнс у такой сітуацыі выступаць з ультыматумамі, калі не ставіць за мэту яшчэ больш павялічыць пагрозу ізаляцыі з Захаду?

Лідэра беларускай апазіцыі прымаюць у Еўропе на высокім узроўні не таму, што жадаюць дэстабілізацыі сітуацыі ў Беларусі. Проста палітычная платформа Народнага фронту, яго ідэя пабудовы незалежнай, дэмакратычнай, арыентаванай на Заходнюю Еўропу беларускай дзяржавы, у многім сугучныя з поглядамі тых палітычных колаў, якія валодаюць рэальнай уладай амаль ва ўсіх еўрапейскіх краінах. Паводле апошніх звестак, Зянон Пазняк атрымаў аналагічныя запрашэнні наведаць Вялікабрытанію і ЗША. Падобным жа чынам ён, бадай, можа аб'ездзіць усю Заходнюю Еўропу і будзе там прыняты асобамі даволі высокага рангу.

Ні Зянона Пазняка, ні «палітычныя колы» Заходняй, Цэнтральнай і Усходняй Еўропы не пераробіш і не запалохаеш пагрозай пагаршэння адносінаў з імі.

Мы маем патрэбу ў супрацоўніцтве з Захадам, бадай, намнога большую, чым ён у нашай прыхільнасці. Дзеля падтрымкі, інвестыцый заходняга капіталу, напэўна, давядзецца змірыцца з некаторымі не надта зразумелымі для нашага кіраўніцтва выдаткамі заходняй дэмакратыі.

Пры гэтым нашы лідэры цалкам могуць задаволіцца той акалічнасцю, што ў цэлым магістральны курс на збліжэнне з Расіяй падтрымлівае большасць беларускага насельніцтва, а ў Зянона Пазняка ў блізкай перспектыве няма ніякіх шанцаў на рэальную ўладу ў дзяржаве.

**Валянцін ЖДАНКО.**

# АЛЕ НА ГЭТЫМ ПАДАБЕНСТВА РЭЙТЫНГАЎ ЗАКАНЧВАЕЦЦА

## 50 ВЯДУЧЫХ ПАЛІТЫКАЎ УКРАІНЫ Ў САКАВІКУ

| №№, прозвішча, імя, імя па бацьку | Сярэдні бал | | Пасада |
|---|---|---|---|
| | сакавік | люты | |
| 1. Кучма Леанід | 7,35 | | Прэзідэнт Украіны |
| 2. Марчук Яўген | 6.76 | | Прэм'ер-міністр, народны дэпутат |
| 3. Мароз Аляксандр | 6,46 | | Старшыня Вярхоўнай Рады |
| 4-5. Гарбулін Уладзімір | 5,62 | | Сакратар Савета нацыянальнай бяспекі пры прэзідэнце |
| 4-5. Сіманенка Пётр | 5,62 | | Першы сакратар Камуністычнай партыі, народны дэпутат |
| 6. Табачнік Дзмітрый | 5,48 | | Кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта |
| 7. Лазарэнка Павел | 4,84 | | Першы віцэ-прэм'ер |
| 8. Юшчанка Віктар | 4,80 | | Старшыня праўлення Нацыянальнага банка |
| 9. Удавенка Генадзь | 4,42 | | Міністр замежных спраў |
| 10. Шмараў Валерый | 4,27 | | Міністр абароны |
| 11. Чарнавіл Вячаслаў | 4,21 | | Народны дэпутат, лідэр Народнага Руху |
| 12. Галаваты Сяргей | 4,16 | | Міністр юстыцыі, народны дэпутат, член фракцыі «Рэформы» |
| 13. Кулік Зіновій | 4,02 | | Старшыня Дзяржкамітэта па тэле- і радыёвяшчанню |
| 14. Емец Аляксандр | 3,96 | | Віцэ-прэм'ер, народны дэпутат |
| 15. Пуставойценка Валерый | 3,81 | | Міністр Кабінэта Міністраў |
| 16. Шчэрбань Уладзімір | 3,80 | | Кіраўнік адміністрацыі Данецкай вобласці, старшыня Ліберальнай партыі, народны дэпутат |
| 17-18. Шпек Раман | 3,54 | | Віцэ-прэм'ер |
| 17-18. Буткевіч Уладзімір | 3,54 | | Член Прэзідыума Вярхоўнай Рады, член дэпутацкай групы «Цэнтр» |
| 19. Касакіўскі Леанід | 3,49 | | Кіраўнік адміністрацыі г. Кіева |
| 20. Гурвіц Эдуард | 3,43 | | Мэр Адэсы, народны дэпутат |
| 21. Вітрэнка Наталля | 3,41 | | Народны дэпутат |
| 22. Пінзенік Віктар | 3,36 | | Віцэ-прэм'ер, народны дэпутат, член фракцыі «Рэформы» |
| 23-24. Еханураў Юрый | 3,32 | | Старшыня Фонду Дзяржмаёмасці |
| 23-24. Варсіноў Рыгор | 3,32 | | Генеральны пракурор |
| 25-26. Радчанка Уладзімір | 3,30 | | Старшыня Службы бяспекі Украіны |
| 25—26. Асыка Сяргей | 3,30 | | Міністр знешніх эканамічных сувязей і гандлю |
| 27-28. Ткачэнка Аляксандр | 3,29 | | Намеснік старшыні Вярхоўнай Рады |
| 27-28. Собалеў Сяргей | 3,29 | | Народны дэпутат, лідэр фракцыі «Рэформы» |
| 29. Краўчук Леанід | 3,24 | | Народны дэпутат |
| 30. Уладзімір | 3,21 | | Мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Украіны (УПЦ Маскоўскага патрыярхата) |
| 31. Кастэнка Юрый | 3,20 | | Міністр навакольнага прыроднага асяроддзя і ядзернай бяспекі, народны дэпутат, член фракцыі Народнага Руху |
| 32. Кінах Анатоль | 3,19 | | Віцэ-прэм'ер |
| 33. Марчанка Уладзімір | 3,14 | | Народны дэпутат |
| 34. Філарэт | 2,93 | | Мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Украіны (УПЦ Кіеўскага патрыярхата) |
| 35. Азараў Мікалай | 2,89 | | Член Прэзідыума Вярхоўнай Рады, старшыня Камісіі па бюджэту |
| 36. Матвіенка Анатоль | 2,88 | | Кіраўнік палітсавета Народна-дэмакратычнай партыі |
| 37. Германчук Пётр | 2,87 | | Міністр фінансаў, народны дэпутат |
| 38. Краўчанка Юрый | 2,86 | | Міністр унутраных спраў |
| 39. Бадэлан Руслан | 2,85 | | Кіраўнік адміністрацыі Адэскай вобласці, народны дэпутат |
| 40. Дурдынец Васіль | 2,84 | | Віцэ-прэм'ер, народны дэпутат |
| 41-42. Лаўрыновіч Аляксандр | 2,79 | | Намеснік старшыні Народнага Руху, народны дэпутат |
| 41-42. Гецьман Вадзім | 2,79 | | Старшыня біржавога камітэта Украінскай міжбанкаўскай валютнай біржы, народны дэпутат, лідэр фракцыі «Незалежныя» |
| 43. Заец Іван | 2,76 | | Адзін з лідэраў Народнага Руху, народны дэпутат |
| 44. Стратовіч Уладзімір | 2,71 | | Член Прэзідыума Вярхоўнай Рады |
| 45-46. Грынёў Уладзімір | 2,63 | | Саветнік прэзідэнта па рэгіянальнай палітыцы, лідэр партыі «Міжрэгіянальны блок рэформаў» |
| 45-46. Чыж Іван | 2,63 | | Народны дэпутат, лідэр фракцыі Сацпартыі |
| 47. Стаян Аляксандр | 2,62 | | Старшыня Федэрацыі прафсаюзаў, народны дэпутат |
| 48. Алійнык Барыс | 2,57 | | Член Прэзідыума Вярхоўнай Рады, адзін з лідэраў фракцыі Кампартыі |
| 49. Еўтухоў Васіль | 2,55 | | Віцэ-прэм'ер, народны дэпутат, член фракцыі «Незалежныя» |
| 50. Цярохін Сяргей | 2,51 | | Народны дэпутат, член фракцыі «Рэформы» |

*«Независимая газета», служба «Vox populi», КЦПиК, 1996 г.*

*Аляксандр КІНСБУРГСКІ, служба «Vox populi».*
*Міхаіл ПЕТРАЧОЎ, «Независимая газета».*

**Служба вывучэння грамадскай думкі «Vox populi» і «Независимая газета» (Масква) разам з фірмай «Скарына» (Мінск) і Кіеўскім цэнтрам палітычных даследаванняў і канфліктalогіі штомесяц вызначаюць 50 вядучых палітыкаў Расіі, Беларусі і Украіны. Гэтыя даследаванні рэгулярна праводзяцца ў Расіі са студзеня 1993 года. У студзені 1996 года яны пачалі праводзіцца ў Рэспубліцы Беларусь, а ў сакавіку — на Украіне. Спісы вядучых палітыкаў потым публікуюцца ў «Независимой газете» (Расія) і ў «Народнай газеце» (Рэспубліка Беларусь). На іх аснове газета «Звязда» будзе штомесяц прадстаўляць сваім чытачам падагульняючы рэйтынг палітычных лідэраў трох брацкіх славянскіх дзяржаў.**

**Для ацэнкі меры ўплывовасці выкарыстоўвалася 10-бальная шкала, дзе «10» азначае максімальную, а «1» — мінімальную ступень уздзеяння. Калі дзяржаўны дзеяч у мінулым месяцы, на думку экспертаў, наогул не адыграў ніякай ролі ў знешняй і ўнутранай палітыцы сваёй краіны, дык яму выстаўлялася нулявая ацэнка. На падставе сярэдніх балаў экспертных ацэнак і былі складзены падагульняючыя спісы беларускіх, расійскіх і ўкраінскіх палітыкаў, якія аказалі ў сакавіку, з пункту гледжання экспертаў, найбольшы ўплыў на палітыку сваіх краін (гл. табліцы 1—3). Меру іх уплывовасці вызначалі эксперты — кіраўнікі цэнтральных сродкаў масавай інфармацыі, вядомыя палітычныя аглядальнікі і палітолагі. У кожнай дзяржаве ў апытаннях прымалі ўдзел ад 50 да 60 экспертаў.**

**Беларусь, Расія і Украіна з'яўляюцца прэзідэнцкімі рэспублікамі, і ключавую ролю ў іх знешняй і ўнутранай палітыцы адыгрываюць кіраўнікі дзяржаў Аляксандр Лукашэнка, Барыс Ельцын і Леанід Кучма. У Беларусі прэзідэнцкія структуры, відаць, займаюць найбольш моцныя пазіцыі. Аб гэтым сведчыць і вялікі адрыў Аляксандра Лукашэнкі ад іншых беларускіх палітыкаў, і наяўнасць 9 прадстаўнікоў прэзідэнцкай «вертыкалі» ў спісе вядучых дзяржаўных дзеячаў (гл. табліцу).**

**Істотную ролю ў палітыцы ўсіх трох славянскіх дзяржаў адыгрываюць вышэйшыя органы заканадаўчай улады: Вярхоўны Савет, Дзяржаўная дума і Вярхоўная Рада, а ўрадавыя структуры займаюць найбольш моцныя палітычныя пазіцыі на Украіне.**

**Рэгіянальныя кіраўнікі найбольш істотна ўплываюць на расійскую палітыку, а ў Беларусі, наадварот, усё палітычнае жыццё сканцэнтравана ў Мінску.**

**У наступных публікацыях мы больш падрабязна разгледзім палітычныя сістэмы Беларусі, Расіі і Украіны.**

## СТРУКТУРА ПАЛІТЫЧНАЙ ЭЛІТЫ БЕЛАРУСІ, РАСІІ І УКРАІНЫ Ў САКАВІКУ[1]

| Службовыя групы дзяржаўных дзеячаў | Беларусь | | Украіна | | Расія | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Кольк. | % | Кольк. | % | Кольк. | % |
| 1. Дэпутаты вышэйшых органаў заканадаўчай улады (Вярхоўнага Савета, Дзяржаўнай думы, Вярхоўнай Рады) | 19 | 38,0 | 12 | 24,0 | 28 | 56,0 |
| 2. Прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта і іншых структур прэзідэнцкай улады | 9 | 18,0 | 8 | 16,0 | 4 | 8,0 |
| 3. Члены ўрада (уключаючы кіраўнікоў сілавых ведамстваў) | 12 | 24,0 | 11 | 22,0 | 18 | 36,0 |
| 4. Кіраўнікі мясцовых органаў улады гарадскога, абласнога (а ў Расіі і рэспубліканскага) звяна | 1 | 2,0 | 11 | 22,0 | 4 | 8,0 |
| 5. Прадстаўнікі судовых органаў, пракуратуры і Кантрольнай палаты | 3 | 6,0 | 2 | 4,0 | 1 | 2,0 |
| 6. Кіраўнікі фінансавых структур і прадпрымальніцкіх арганізацый | 2 | 4,0 | 1 | 2,0 | 2 | 4,0 |
| 7. Прадстаўнікі рэлігійных арганізацый | 1 | 2,0 | 1 | 2,0 | 2 | 4,0 |
| 8. Прафсаюзныя дзеячы | 2 | 4,0 | - | - | 1 | 2,0 |
| 9. Супрацоўнікі сродкаў масавай інфармацыі | 1 | 2,0 | 1 | 2,0 | 1 | 2,0 |
| 10. Іншыя структуры (Цэнтрвыбарком, непарламенцкія партыі і г. д.) | - | - | 3 | 6,0 | 1 | 2,0 |

*1) Некаторыя дзяржаўныя дзеячы сумяшчаюць працу ў структурах выканаўчай і заканадаўчай улады. Гэтая практыка асабліва распаўсюджана на Украіне.*

| Назва | Цана | Арганізацыя | Тэлефон |
|---|---|---|---|
| **ДЛЯ ФЕРМЕРА І ДАЧНІКА** | | | |
| Міні-трактар МТЗ-082 | Дагаворная | Арганізацыя | 76-85-85 |
| Мотаблокі МТЗ | Дагаворная | Арганізацыя | 76-85-85 |
| Мотакультыватары «Крот» з камплектам с/г прылад | Дагаворная | Арганізацыя | 76-85-85 |
| Камплекты с/г прылад да мотаблокаў МТЗ | Дагаворная | Арганізацыя | 76-85-85 |
| Бульбакапалкі да мотаблокаў МТЗ | Дагаворная | Арганізацыя | 76-85-85 |
| **ТРАНСПАРТ** | | | |
| Рухавікі да а/м ГАЗ24, ГАЗ53, М412, М2141 (1,7 л) і інш. запчасткі | | СФ «Арыён» | (0222) 25-00-00 |

## ПРАДАЕЦЦА

❑ дом у Глуску Магілёўскай вобл. з гаспадарчымі пабудовамі, тэлефонам, водаправодам, садам. Тэл. (8-0212) 40-0-92.

❑ прадаю або мяняю на ВАЗ іншамарку 85 г. в., дызель, пяцідзверны, у добрым стане. Тэл. у г. Жодзіне 3-50-80.

❑ новы драўляны дом для дачы 4,5х5,5, 2-павярховы, з неабходнымі будматэрыяламі. Тэл. у Калінкавіцкім раёне 60-2-71.

## РОЗНАЕ

❑ здаецца дом з садам і агародам па дагавору сям'і ў пасёлку Акцябрскі Гомельскай вобласці. Тэл. (0172) 32-85-40.

❑ мяняю аднапакаёвую кватэру ў Кіеве на раўназначную ў Мінску, Слуцку, Салігорску. Тэл. у Слуцку 72-2-66.

❑ мяняю трохпакаёвую кватэру з усімі выгодамі ў вёсцы Сіняўка Клецкага раёна (маецца склеп, хлеў, летняя кухня) на такую ж у г. Ганцавічах. Тэл. (8-01646) 23-5-06.

❑ мяняю недабудаваны катэдж на жыллё ў Мінску, або прадам. Тэл. у Вілейцы 5-36-42.







## ВІНШУЕМ

Віншуем з днём нараджэння Якубель Марыю Сільвестраўну (в. Сінькі), Шунько Зінаіду Сцяпанаўну (г. Смаргонь). Жадаем моцнага здароўя, шчасця, міру, любові і доўгіх гадоў жыцця. Грывіцкія, Руткоўскія, Шчасная.

***

Сардэчна віншуем дарагую мамачку Федаровіч Марыю Сцяпанаўну (в. Замосце) з юбілейным днём нараджэння. Жадаем здароўя, дабрабыту, доўгіх гадоў жыцця. Муж, дзеці, унукі.

***

Сардэчна віншуем з днём нараджэння Рыбчык Станіслава Антонавіча. Жадаем здароўя, шчасця і ўсяго самага добрага. Брат, сёстры, пляменнікі, унукі.

***

Урачам Станіславу Мамчыцу і Юрыю Клопаву і іх мілым памочніцам-медсёстрам выказвае падзяку Жалкоўскі (г. Ліда).

## У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**24 красавіка Кабінет Міністраў прыняў пастанову № 280 «Аб матэрыяльнай падтрымцы асобных катэгорый грамадзян у сувязі са святкаваннем Дня Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне».**

Улічваючы, што свята Перамогі павінна прайсці пад знакам праяўлення асаблівай увагі да інвалідаў вайны, удзельнікаў вайны і працоўнага фронту, асоб, якія пацярпелі ад фашызму, інвалідаў з дзяцінства, чыя інваліднасць звязана з ваеннымі дзеяннямі і іх вынікамі, сем'яў загінуўшых, Кабінет Міністраў прадугледзеў аказанне гэтым катэгорыям грамадзян матэрыяльнай падтрымкі за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту.

Пастановай прадугледжваецца аказанне матэрыяльнай падтрымкі Героям Савецкага Саюза, Героям Сацыялістычнай Працы, якія ўдастоены гэтых званняў за заслугі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, поўным кавалерам ордэна Славы ў памеры чатырох мінімальных заработных плат.

Удзельнікам і інвалідам Вялікай Айчыннай вайны, бацькам, дзецям-інвалідам з дзяцінства і жонкам (мужам) ваеннаслужачых, партызан і падпольшчыкаў, што загінулі або прапалі без вестак у час баявых дзеянняў у гады Вялікай Айчыннай вайны, якія не ажаніліся другі раз, будзе аказана матэрыяльная падтрымка ў памеры двух мінімальных заработных плат.

Матэрыяльную дапамогу ў памеры адной мінімальнай заработнай платы атрымаюць асобы, узнагароджаныя ордэнамі і медалямі СССР за самаадданую працу і беспералынную службу ў тыле ў гады Вялікай Айчыннай вайны, грамадзяне, якія працавалі ў перыяд блакады Ленінграда на прадпрыемствах, ва ўстановах і арганізацыях горада і ўзнагароджаныя медалём «За абарону Ленінграда», а таксама грамадзяне, узнагароджаныя знакам «Жыхару блакаднага Ленінграда», а таксама былыя вязні фашысцкіх канцлагераў, турмаў, гета і былыя непаўналетнія вязні іншых месцаў прымусовага ўтрымання, створаных фашысцкай Германіяй і яе саюзнікамі ў перыяд другой сусветнай вайны, інваліды з дзяцінства з прычыны ранення, кантузіі або калецтва, звязаных з ваеннымі дзеяннямі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны (або з вынікамі ваенных дзеянняў).

Гэтай пастановай Кабінет Міністраў даручыў мясцовым выканаўчым і распарадчым органам зрабіць выплату грашовых сродкаў указаным катэгорыям грамадзян у перыяд з 1 па 15 мая 1996 года.

**Прэс-служба Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь — БЕЛТА.**

## ЗВАРОТ

**Беларускага саюза афіцэраў і Беларускага фонду міру да калектываў прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, банкаў і камерцыйных структур Рэспублікі Беларусь**

Па ініцыятыве Саюза афіцэраў і Фонду міру ў 1995 годзе да 50-годдзя Перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў рэспубліцы быў створаны пастаянна дзеючы «Фонд абароны ветэранаў вайны».

Дзевятнаццаць працоўных калектываў унеслі свой пасільны ўклад у стварэнне Фонду. Агульныя паступленні склалі 320 млн. рублёў. З асаблівым разуменнем да гэтага мерапрыемства аднесліся Ашчадбанк «Беларусбанк», які ўнёс 300 млн. рублёў, «Белсувязьбанк» — 5 млн. рублёў, камерцыйны банк «Беларусь» — 3 млн. рублёў, камерцыйныя структуры «Ланжэрон», «Сяміплан», «Добразычлівец» і інш.

Ветэраны вайны выказваюць сваю глыбокую ўдзячнасць кіраўніцтву і працоўным калектывам, якія прынялі ўдзел у гэтай высакароднай справе.

Праўленне створанага фонду з улікам пажаданняў ветэранскіх арганізацый і практычнай мэтазгоднасці правяло дзве акцыі, накіраваныя на клопаты аб ветэранах вайны.

За кошт сабраных сродкаў было закуплена вельмі неабходнае медыцынскае абсталяванне для Бараўлянскага шпіталя ўдзельнікаў вайны на суму 160 млн. рублёў і Юрцавіцкага шпіталя (Віцебская вобласць) на суму 60 млн. 93 тыс. рублёў. Цяпер разглядаецца пытанне аб аказанні дапамогі Магілёўскаму і Гомельскаму шпіталям удзельнікаў вайны.

Цяжка жывецца цяпер ветэранам, іх пакідае здароўе, рады іх радзеюць з кожным днём. Дзяржава не ў сілах вырашыць усе праблемы, звязаныя з ветэранамі вайны.

У гэты цяжкі час мы звяртаемся да ўсіх працоўных калектываў: прыйсці на дапамогу сваім дзядам і бацькам, тым, хто, рызыкуючы жыццём, здабылі вялікую перамогу ў жорсткіх бітвах з самым каварным ворагам у другой сусветнай вайне.

Не застаньцеся раўнадушнымі ў гэтай высакароднай справе!

Вашы ахвяраванні просім пералічваць на разліковы рахунак нумар 3015000000053 у ОПЕРУ АСБ «Беларусбанк», код для Мінска 362, для іншагародніх код 153001362.

***Беларускі фонд міру*** **Старшыня М. ЯГОРАЎ** — ***Беларускі Саюз афіцэраў*** **Старшыня Д. ІВАНОЎ**

## Я. Я. САКАЛОВУ — 70 ГАДОЎ

Споўнілася 70 гадоў Яфрэму Яўсеевічу Сакалову, які ў канцы 80-х быў першым сакратаром ЦК Кампартыі Беларусі, а перад гэтым на працягу дзесяці гадоў узначальваў Брэсцкую абласную партарганізацыю. Ён выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР і БССР некалькіх скліканняў. З яго імем звязаны значныя пераўтварэнні ў эканоміцы, асабліва ў сельскай гаспадарцы і будаўніцтве, накіраваныя на ўкараненне сучасных тэхналогій у вытворчасць.

У сувязі з 70-годдзем, а таксама за актыўны ўдзел у рабоце Беларускай арганізацыі ветэранаў вайны, працы, Узброеных Сіл і праваахоўных органаў Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь узнагародзіў Я. Я. Сакалова Ганаровай граматай.

**БЕЛТА.**

# *РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

## ...ЗДАЦЬ КРОЎ

**Палічыўшы небяспечным здаваць уласную кроў, я ўсяго толькі вырашыў пацікавіцца гэтым пытаннем у аматараў дзяліцца ёй з іншымі. Па-першае, трэба заўважыць, што донарскі рух набыў выключныя маштабы.**

Рухавіком працэсу ў здачы крыві сёння сталі грошы. Калі раней максімальны прыбытак за разавае ахвяраванне крыві складаў 25 рублёў, то не ўсе донары і квапіліся на грошы. Часам здавалі па дзвесце, а то і чатырыста грамаў бясплатна. У знак удзячнасці медыцынскія ўстановы кармілі добрым абедам. І трэба заўважыць, што па ранейшым часе абед плюс два выхадныя дні — такія ўмовы задавальнялі многіх. Да ўсяго астатняга быць донарам было пачэсна. Донары ўшаноўваліся значкамі, граматамі, званнямі. Да донараў перш-наперш звярталіся ў экстрэмальных сітуацыях.

Нельга сказаць, што кошт крыві, як і патрэба ў ёй, змяніліся. Людзі па-ранейшаму трапляюць у аварыі, хварэюць. Мо нават болей, чым раней. А што ж датычыць здачы крыві, то сёння ўжо не трэба адчыняць перасоўныя донарскія пункты на прадпрыемствах, у навучальных установах, у вайсковых часцях. На станцыі пералівання крыві сталічнай вобласці напрыклад, штодня кроў здаюць да 200 чалавек. Чатырыста грамаў уласнай каштоўна-жыццядайнай сыравіны кожнаму з грамадзян прыносіць прыбытак у дзвесце тысяч рублёў. На абед разлічваць не даводзіцца. Праўда, каб не зваліліся з ног і з Навінак даехалі дахаты, вам выдадуць шклянку чаю і два пачкі пячэння.

Прымаюць кроў ва ўмовах, зразумела, стэрыльных. Ды і ад наведвальнікаў патрабуюць даведку з паліклінікі па месцы жыхарства. Але пра СНІД, а таксама час, змарнаваны на атрыманне даведкі, наваяўленыя і спрактыкаваныя, вопытныя ўжо донары думаюць у апошнюю чаргу. Іншы клопат — чэргі. Запісвацца для здачы крыві, каб трапіць у лік двухсот штодзённых шчаслівіцаў, трэба не пазней як за паўтара месяца. Але не забывайцеся і пра наступную важную акалічнасць: здаваць кроў дазволена не часцей як 1 раз у два месяцы. Так што вашы чатырыста грамаў сталага заробку не заменяць.

Сацыяльны партрэт сённяшніх донараў-здатчыкаў у асноўным аднародны: рабочыя невялікіх заводаў, фабрык, прадпрыемстваў, якія ў асноўным прастойваюць, альбо зусім беспрацоўныя. Фізічны стан таксама можна прывесці да адной роўніцы: сядзяць мужыкі ў чаканні хуткага заробку альбо «пасля ўчарашняга», альбо паспеўшы ўжо «прычасціцца» з раніцы. Дзіўна, што ўсё ж прарываюцца да запаветнай мэты, бо і ціск жа перад здачай крыві мераюць.

Таму вось, з-за гэтай апошняй акалічнасці, няма і цвёрдай упэўненасці, што абавязкова дахаты трапяць у некаторых тыя дзвесце тысяч рублёў за чатырыста грамаў крыві.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ...НАБЫЦЬ АЎТАЗАПЧАСТКІ

**Вясна — не толькі час прылёту гракоў, але і гарачая пара для аўтамабілістаў, якім якраз трэба паклапаціцца аб сваім чатырохколавым сябру. У адных машына эксплуатавалася цэлую зіму і цяпер мае патрэбу ў рамонце, у другіх яна прастаяла ў гаражы ці на адкрытай пляцоўцы і ўсё роўна нешта выйшла са строю. А ў трэціх яшчэ з мінулага сезона не на хаду. І кожнай катэгорыі аўтааматараў патрэбны розныя запчасткі. Колькі яны каштуюць сёння на цэнтральным аўтарынку беларускай сталіцы?**

Паколькі пераважная большасць нашых суайчыннікаў ездзяць на «Жыгулях», агляд абмяжуем цэнамі на дэталі да аўтамабіляў «ВАЗ».

Не бяда, калі вашы праблемы звязаны толькі з элементамі падвескі — кошт «жалязяк» тут даволі памяркоўны. Верхняя шаравая апора да «ВАЗ-2101/07» абыдзецца прыкладна ў 45—60 тысяч рублёў, а ніжняя — у 40—50 (для «ВАЗ-2108/09» — 85—90 тыс.) Пакупка амартызатараў выльецца ў 170—190 тыс. за адзін пярэдні ці 180—200 тыс. за адзін задні (які, дарэчы, часцей выходзіць са строю). Утулкі амартызатараў і стабілізатараў каштуюць, можна сказаць, дробязі — 4—8 тыс. рублёў. Але справа дрэнь, калі неабходна мяняць спружыны: за пару задніх прадаўцы запросяць не менш як 420 тыс. да старога пакалення «Жыгулёў» («ВАЗ-2101/07») або 450 тыс. — да пярэднепрывадных «Самар» і «Спадарожнікаў».

У прынцыпе, нядорага абыдуцца сайлентблокі — па 12—16 тыс. за штуку. Наканечнікі рулявых цяг забяруць з вашага кашалька 60—70 тыс. для «ВАЗ-2101/07» або 105—130 тыс. — для ВАЗ-2108/09. Пакупка маятнікавага рычага будзе каштаваць не менш як 150—170 тыс. рублёў.

Тым, хто часта карыстаўся тармазамі, трэба падрыхтаваць 60—80 тыс. за пярэднія калодкі («васьмёрак» і «дзевятак» — 80—90 тыс.) і ў паўтара раза больш — за заднія (для непярэднепрывадных «Ладаў»). На тармазныя шлангі знізілася цана, і купіць іх за 15—18 тыс. не складзе ніякай цяжкасці. Крыху даражэй — 90 тыс. для «ВАЗ-2101/07» і 120 тыс. для «ВАЗ-2108/09» будзе каштаваць трос стаяначнага тормаза (або прасцей — «ручніка»). А вось тармазныя барабаны пацягнуць па 180 тыс. рублёў за штуку.

Рыхтуйцеся да сур'ёзных расходаў, калі ў вашай падапечнай — непаладкі ў трансмісіі. Вядомы дыск счаплення для «ВАЗ-2101» забярэ з сямейнага бюджэту 200—280 тыс., а націскны дыск у зборы ніхто не ўступіць танней як за 250—480 тыс. Праўда, замена выціскнога падшыпніка будзе каштаваць усяго толькі 130—150 тыс., калі вы ездзіце на «Жыгулях», і 180—200 тыс. — калі маеце «Спадарожнік». Сапраўдная дробязь — 10—18 тыс. — спатрэбіцца на замену сальнікаў. Нядорага (60—70 тыс.) будзе каштаваць крыжавіна кардраннага вала, хоць прамежкавую апору кардана можна набыць за 150—155 тыс. Ну, а калі на вашай «васьмёрцы» ці «дзевятцы» паляцеў ШРУС, рыхтуйцеся да значных расходаў у межах ужо 700—770 тыс. рублёў.

Вялікую дзірку ў сямейным бюджэце можа зрабіць замена размеркавальніка запальвання (430—460 тыс. для старых мадэляў «ВАЗ» і 640—690 тыс. — для новых). «Васьмёрачная катушка запальвання каштуе у межах 170 тыс. Рэле-рэгулятар «ВАЗ-2101/07» ацэньваецца ў 40—60 тыс., а «бегунок» — не больш як 20—25 тыс. З іншых адчувальных расходаў па электраабсталяванню — бендыкс стартэра (130—135 тыс. у залежнасці ад мадэлі машыны). І «ахілесава пята» «васьмёрак» — камутатар (215—230 тысяч).

Шчоткі генератара каштуюць не даражэй чым 30—35 тысяч, незалежна ад мадэлі легкавушкі. Прыкладна на такім жа ўзроўні — кошт падшыпніка генератара. І толькі правады высокага напружання ў паўтара—два разы даражэй: 40—60 тыс. для «касілкі» і 75—85 тыс. — для пярэднепрывадных «Ладаў».

Не памыліцеся ў выбары і — удалай вам пакупкі!

**Аляксандр ТРАХАЧОЎ.**

## ...ПАПІЦЬ ПІВА

**Калі б нейкі мастак узяўся напісаць карціну спякотнага летняга дня ў горадзе, напэўна, такая карціна была б няпоўнай без выявы даўжэзных чэргаў ля піўных ларкоў. Знясіленыя грамадзяне, абліваючыся потам, нецярпліва пераступаюць з нагі на нагу ў чаканні ўрачыстага моманту, калі, трымаючы ў руцэ поўны куфаль, можна будзе спакойна адысці ў бок і з асалодай уліць у сябе паўлітра халоднага бурштынавага напою.**

Але гэта будзе летам. Пакуль паказчыкі тэрмометра не перавышаюць крытычнай адзнакі, лепей набыць бутэльку-другую піва ў краме і спустошыць яе, зручна ўладкаваўшыся на канапе, пад трансляцыю футбольнага матча альбо проста пад цікавую кінастужку. Шырокі асартымент замежнага бляшаначнага піва ў камерцыйных кіёсках цешыць вока, але далёка не кожны дазволіць сабе аддаць 10—18 тысяч рублёў за бляшанку. Мае айчыннае піва ў бутэльках і яшчэ адну неаспрэчную перавагу — пустыя бутэлькі потым можна здаць і зноў купіць піва.

Што ж прапануюць нам айчынныя вытворцы? У мінскіх крамах, зразумела, часцей за ўсё можна сустрэць прадукцыю тутэйшых піўзаводаў — «Беларусі» і «Крыніцы». Танней за іншых каштуе «Мінскі бровар» — у залежнасці ад гандлёвай нацэнкі, па 4.100—4.200 рублёў за бутэльку. Піва гэтага гатунку ўтрымлівае 12 працэнтаў моцнасці, альбо 4,5 працэнта — у пераліку на алкаголь. Крыху даражэй абыдзецца бутэлька «Нямігі» — 4.200—4.300 рублёў. Адпаведныя характарыстыкі гэтага піва — 11 і прыкладна 4 працэнты. «Лекерт-1» і «Лекерт-2» аблегчаць ваш кашалёк таксама на 4.200—4.300 рублёў. Моцнасць — 12 працэнтаў, гэта значыць 4,5 працэнта алкаголю. Розніца паміж гэтымі гатункамі ў тым, што «Лекерт-1» гатуецца з дабаўкамі жэньшэню, тады як «Лекерт-2» — з дабаўкай ядлоўцу. «Граф Чапскі» каштуе 4.300—4.400 рублёў за бутэльку і ўтрымлівае адпаведна 13 і 5 працэнтаў. Крыху даражэй за іншыя піва «Траецкае» і «Аліварыя» — па 4.400—4.500 рублёў.

Такім чынам, прыемнага адпачынку! Але не захапляйцеся: адна справа — выпіць паўлітра ці літр піва, але калі высмактаць 8—10 бутэлек адразу, дык зранку ваш стан мала чым будзе адрозніваца ад звычайнага пахмелля.

**Ігар АНДРЭЙЧАНКА.**

***СКАНДАЛ***

## «ЗАСВЯЦІЛІСЯ» МЫТНІКІ

**Памятаю, на «прамой лініі» Беларускага тэлебачання з кіраўніком Дзяржаўнага мытнага камітэта яму задавалася пытанне аб злоўжываннях на мытні. Тады Пётр Крэчка адказаў нашаму карэспандэнту, што, сапраўды, такія факты ў практыцы іх работы маюцца, аднак па меры сіл мытнікі стараюцца пазбавіць свае шэрагі ад нядобрасумленных людзей. З той пары прайшло няшмат часу, і вось чарговая інфармацыя: затрымана двое мытнікаў.**

Аперацыю па затрыманню праводзілі ўпраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю КДБ і аддзел па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю МУС па Мінску. У выніку аператыўных дзеянняў у «сеткі» аператыўнікаў трапілі дзве высокапастаўленыя асобы — начальнік упраўлення Дзяржаўнага мытнага камітэта рэспублікі А. Паходня і старшы інспектар мытнага камітэта. Затрыманне адбылося 17 красавіка, амаль два тыдні таму. Зараз вядзецца следства.

Як удалося высветліць у МУС, гэтыя мытнікі падазраюцца ў атрыманні хабару ў памеры шасці тысяч долараў ЗША. Усе дэталі справы трымаюцца пакуль у сакрэце, аднак пэўнае ўяўленне аб ёй усё ж такі атрымаць нам удалося. Падвялі людзей з высокай пасадай камерцыйныя структуры: мытнікі пакваціліся на «зялёныя», згадзіўшыся афарміць мытныя дакументы на правоз грузу. Кропка ў справе яшчэ не пастаўлена.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

***КРЫК ДУШЫ***

## КАЛІ СУМЛЕННЫ, ТО ЧАМУ БЕДНЫ?

Я выпісваю вашу газету, але зараз выпісаць ужо не змагла, таму што захварэў сын і ўсе грошы пайшлі на лекі. Але я ўсё роўна буду чытаць яе ў чытальнай зале бібліятэкі.

А пішу вось чаму. Ваша газета нейкая добрая, калі можна так сказаць, павернута тварам да людзей. І хацелася б, каб Вы запрашалі псіхолага і ён даваў парады, як жыць і выжываць цяпер, як выхоўваць дзяцей. Хацелася б даведацца, як мне выхоўваць сына. Я сама выхавана так, што галоўнае для мяне — духоўнае багацце. Але цяпер жа ўсё наадварот. Калі ты багаты, то штосьці значыш, калі бедны — ты нуль. Мне так і сказаў былы муж: «Ты — нуль». Таму што я — «беспасажніца».

Як жа мне растлумачыць усё гэта дзіцяці, каб ён зразумеў, што галоўнае — не грошы? Яму цяпер каля 7 гадоў. Быў ён у маёй маці. Яна пытаецца: «Чаму ты мяне завеш бабай, а татаву маму — бабуляй?» А ён адказвае: «Таму што ты нарадзіла маму, і яна бедная, а бабуля нарадзіла тату, і ён багаты. Вось таму яна бабуля».

І мне ўсё гаворыць: калі я вырасту — буду багатым. Я ж стараюся растлумачыць: сынок, галоўнае быць не багатым, а добрым чалавекам. А ён мне: ты добрая, а чаму бедная? Я пачынаю ўжо злавацца, і не ведаю, як растлумачыць.

**Алена.**

*Мінская вобласць.*

## УДАКЛАДНЕННЕ

У нумары «Звязды» за суботу ў матэрыялах «прамой лініі» са старшынёй Вярхоўнага Савета С. Шарэцкім па тэхнічных прычынах не прачытваецца загаловак «Праблема захавання законнасці ў нашай маладой суверэннай дзяржаве сёння стаіць надзвычай востра».

Прыносім свае прабачэнні.

**Наступны нумар «Звязды» выйдзе ў пятніцу, 3 мая. Графік выхаду газеты зменены ў сувязі са святам 1 Мая.**

## *ДА ЎВАГІ ЧЫТАЧОЎ*

***Жыццё, як вядома, не чорна-белае, а каляровае. Менавіта ўсе яго адценні імкнуцца адлюстраваць у сваіх матэрыялах журналісты «ЗВЯЗДЫ». А цяпер, дзякуючы ўдасканаленню тэхналогіі вытворчасці газет у Беларускім Доме друку, з'явілася магчымасць сцвярджаць гэта і ў прамым сэнсе — праз каляровы друк. І «ЗВЯЗДА» спяшаецца выкарыстаць такую магчымасць. Сёння чытачы і падпісчыкі Мінска атрымаюць нумар «ЗВЯЗДЫ» ў колеры. Пачатае будзем працягваць.***

**ПАДПІСВАЙЦЕСЯ НА «ЗВЯЗДУ»!**

***Кошт падпіскі:***

***на II паўгоддзе — 81.600 рублёў;***
***на III квартал — 40.800 рублёў;***
***на 1 месяц — 13.600 рублёў.***

***ЗАСТАВАЙЦЕСЯ З НАМІ!***

**Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку выказвае глыбокае спачуванне рэдактару абласной газеты «Гродзенская праўда» Іосіфу Іванавічу Багіно з выпадку заўчаснай смерці ДАЧКІ.**

# ПРАЦЭС ПАЙШОЎ, А ЯЎРЭЙ ПАЕХАЎ

**На кожным кроку ў Ізраілі ўспамінаеш вядомую песню Высоцкага пра тое, што тут на чвэрць — наш народ. І сапраўды: ведаючы рускую мову, тут ніколі не будзеш адчуваць сябе чужым.**

**Цябе напояць кавай у маленькай крамцы ў Старым горадзе («не абавязкова нешта купляць, проста пагаворым»), галантна праводзяць да гатэля, распытаўшы пры гэтым усё да драбніц пра цябе і надвор'е ТАМ, а то запросяць (калі ты процілеглага полу) проста «выпіць джыну са старым чукчам Моці». Дзіўна: тут яны становяцца «чукчамі» (Моці — з Новасібірска), «рускімі» і «палякамі», хаця нацыянальнасць у асноўным ва ўсіх адна.**



Там, у Саюзе, яны часам (а можа, і не часам?) адчувалі дыскамфорт, таму што яўрэі, тут — тое ж самае, але ўжо таму, што «рускія». Адаптацыя адбываецца, заваёўваецца месца пад шчодрым ізраільскім сонцам, але не адразу. Ну вось, напрыклад, трэба вам узяць ільготны крэдыт на куплю дома (машканту). Калі вы карэнны ізраільцянін, машканту вам выдадуць пад большы працэнт, чым нядаўняму рэпатрыянту. Ёсць падставы для крыўды на бытавым узроўні, а адсюль — і пэўных узаемаадносінаў?

І ўсё ж у Ізраілі на любым узроўні любяць падкрэсліваць, што былы Саюз вельмі многа даў для іх краіны, хаця б у асобах сваіх лідэраў розных часоў — выхадцаў з рэспублік былога СССР. Мы пабывалі на магілах Голды Меір, Іцхака Рабіна, Хаіма Вейцмана, Давіда Бен-Гурыёна. Тут шмат людзей: гараць свечкі, моляцца, у тым ліку і па-руску. Моляцца за Ізраіль, бачачы атрыбуты дзяржаўнасці нават у магілах сваіх кіраўнікоў.

Да сваёй былой «савецкасці» рэпатрыянты ставяцца па-рознаму. Хтосьці раздражнёна ўспамінае марна патрачаныя самыя лепшыя гады («у інстытут не прымалі, бо яўрэй»). А ў паважанага прафесара ў салідная клініцы дрыжаць рукі: ён рады параспытваць, а галоўнае, відаць, успомніць той стан душы, калі маладосць і талент былі адзіным жыццёвым набыткам. Сёння ў прафесара Вейснера з клінікі «Хадаса» ёсць усё: шырокае прызнанне, любімая работа, грошы, а галоўнае — кранальнае пачуццё адказнасці за людзей, тутэйшых і «нашых». Ён — хірург-анколаг, бываў у Чарнобылі, зараз працуе з «чарнобыльскімі» дзецьмі. Горача пераконвае нас, журналістаў: не трэба ўсё спісваць на Чарнобыль, трэба ствараць людзям нармальныя ўмовы жыцця, правільнае харчаванне найперш, — і многія праблемы адступяць, знікнуць самі па сабе. Але ж уся наша бяда, відаць, у тым, што чарнобылі і іншыя трагедыі здараюцца найчасцей у часы агульнаэканамічных крызісаў...

Да нашай «перабудовы» ў Ізраіль змаглі пераехаць нямногія яўрэі — у 70-я гады іх было каля ста тысяч чалавек. Потым, як вядома, «працэс пайшоў», а разам з ім — і масавы выезд яўрэяў з рэспублік былога СССР (штомесячна — тысячы чалавек).

— Нашы саветолагі, гаворачы па-руску, абсалютна праваронілі распад СССР, — расказвае Мірон Гордан з МЗС Ізраіля. — Я тады якраз напісаў навуковую працу, дзе параўноўваў планы рэформаў Чарненкі і Гарбачова. Зрабіў дзве высновы: па-першае, абодва планы вельмі падобныя, па-другое, іх ніхто не збіраецца выконваць. Я памыліўся, як і ўсе мы.

Палітолагі памыліліся, а людзі паехалі. З усімі сваімі праблемамі, з амаль татальным няведаннем іўрыта, без валодання якім у Ізраілі не прыжыцца, з трывалай спадчынай былога савецкага чалавека — няўменнем прыстасоўвацца, выяўляць у сабе асобу, са спадзяваннем на размеркавальную місію дзяржавы. Далёка не ва ўсіх былі багатыя родзічы, на чыю апеку можна было б разлічваць хаця б на першым часе.

Мы пабывалі ва ульпане Цэнтра абсорбцыі ў Іерусаліме. Ён уяўляе сабой школу для вывучэння іўрыта рэпатрыянтамі з 30 краін свету, пераважна з былых краін СНД. Ульпан — не для ўсіх. Умова — вышэйшая адукацыя, узрост да 30 гадоў, адсутнасць сям'і. За пяць месяцаў слухачы атрымліваюць веды па гісторыі Ізраіля, арыенціры ў пошуку работы, вывучаюць мову. Тут жа і жывуць, харчуюцца. Каштуе ўсё гэта 750 долараў за ўвесь перыяд. Адкуль грошы? З «кошыка абсорбцыі» — беззваротнай пазыкі, якую атрымлівае ад дзяржавы кожны новы рэпатрыянт. Яе памер — каля трох тысяч долараў.

Мы пагаварылі з некаторымі слухачамі ульпана.

**Рыгор з Жытоміра,** ***26 гадоў, архітэктар:***

— Прыехаў пакуль адзін, без бацькоў, але думаю, што і яны хутка будуць тут. Мне і ў Жытоміры жылося нядрэнна. Трохі працаваў па спецыяльнасці, спрабаваў заняцца бізнесам — не атрымалася: падаткі перашкаджалі. Сумленна працаваць там амаль немагчыма. Выбар даўся нялёгка: ніхто з нас не адмаўляецца і ад першай сваёй радзімы. Але я многа чытаў пра гісторыю яўрэйскага народа і вырашыў, што павінен жыць тут.

**Наташа з Кіева,** ***25 гадоў, інжынер-металург:***

— Мне тут будзе няпроста — работу па спецыяльнасці не знайду. Давядзецца перавучвацца. На першым часе хопіць «кошыка», потым буду дзесьці падпрацоўваць, каб плаціць за вучобу, — гэта тут норма.

— А жыць дзе будзеце?

— Таксама праблема. Жыллё каштуе дорага, але ж усе неяк выкручваюцца. Спадзяюся, што знайду добрую работу, а гэта ў Ізраілі — вырашэнне ўсіх пытанняў.

У краіне існуе дзяржаўная праграма «Першы год на радзіме», якая дае магчымасць адаптавацца, знайсці жыллё, працу. Некаторыя рэпатрыянты прама з аэрапорта накіроўваюцца ў кібуц, дзе можна жыць і працаваць, не трацячы нават грошы з падоранага дзяржавай «кошыка». Для пенсіянераў прадугледжаны даплаты на «здымнае» жыллё (калі няма дзяржаўнага або свайго). Дарэчы, рэпатрыянты пенсіённага ўзросту (у Ізраілі ён складае 65 гадоў для мужчын і 60 — для жанчын) атрымліваюць тут «дапамогу на пражытачны мінімум» — тое, што ў нас называюць пенсіяй. І не мае значэння, дзе ты працаваў да выхаду на пенсію — тут ці, напрыклад, у Бабруйску або Пінску: дапамогу ад дзяржавы атрымаеш аднолькавую. Пенсіянер-адзіночка атрымлівае ў месяц каля 1100 шэкеляў (1 долар = 3 шэкелі), а пенсіённая пара — прыкладна 1600 шэкеляў.

Асобныя пенсіі ўстаноўлены для інвалідаў другой сусветнай вайны. Яны даволі істотныя — на ўзроўні сярэднямесячнай зарплаты па краіне (прыкладна паўтары тысячы долараў).

Мы пабывалі ў многіх ізраільскіх міністэрствах, на прадпрыемствах, у вялікай клініцы — і ўсюды сярод кіруючых работнікаў нямала нашых былых суайчыннікаў: з іх атрымліваюцца нядрэнныя спецыялісты. Да грунтоўнай прафесіянальнай адукацыі дадаецца неадольнае жаданне працаваць, замацоўвацца тут выключна праз сваю працу, талент, а не праз намаганні папярэдніх пакаленняў. Нават тут, на зямлі запаветнай, манна нябесная, насуперак паданням, не сыплецца, нічога не даецца «за так», без намаганняў і працы.

Узровень беспрацоўя сярод новых рэпатрыянтаў пакуль вышэйшы, чым сярод карэнных ізраільцян (адпаведна 9 і 6 працэнтаў). Адбіваюцца і моўныя праблемы, і якасць адукацыі (медсёстрам, напрыклад, тут даводзіцца перавучвацца), і структура прафесіянальнай арыентацыі тых, хто едзе сюды: ніхто ж не запрашае асобна людзей той спецыяльнасці, якая патрэбна ў Ізраілі! І таму «рускі» музыкант на тэль-авіўскай ці іерусалімскай вуліцы — частая з'ява.

— Стварыць новыя рабочыя месцы — не праблема, — расказвае Наташа Міхаэлава з аддзела бюджэту ізраільскага міністэрства фінансаў. — Можна мець урача ў кожнай школе, можна фарбаваць парканы кожны тыдзень у новы колер — абы плаціць людзям зарплату, але падобныя праекты штучнай ліквідацыі беспрацоўя адхілены. Спрабуем вырашаць праблему рыначнымі метадамі — шляхам зніжэння падаткаў з работадаўцаў за кожнае рабочае месца.

Кожны месяц у Ізраіль прыбывае па некалькі соцень новых грамадзян толькі з адной Беларусі.

— За гады працы ў Ізраілі я ўражаны мясцовай беларускай абшчынай, — расказвае саветнік Пасольства Беларусі ў Ізраілі Міхаіл Фарфель. — Людзі цёпла захоўваюць памяць пра свае беларускія карані. У нас ёсць свой Пінск, свой Віцебск, Мінск, Слонім — збіраюцца на святы, памінаюць кожнага, хто памёр — тут і там, на Беларусі. Чалавек, у якога дзве радзімы, — багаты чалавек.

Многія з тых, хто пераехаў сюды жыць з Беларусі, мараць пра закон аб двайным грамадзянстве, які б даў магчымасць бываць на ранейшай радзіме часцей — акрамя маральнага боку праблемы, ёсць і матэрыяльны: віза з Ізраіля каштуе вельмі нятанна.

Пасольствы ў Ізраілі маюць пакуль восем дзяржаў СНД. Праблемы ў іх адкрыцці дзве: грошы і кадры.

Паколькі размова зайшла пра кадры, я папыталася ў пана Гордана: як аднесліся ў ягоным ведамстве да прызначэння паслом Беларусі ў Ізраілі былога шэфа беларускага КДБ пана Лавіцкага, пазначыўшы сваё пытанне рэмаркай «магчыма, не для друку». Пытанне зусім для друку, запярэчыў пан Гордан, паколькі кожная дзяржава сама вырашае, каго і куды пасылаць для дыпламатычнай работы. І для адстаўных супрацоўнікаў службы бяспекі, на яго думку, не можа быць ніякіх абмежаванняў. Куды горш, калі на дыппасады прыязджаюць людзі зусім нейтральных у гэтым плане прафесій, а потым паступае інфармацыя (а яна ў нас, падкрэсліў М. Гордан, пастаўлена няблага), што дыпламат «падпрацоўвае» ў вядомым ведамстве «па сумяшчальніцтву». Чалавеку, які добра ведае праблемы сваёй краіны, працаваў у маштабе дзяржавы, куды прасцей справіцца з работай, чым, напрыклад, былому сакратару вясковага райкома партыі, што, здараецца, прыязджае з якой іншай дзяржавы.

— Работы прыбаўляецца, — згаджаецца ў час нашай размовы і сам Генадзь Міхайлавіч Лавіцкі — сталы чалавек і малады пасол. — Першыя ўражанні ад сустрэчы з цікавай, унікальнай краінай прайшлі, адчуванне таго, што жывеш і працуеш там, куды вякамі імкнуліся паломнікі, — застаецца, вы самі адчулі гэта. Перспектывы ў супрацоўніцтве дзвюх краін — вялізныя, дынаміка яго разгортваецца.

Працэс, аказваецца, дасюль ідзе...

**Людміла РЫЖАНКОВА.**

## МАЛЕНЬКІЯ САКРЭТЫ ВЯЛІКІХ ЛЮДЗЕЙ

У Злучаных Штатах была выдадзена кніга «Альманах славутых людзей», у якой паведамляюцца цікавыя падрабязнасці з жыцця амерыканскіх прэзідэнтаў.

Устаўныя скіўіцы Джорджа Вашынгтона былі зроблены з зубоў гіпапатама. Джордж Буш ва ўзросце 18 гадоў стаў самым маладым лётчыкам ВМФ, які атрымаў афіцэрскае званне ў перыяд другой сусветнай вайны. Уліс Грант, камандуючы войскамі Поўначы падчас грамадзянскай вайны, быў аштрафаваны за парушэнне правілаў дарожнага руху (ён ехаў у конным экіпажы па Вашынгтону). Эндру Джонсан, нават калі ўжо стаў прэзідэнтам, час ад часу сам шыў сабе адзенне. Да таго, як заняцца палітыкай, ён быў краўцом. Другая жонка прэзідэнта Вудра Вільсана, спадарыня Эдзіт Полт, даводзілася далёкай сваячкай індзейскай прынцэсе Пакахонтас. Гары Трумэн — адзіны з прэзідэнтаў XX стагоддзя, які не наведваў каледж.

## ГАРНІТУР ДЛЯ ПРЭЗІДЭНТА

«Не горш чым у іншых вялікіх людзей будзе зараз спальны гарнітур у прэзідэнта Украіны Леаніда Кучмы. Міністэрства эканомікі рэспублікі даручыла закарпацкай фірме «Вікторыя» вырабіць супермэблю з 17 прадметаў з выкарыстаннем буку, ясеню, арэха і іншых каштоўных парод. Гарнітур, які ўпрыгожыць дачу кіраўніка дзяржавы пад Кіевам, ацэньваецца ў 2 мільярды карбованцаў.

Заўважым, што памер сярэдняй зарплаты на Украіне сёння вагаецца ад 3 да 8 мільёнаў карбованцаў.

## «ЗОРКІ» СВАІМ ВЫГЛЯДАМ НЕ ЗАДАВОЛЕНЫ

Нялёгка даводзіцца «зоркам» Галівуда, нават тым, каго гледачы лічаць верхам дасканаласці. Самі яны пастаянна знаходзяць у сябе розныя недахопы. Кім Бесенджэр, напрыклад, раздражняе тое, што далоні ў яе пастаянна потныя, а пальцы кароткія і тоўстыя. А Мішэль Пфайфер незадаволена сваімі вуснамі. Па яе словах, рот у яе падобны на дзюбу качкі. Джэйн Сеймур зведвае сапраўдныя пакуты пекла — яна кажа, што ў яе на носе можна праводзіць спаборніцтвы па скачках на лыжах з трампліна. У сваю чаргу Кандзіс Берген заяўляе, што больш плоскай жанчыны, чым яна, нельга сабе ўявіць.

## УСЁ БАГАЦЦЕ ЗА ЗДАРОЎЕ СЫНА

Усяго, што толькі магчыма, дасягнуў у Галівудзе Сільвестр Сталонэ. Аднак 49-гадовы сумермен аддаў бы ўсё сваё багацце, каб толькі дапамагчы сыну.

Народжаны ад першага шлюбу акцёра 17-гадовы юнак пакутуе ад аўтызму, і хвароба зайшла так далёка, што ён не пазнае роднага бацьку.

«Я магу купіць усё, што хачу, — заявіў Сільвестр. — Але я ні секунды не вагаўся б, каб хто прапанаваў у абмен на маё багацце вылечыць сына. Я быў бы самым шчаслівым чалавекам у свеце, калі б ён сказаў толькі: «Прывітанне, тата!»

## АХВЯРА КАНФЕРЭНЦЫІ

Гуманныя заклікі да рэгулявання нараджальнасці, якія прагучалі на каірскай міжнароднай канферэнцыі па народанасельніцтву, прывялі да трагічнай развязкі ў адной з егіпецкіх сем'яў. Нейкі араб забіў сваю жонку, калі тая адмовілася выканаць свае шлюбныя абавязкі. Учыніўшы злачынства, муж сам здаўся праваахоўным органам. Як ён растлумачыў паліцэйскім, у адказ на яго прапанову раздзяліць ложак, жонка пусцілася ў дыскусію аб свабодзе выбару для жанчын, якія абвясцілі на канферэнцыі. Пасля гэтага муж, у якасці аргумента ў адказ, схапіўся за нож.

## БОЛЬШАСЦЬ КАНАДЦАЎ СУПРАЦЬ МАНАРХІІ

Канаду ўпершыню за апошнія пяць гадоў наведаў прынц Чарльз. Цікава, што шасцідзённая паездка прынца не прыцягнула такой пільнай увагі, як візіты каралеўскай сям'і ў мінулым. Апытанне паказала, што толькі 44 працэнты канадцаў падтрымліваюць манархію. Правінцыяльная ліберальная партыя будзе ў бліжэйшыя выхадныя галасаваць па пытанню аб тым, каб брытанскія манархі перасталі стаяць на чале канадскай дзяржавы.

## Аўторак, 30 красавіка

### Беларускае тэлебачанне

**12.45—14.00** «Выклікаем агонь на сябе». Маст. фільм. 2-я серыя.
**15.00** Навіны.
**15.15** «Лянівая сукенка», «Тапчумба». Мультфільмы.
**15.45** «Усё пра ўсё». Праграма для дзяцей.
**16.30** Майстэрня. Пісьменнік Алег Лойка.
**17.00** «Сугучнасць». Перадача з Віцебска.
**17.20** Урокі Наталлі Наважылавай.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** «Аншлаг у тэатры абсурду». Дак. фільм.
**18.15** Будзьце здаровы.
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.00** «Чакаю і спадзяюся». Маст. фільм. 1-я серыя.
**20.05** Вертыкаль.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Музычны антракт.
**22.05** А. Сафонава, Д. Альбрыхскі ў мастацкім фільме «Матылькі».
**23.35** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Лідс Юнайтэд» — «Ньюкасл Юнайтэд». У перапынку **(0.20)** — Навіны.

### ГРТ

**11.50** Ніна Сазонава ў фільме «Мая вуліца».
**13.05** «Ганна Паўлава». 5-я серыя.
**14.20** «Чароўныя гісторыі».
**14.45** Квар'етэ. «Вясёлая квампанія».
**14.55** Мульцітролія.
**15.10** Чароўны свет, ці Сінема.
**15.40** «Элен і хлопцы».
**16.05** ...Да шаснаццаці і старэй.
**16.30** Сем дзён спорту.
**17.20** «Сакрэт трапіканкі».
**18.05** Футбол. Кубак Расіі. Паўфінал. «Дынама» (Масква) — «Лакаматыў». Трансляцыя. У перапынку — «Добрай ночы, малышы!».
**20.00** Час.
**20.35** Праграма перадач.
**20.40** Музычная калекцыя ГРТ.
**20.50** Хакей. У перапынку — Навіны.
**23.55** Л. Прывіна. «Акардэон».

### Канал «Расія»

**7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00, 24.00** Весткі.
**10.20—11.30** «Гардэмарыны, наперад!» Маст. фільм. 2-я серыя.
**15.10** Чароўны чамадан.
**15.20** «І ніякіх больш прысмакаў». Дак. фільм цыкла «Перамена ў маім жыцці» (Швецыя).
**15.35** Там-там навіны.
**15.50** Каляндар.
**16.20** Расія ў тварах.
**16.45** «Брэменскія музыканты». Мультсерыял.
**17.10** Кліп-антракт.
**17.15** Тэлечасопіс «Здароўе».
**17.25** Белае сонца Адлера.
**17.55** Прасцей простага.
**18.25** Надзвычайны канал.
**19.35** «Санта-Барбара».
**20.30** Гарадок.
**21.05** Шахматны турнір «Крамлёўскія зоркі».
**21.20** Фільм Эльдара Разанава «За беднага гусара закіньце слоўца».
**0.15** Экран крымінальных паведамленняў.
**0.25--1.20** Гарачая дзесятка.

### НТБ

**17.00** «Сямейка Флінстоўн». 17-я серыя.
**17.30** «Багатая жанчына: утрымаць мару». 13-я серыя.
**18.00, 21.00, 23.00** «Сёння».
**18.35** Герой дня.
**19.00** «Вайна і любоў: ацалелы». Маст. фільм (ЗША).
**21.35** «Доктар Куін, жанчына-ўрач». 47-я серыя (ЗША).
**22.30** Часінка.
**23.20** У пошуках прыгод.
**23.50** Меламанія: «Канцэрт караля рок-н-рола Джэры Лі Льюіса».

### Санкт-Пецярбург

**11.55, 12.55, 13.55, 14.55, 15.55, 17.55, 18.55, 19.55, 20.55, 21.55** Інфарм ТБ «Цяпер».
**13.45, 20.35** Тэлеслужба бяспекі.
**14.05** «Паўночныя пісьмы». Погалас мінулых лёсаў.
**15.05** Пушкінскія эцюды.
**15.20** «З Ленінграда ў Пецярбург у агульным вагоне».
**15.50** Стыль жыцця.
**16.05** Маленькія зорачкі.
**16.25** Раўняецца каханне.
**16.55** Спартыўны агляд.
**17.05** Толькі без панікі.
**17.30, 18.00** Паказвае Ленінградская АТК.
**18.35** Вялікі фестываль.
**19.05** «Першае каханне». Серыял.
**20.05** «З Ленінграда ў Пецярбург у агульным вагоне».
**20.45** Што наша жыццё...
**21.00** Спорт.
**21.05** «Парад парадаў» прадстаўляе П. Кіркорава.
**22.05** На ноч гледзячы.
**22.20—0.34** «Новая Шэхеразада». Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі.



# ЯК ЖЫВЕШ, «МАНМАРТР»?

Многія памятаюць, як некалькі гадоў таму на галоўным праспекце Мінска безвынікова ішла барацьба з мастакамі якія заяўлялі аб сваім праве прадаваць творы там, дзе самі пажадаюць.

Парадку ад такога на праспекце не прыбаўлялася. Таму гарадскія ўлады прапанавалі мастакам перабрацца ў невялічкі сквярык, таксама ў цэнтры горада.

— Як жывецца цяпер творцам? — запытаўся я ў члена савета Мінскай гарадской асацыяцыі свабодных мастакоў народнага майстра Дзмітрыя Ільінчыка.

— Стала лепш! У гэтым скверыку гарадскія ўлады ўстанавілі для нас лаўкі, некалькі навесаў — усё бясплатна. Мы самі сочым за чысцінёй сквера, правялі тут суботнік па добраўпарадкаванню.

— Ваш скверык ужо завуць «Манмартрам». Ці далёка яму яшчэ да той запаветнай зоны, дзе мастак мае магчымасць тварыць, прадаваць свае творы, адпачываць?

— Дасць Бог, калі-небудзь і мы атрымаем такія ўмовы! Пакуль жа плануем адкрыць паблізу гандлёвай зоны кафэ, камеру захоўвання, займець невялічкі службовы пакойчык. Будзем праводзіць дзіцячыя вернісажы, дабрачынную распрадажу.

Завітайце ў гэты скверык насупраць будынка кансерваторыі. Нават калі вы нічога і не прыкупіце, майстру будзе прыемная ваша ўвага. Паверце, ён гэтага заслугоўвае.





**На здымках**: на алейках сквера заўжды шматлюдна; мастак Уладзіслаў **Стальмахоў;** тут можна набыць матрошку на любы густ.

**Яўген ПЯСЕЦКі, (фота аўтара).**

## Post Factum

### У гэты дзень...

**30 красавіка 1573 года** нарадзіўся паэт, перакладчык, урач Даніла Набароўскі (памёр у 1640-м). Вучыўся ў Вітэнбергу, Базелі, Арлеане. Слухаў лекцыі Галілео Галілея ў Падуі, стаў прыхільнікам яго вучэння. Жыў у Нясвіжы, прымаў удзел у барацьбе з эпідэміямі на Беларусі. Пісаў вершы і вершаваныя пісьмы са Слуцка, Смалявіч, Дзяляціч, у якіх даў замалёўкі жыцця на Беларусі XVI—XVII стагоддзяў.

**У гэты дзень у 1695 годзе** пачалося ўзброенае выступленне гарадскіх нізоў Слуцка і сялян навакольных вёсак супраць самавольства магнатаў Радзівілаў і Сапегаў.

**30 красавіка 1881 года** нарадзіўся беларускі савецкі паэт Янка Журба (Іван Якаўлевіч Івашын, памёр у 1964-м). Першыя вершы на беларускай мове апублікаваў у 1909 годзе. Асноўныя тэмы творчасці: жыццё беларускага сялянства, абуджэнне нацыянальнай самасвядомасці.

**У гэты ж дзень у 1883 годзе** нарадзіўся Яраслаў Гашак (памёр у 1923-м), чэшскі пісьменнік, аўтар вядомага рамана «Прыгоды бравага салдата Швейка».

**30 красавіка 1945 года** савецкія воіны ўзнялі сцяг Перамогі над рэйхстагам у Берліне.

### Народны каляндар

***Сёння — святы Засім, які (як і святы Савацей), лічыцца апекуном пчол — нездарма яго імя сустракаецца ва ўсіх пчалярскіх замовах.***

На пчальніках абавязкова меўся абразок абодвух святых, прычым Засім быў намаляваны на фоне лесу, у адной руцэ трымаў кацялок, а ў другой — крыж і мяцёлку для зграбання раёў (ці крапіла). На Засіма-пчаляра расстаўлялі вуллі.

У гэты дзень існуе вось якая прымета: калі ў апошні дзень красавіка сонца ўзыдзе ясна — будзе сухое лета, а калі праз хмары — дажджлівае.

### Цікава

***Папугаяў сёння можна сустрэць у многіх дамах. Трымаюць іх зараз у асноўным як экзотыку.***

А наогул жа гэтыя птушкі ў розныя часы займалі рознае месца ў жыцці людзей. У старажытных рымлян яны, напрыклад, асацыіраваліся з вялікай раскошай. Было вельмі прэстыжна трымаць дома размаўляючага папугая, які выкрыкваў: «Хайл кесар!» — «Хай жыве цэзар!». А ўжо ў III стагоддзі нашай эры папугаі перасталі быць экзотыкай у Рыме і ператварыліся ў... ласунак: смажаныя птушкі лічыліся далікатэсам.

А вось на англійскіх радавых партрэтах XVII—XVIII стагоддзяў часта можна бачыць клеткі з папугаямі — на заднім, а то і на пярэднім плане. Экзатычныя птушкі зноў сталі сімвалам — цяпер гэта быў сімвал радавітасці і высокага становішча ў грамадстве.

### А яшчэ быў выпадак...

***Гэтае паведамленне павінна асабліва зацікавіць нашых чыноўнікаў са шматлікіх кантор...***

Антоніо Перэс з мексіканскага горада Веракрус патэлефанаваў, каб удакладніць свой рахунак за ваду, і тэлефаністка злучыла яго з аддзелам водазабеспячэння муніцыпалітэта.

Аднак служачы, зняўшы трубку, не спяшаўся даць адказ. Прачакаўшы дзве гадзіны, раз'юшаны кліент з'явіўся ў кантору з аўтаматычнай вінтоўкай у руках і пусціў яе ў ход. У выніку — трое параненых, на шчасце, няцяжка, забітых не аказалася. 51-гадовага Перэса абвінавацілі ў спробе забойства. Прадстаўнікі ўлады сцвярджаюць, што тэлефон Перэса ўсё яшчэ быў на лініі, калі ён атакаваў муніцыпальную кампанію.

### Праверце...

***Спецыялісты кажуць: тое, як вы ходзіце, перадае ваш характар.***

Калі вы свабодна размахваеце рукамі ад пляча — гэта азначае, што вы вельмі самаўпэўнены чалавек; калі не размахваеце рукамі — значыць жадаеце заставацца непрыметным. Вы сціплы, калі ў вас не энергічная паходка, але вы вельмі здольны, калі пры хадзе пакалыхваеце клубамі. Калі ж вы ставіце адну нагу перад другой, то гэта азначае, што вы — лёгкаўзбуджальны чалавек, а калі пры хадзе рухаецеся як бы ўсім целам — вы дружалюбны, таварыскі чалавек, гэта ж азначае, што вы моцна стаіце на зямлі.

### Традыцыі

***У ноч з 30 красавіка на 1 мая — вальпургіева ноч, свята многіх народаў, у тым ліку і славян, якое звязана са спальваннем нячыстай сілы (па павер'і, яна хаваецца ў старой саломе, а таму спальваецца саламянае чучала).***

Як язычніцкае свята ўрадлівасці, яно было звязана з весялосцю, гульбішчамі, што ў хрысціянскія часы ў Еўропе стала ўспрымацца як шабаш ведзьмаў. Па хрысціянскіх павер'ях, у гэтую ноч ведзьмы распальваюць вялікае вогнішча і скачуць вакол яго, што адлюстроўвае старажытныя абрады земляробаў.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намесніка ў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100634. Індэкс 63850.
Зак. № 1876.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12